16 красавіка 2021 | № 15 (723)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Беларусь спартыўная**

**Стар. 7–18**



# Змірыцца нельга перамагчы

Аксана КОЛБ

**Штодзённыя навіны кожны раз прабіваюць дно. Здаецца, далей няма куды, але, аказваецца, ёсць.**

Штраф за чырвонае паліто, за белыя шкарпэткі з чырвонай палоскай. Суткі за цукеркі. І затрыманне школьніцы за надпіс «Жыве». Закрыццё выставаў і адмена спектакляў. Выкраданні людзей, катаванні на сутках. Беспадстаўныя абвінавачанні і бязглуздыя прысуды. Тое, што адбываецца ў нашай краіне штодня, — нават не абсурд, дакладнага слова гэтаму ўжо няма.

Здавалася б, трэба змірыцца. Зашыцца ў паўсядзённасць, неяк прызвычаіцца, прыстасавацца. Змаўчаць, заціхнуць, не падымаць вачэй. А лепей — з'ехаць падалей, каб не чуць, не бачыць... Хтосьці так і робіць. У спадзеве, што ўсё неяк вырашыцца, а махавік рэпрэсій не зачэпіць.

Здавалася б, яны перамаглі, змаглі запалохаць, загнаць пад плінтус, прымусіць сядзець і не рыпацца. Здавалася б, адчулі сваю сілу — і цяпер прыдушаць усё жывое апошнім акордам. Але, на самай справе, яны адчуваюць не моц і ўпэўненасць, а бяссілле і страх. Бяссілле, бо не могуць спыніць шпацыры ў чырвоным паліто і шкарпэтках з бчб-палоскай. Не могуць ніякімі здзекамі спыніць прагу свабоды і лепшай долі. Забараніць пісаць слова «Жыве». Страх падганяе іх пугай, прымушае рабіць бязглуздыя рэчы, хлусіць самім сабе.

Ці могуць яны перамагчы? Канечне, могуць, але толькі часова. Гісторыя ведае такія прыклады. Можна пасадзіць за краты не сотні нязгодных, а сотні тысяч. Можна забіць дзясяткі тысяч. Можна кожную ноч адпраўляць «варанок» за чарговай ахвярай, якая пагражае стабільнасці. Але, скажыце мне, ці ёсць у гісторыі прыклады, калі гэта іх уратавала? Чым больш жорсткасці і абсурду, чым больш хлусні і прапаганды, тым бліжэй параза.

Таму кожны вечар, гартаючы навінавую стужку і жахаючыся ад прачытанага, я ведаю, што ўсё будзе добра. Бо толькі той, хто сам патанае ў страху, будзе запалохваць і зневажаць. Толькі той, у каго зямля гарыць пад нагамі, намагаецца спаліць вакол усё жывое. І чым больш злосці і рэпрэсій, тым больш у мяне аптымізму і надзеі. І кожную раніцу, калі выходжу на працу і бачу свежы надпіс «Жыве Беларусь!», я разумею, што не адна ў сваіх спадзевах. І мы дакладна ведаем, дзе паставіць коску ў сказе: «Змірыцца нельга перамагчы!»

Канечне, мы стаміліся ад штодзённага трэшу. Канечне, мы жахаемся, калі даведваемся пра чарговы прысуд ці затрыманне. Канечне, нам хочацца проста жыць у нармальнай краіне і дыхаць вольным паветрам. Канечне, мы стаміліся чакаць перамен. Але, як трапна сказаў чэмпіён свету па кікбоксінгу Віталь Гуркоў: «Трэба пратрымацца да 12-га чэмпіёнскага раўнду. Дакладна, палову раўндаў мы ўжо прайшлі. Якімі будуць наступныя раўнды, яшчэ ніхто не ведае. Трэба быць мацнейшымі, больш асцярожнымі і ўважлівымі, не губляць канцэнтрацыі. І ўсё будзе добра. Мы пераможам. Я лічу перамогай, калі ў нас будзе незалежная, вольная Беларусь са сваёй мовай, культурай, гісторыяй... Беларусы — пазітыўныя, таму хочуць адказу на пытанне, калі гэта ўсё скончыцца. Пасля Новага года, вясной, 25 сакавіка, 9 траўня... Давайце не ставіць ніякіх датаў, не падманваць і не падманвацца. Проста рабі, што павінен, і будзе, што будзе».

А тым, хто яшчэ спадзяецца перасядзець, змаўчаць, зноў заплюшчыць вочы, хочацца нагадаць верш Сержука Сокалава-Воюша, напісаны ім у 2001 годзе.

***

*Маўклівых знішчаюць свае і чужыя,*
*Маўклівыя самі знішчаюць сябе,*
*І рыфмы ўстаўляю ў радкі як нажы я*
*З надзеяй, што трэба яны маладзьбе.*

*Яны, маладзьба, яшчэ вырасце ў моладзь,*
*І голас расправіць над светам крыло.*
*Гэй, кат і тыран, хоць пятлю,*
*хоць ярмо ладзь,*
*Усё, што ні зладзіш, — дзярмо і трухло.*

*Паточацца ў норы зласліўцы і хціўцы,*
*Здабудзецца воля юнацкай крывёй,*
*І борздзенька прыйдуць па волю маўкліўцы,*
*Каб моўчкі і прагна нацешыцца ёй!*

*Ды воля не можа няволяю стацца,*
*Хаця й абдымае мацней ад пятлі,*
*І трэба ці крыкнуць, каб разам застацца,*
*Ці моўчкі пакінуць абшары зямлі.*

*— Жыве Беларусь!*
*Ці — ...Long live...*
*Ці — Niech zyje!*
*Абы не маўчанне ў зацятай губе —*
*Маўклівых знішчаюць свае і чужыя,*
*Маўклівыя самі знішчаюць сябе.*

# Партыі, суды, каронавірус

**Штодня ў краіне адбываецца процьма падзей, і каб напісаць пра кожную з іх, не хопіць і цэлай газеты. У нашым дайджэсце мы сцісла сабралі самае асноўнае за тыдзень.**

Павел Латушка заявіў пра намер стварыць палітычную партыю. Ён перакананы, што парламенцка-прэзідэнцкая рэспубліка — найлепшы спосаб пазбегнуць паўтарэння дыктатуры ў будучыні, а ініцыяванне стварэння партыі — інструмент для ціску на рэжым у сучаснасці. Раней пра стварэнне сваёй партыі «Разам» абвясціў палітвязень Віктар Бабарыка.

Вядомы палітолаг і філолаг Аляксандр Фядута знік 12 красавіка ў Маскве. Яго жонка Марына Шыбко вылецела ў расійскую сталіцу на пошукі мужа, які перастаў выходзіць на сувязь. Але ў выніку высветлілася, што Фядута затрыманы КДБ разам з Рыгорам Кастусёвым.

Людзі, якія вызваляюцца пасля сутак, працягваюць заяўляць пра жорсткае абыходжанне з боку адміністрацыі і супрацоўнікаў з арыштантамі. У ізалятарах дастаткова свабодных месцаў, але адміністрацыя наўмысна перапаўняе камеры затрыманымі, ствараючы невыносныя ўмовы. У сваякоў арыштаваных не прымалі прадукты харчавання, кнігі, крыжаванкі, алоўкі, асадкі, сшыткі і іншыя пісьмовыя прыналежнасці. У Мінску, Жодзіна, Магілёве, Бабруйску людзі спяць на падлозе ці на голых дошках на нарах — бялізны не выдаюць, круглыя суткі гарыць святло, арыштаваных прымушаюць слухаць радыё, прысядаць. Камеры заліваюць канцэнтраваным растворам хлоркі, у людзей адбываецца запаленне скуры і слізістых, узнікаюць праблемы з дыханнем. Не аддаюць перадачы, забіраюць кнігі і сканворды, мужчын ставяць на расцяжкі і збіваюць.

Палітык Мікалай Статкевіч паведаміў, што яго будуць судзіць разам з Сяргеем Ціханоўскім, Арцёмам Сакавым, Дзмітрыем Паповым, Уладзімірам Цыгановічам, Ігарам Лосікам. Кожнага абвінавачваюць па арт. 293 ч. 1. Таксама ён напісаў, што пачаў знаёміцца з матэрыяламі справы, якіх назбіралася ажно 110 тамоў, але пазней адмовіўся ад гэтага, бо справа сфабрыкаваная.

Адзін з гучных працэсаў на тыдні ўжо распачаўся. 12 красавіка суд Чыгуначнага раёна Гомеля пачаў разглядаць справу сябраў ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай. На лаве падсудных — чацвёра: Таццяна Канеўская, Юрый Уласаў, Дзмітрый Івашкоў, Аляксандр Шабалін. Іх абвінавачваюць па артыкуле 293 Крымінальнага кодэкса (удзел у масавых беспарадках). Абвінавачанне таксама прад'яўлене і па артыкуле 292 Крымінальнага кодэксу — «захоп будынкаў», а Юрый Уласаў дадаткова абвінавачваецца ў «публічнай абразе прадстаўніка ўлады» (ч. 1 арт. 369 Крымінальнага кодэксу).

У Мінскім гарадскім судзе 12 красавіка пачаўся разгляд крымінальнай справы супраць 25-гадовага інжынера БНТУ Ціхана Осіпава. Яго абвінавачваюць адразу па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: замаху на забойства вайскоўцаў (ч.1 арт. 14 і 362), удзеле ў масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293), загадзя ілжывым даносе (ч. 1 арт. 400). Па версіі абвінавачання, у ноч з 10 на 11 жніўня хлопец удзельнічаў у акцыях пратэсту, наехаў на BMW на пяцярых вайскоўцаў, пасля чаго ўтапіў свой аўтамабіль у вадаёме і заявіў у міліцыю пра ўгон. Ціхану пагражае да 25 гадоў пазбаўлення волі.

У Брэсце па крымінальных артыкулах судзяць 10 чалавек. Ім ставіцца ў віну вывешванне пудзілаў у розных месцах горада, закідванне яйкамі і камянямі апорнага пункту міліцыі, падпал ноччу на бязлюднай вуліцы аўтамабільных пакрышак, размаляваны кіёск «Табакерка». Усё гэта расцэнена як «злоснае хуліганства» (ч. 2 арт. 339 КК), «асабліва злоснае хуліганства» (ч. 3 арт. 339 КК). Таксама ставіцца ў віну злачынства па ч. 1 арт. 309 КК (наўмыснае прывядзенне ў непрыгоднасць транспартнага сродку або шляхоў зносінаў) за замыканне чыгуначных рэек металічным дротам.

Не толькі партызаншчына імкнецца падтачыць рэжым, але і эканоміка. На тыдні курс долара дасягнуў гістарычнага максімуму і падаражэў да 2,6676 рубля. Папярэдні рэкорд курс долара паставіў 28 жніўня мінулага года — тады таргі на біржы скончыліся на адзнацы 2,6631 рубля. Зрэшты, на таргах 13 красавіка курс долара знізіўся да 2,6409 рубля, а курс расійскага рубля вырас да 3,4178 рубля за 100 расійскіх рублёў. Курс еўра стаіць на месцы — 3,1431 рубля. А вось курс біткоіна на крыптабіржы Binance упершыню ў гісторыі перавысіў 62 тысячы долараў, дасягнуўшы на максімуме адзнакі 62,8 тысячы долараў.

Не спадзеючыся на абвал курса, беларускія працоўныя зноў вырашылі паспрабаваць падрыхтаваць агульнанацыянальны страйк, для чага запускаюць рух і платформу, якая так і завецца — «Рабочы рух». Як паведаміў тэлеграм-канал Святланы Ціханоўскай, у адрозненне ад жніўня і кастрычніка, калі праходзілі першыя страйкі, цяпер у працоўных ёсць досвед, сувязі паміж ключавымі прадпрыемствамі, выразны план і падтрымка дыяспар па ўсім свеце.

Не дае расслабіцца беларусам і каронавірус: у Беларусь прыйшла трэцяя хваля, зноў расце колькасць хворых на COVID-19 і пацыентаў з цяжкімі пнеўманіямі. Пры гэтым у краіне стартавала вакцынацыя. Па стане на 12 красавіка колькасць прышчэпленых адной дозай вакцыны склала — 129 899 чалавек, дзвюма дозамі — 41 688 чалавек.

## ЛІСТЫ З-ЗА КРАТАЎ

### «Мы хутка зноў убачымся на Пляцы Перамогі»

«Я не ведаю, што сёння адбываецца ў нашай краіне, у мяне поўны інфармацыйны вакуум. Але, невераемныя беларусы, я ўпэўненая, што хутка мы зноў з вамі ўбачымся на Пляцы Перамогі», — піша Вольга Класкоўская сваёй маці Людміле з-за кратаў гомельскай калоніі №4. Вытрымкамі з ліста палітзняволенай і сваімі перажываннямі падзялілася з «Новым Часам» спадарыня Людміла.

— З болем гавару пра тое, што амаль увесь сакавік мая дачка знаходзілася ў медсанчасці, — зазначае Людміла Класкоўская.

У Гомель Вольгу этапавалі з СІЗА №1 проста з-пад кропельніцы, адразу пасля выраку гарадскога суда. У другі раз ёй тэрмінова спатрэбілася хірургічнае лячэнне.

«Нічога дзіўнага, што арганізм даў такі моцны збой, — тлумачыць сама Вольга. — Траўма галавы пры затрыманні, адзіночнае зняволенне з лужынамі па костку ў турме Жодзіна».

Каб праясніць сітуацыю, Людміла Класкоўская накіравала зварот да кіраўніцтва калоніі: у якім стане дачка, якое лячэнне прызначана? Пасля атрыманага адказу, распавядае маці, яна не можа спаць, нават снатворнае не дапамагае.

— Там, як кажуць, цэлы «букет» у яе, у тым ліку праблемы са шчытападобнай залозай, пагоршыўся зрок. На «Валадарцы» ў камеры кругласутачна гарэла святло, але ўвесь час было вельмі цёмна, а дачка шмат пісала і чытала.

Людміла пракансультавалася са знаёмымі медыкамі, іх адказ адназначны: праблемы Вольгі найперш звязаныя са стрэсам, эмацыянальным напружаннем і нягоднымі ўмовамі ўтрымання.

Але ёсць адзіны станоўчы момант, як піша Вольга: «Стаўленне медыкаў у калоніі добрае, нічога сказаць не магу, і ўмовы ў медсанчасці таксама».

Не паспела Вольга даехаць да Гомеля, як адміністрацыя калоніі №4 адразу ж паставіла яе на прафілактычны ўлік. Бо яна «схільная да парушэння грамадскага парадку».

Сваімі перажываннямі маці палітзняволенай дзеліцца не для таго, каб «паплакаца».

— Сёння ў вялікай бядзе многія сваякі, дзеці і родныя тых, хто пакутуе за кратамі за свае погляды і перакананні. Мне неяк на вочы трапіўся артыкул «У беларусаў жыве страх неяк глыбока». Ну як можна з гэтым пагадзіцца? Пагляд зіце, як годна трымаюцца на судах нашы хлопцы і дзяўчаты, лідары апазіцыі, які гонар, якая вытрымка! Апошнія словы ў судах, якія яны прамаўляюць пасля нечалавечых адсідак за кратамі! Якія прыгожыя, узнёслыя твары, як яны цудоўна выглядаюць, нягледзячы на жудасныя ўмовы ўтрымання! Я, напрыклад, калі слухала на судзе апошняе слова сваёй дачкі, нават уявіць не магла, што яе адтуль забяруць на «хуткай».

Вольга Класкоўская і цяпер супакойвае: «Я ні пра што не шкадую, і я ніколі не прагнуся пад гэтай сістэмай, прайду праз усе выпрабаванні і ніколі не адмоўлюся ад сваіх перакананняў, як бы цяжка ні давялося. Усё міне, а праўда застанецца. А таксама вера ў перамогу, дабро і справядлівасць».

Там, за кратамі, вязні жывуць гэтай надзеяй. Хоць «адмысловая інфармацыйная блакада вельмі напружвае», зазначае палітзняволеная. Ёй выдалі толькі некалькі нумароў «АиФ», «Жаночай газеты», «Нашага слова» і «Здравушкі». Аніводнага нумара «Нашай гісторыі» і «Новага Часу» не прынеслі.

Як піша Вольга Класкоўская, яе выклікаюць у адміністрацыю і знаёмяць з актамі аб знішчэнні гэтых выданняў, матэрыялы якіх «распальваюць нацыянальную і сацыяльную варожасць». Улічваючы, што «рубяць» і шмат лістоў з палітычнай інфармацыяй, Вольга практычна ў суцэльным інфармацыйным вакууме. Але ніякія довады не працуюць унутры гэтай сістэмы, адзначае яна.

Пра побыт маці даведалася ад яе толькі ў апошнім лісце, які атрымала днямі. Бо толькі нядаўна яе перавялі ў атрад.

«Мне тут выдалі целагрэйку, сто гадоў яе не насіла, толькі што ў дзяцінстве, бадай, у вёсцы па прыколе. Яшчэ далі спадніцу, блузку і пінжак. На вопратцы — нашытая бірка з маім прозвішчам. Класіка, дзесьці я ўжо гэта бачыла! Яшчэ я тут часта ўспамінаю свайго прапрадзеда Вацлава Класкоўскага, які адсядзеў 20 гадоў у сталінскіх лагерах. Але ўсе здзекі з боку таталітарнага рэжыму яго не зламалі, ён ніколі не стаяў на каленях!

Я жыву ў секцыі, дзе больш за 30 чалавек. Туалет і ўмывальнікі амаль на 100 чалавек, паколькі на нашым паверсе тры такія секцыі. Таму часам умыцца і пачысціць зубы няма магчымасці. Што тычыцца працы, то мы з Наташай Хершэ адмовіліся шыць вопратку для сілавікоў. Пакуль што ў мяне статус вучня на швейнай фабрыцы, шыю нейкія дробныя рэчы, якія не звязаныя з асноўнай вытворчасцю (вайсковай формай), але што будзе далей, не ведаю.

Я ўсім вельмі ўдзячная за падтрымку. Яна надае сілы і ўмацоўвае веру, што шчырых, неабыякавых беларусаў вельмі шмат, а іх імкненні жыць у вольнай краіне і быць на сваёй зямлі сапраўднымі гаспадармі нязгасныя!» — перадае Вольга.

Яшчэ яна просіць не дасылаць у калонію бандэролі і пасылкі, бо, паводле правілаў, гэта могуць рабіць толькі родныя і сваякі зняволеных.

**Адрас для лістоў: ПК №4. 246035, г. Гомель, вул. Антошкіна, 3.**

### «Галоўную перамогу мы ўжо атрымалі»

Судовая калегія пакінула ў сіле прысуд палітзняволенаму з Лідчыны Вітольду Ашурку: 5 гадоў калоніі агульнага рэжыму. На апеляцыі Вітольд не прысутнічаў, не ўключалі і відэасувязь. Неўзабаве вязня этапуюць у калонію, пакуль невядома, у якую. Але на іншы вынік Вітольд і не разлічваў і працягвае трымацца бадзёра — пра гэта ён піша ў лісце, які атрымала ад яго наша журналістка. Прыводзім ліст у скарачэнні.

«Самая вялікая праблема чалавека як індывідуума — застацца ў самоце і адчуць сваю нязначнасць, нікчэмнасць. Такая самота даводзіць чалавека да вар'яцтва. Але ці самотныя мы з вамі? Нават каб нас змясцілі ў замак Іф, то і там мы не адчувалі б маральнай самоты! Бо мы добра ўсведамляем сабе, што мы — частка беларускай нацыі, супольнасці людзей, аб'яднаных ідэяй пабудовы беларускай дэмакратычнай дзяржавы. Гэтую непарушную сувязь паміж намі нельга забараніць ці знішчыць. Яна належыць толькі нам. Адна з адметнасцяў нашага часу — салідарнасць, а гэта і ёсць тая непарушная сувязь!

А ці маюць салідарнасць нашы ворагі? Рэсурсы захопленай краіны яны маюць. А вось салідарнасці паміж сабою яны якраз-такі і не маюць! Гэта як пабудаваць дом на пяску. Няхай ён і будзе мець моцныя мураваныя сцены, але ён рухне, бо не мае належнага падмурку.

Наша сіла нашмат мацнейшая, чым мы сабе ўяўляем. Падсвядома вораг гэта разумее, таму мы і бачым шалёную мітусню з запалохваннямі і шаманскімі скокамі з бубнам вакол вогнішча — маўляў, мы таксама маем «ідэю саўдэпіі». Смеху варта! А па факце — яны б'юць нас за грошы, а мы смяёмся ім у твар бясплатна. Наш рэсурс — неабмежаваны! Яны садзяць нас у турмы, а мы дапамагаем адно аднаму. Мы пашыраем сваю прастору і ў турмы! Не мы ў аблозе — нашы ворагі адчуваюць сябе прыхаднямі ў акупаванай імі краіне!

Нам застаецца толькі адно — прыняць капітуляцыю знясіленага супастата. І мы гэта зробім! Таму што галоўную перамогу мы ўжо атрымалі — мы адчулі сваю сілу і маральную перавагу.

Памятайце, што 2021 год — год Беларускай Перамогі!»

**Адрас для лістоў: Турма №1. 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Бамбіць Валожын

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Бамбіць Варонеж». Адкуль пайшоў гэты выраз і што ён азначае? Пайшло гэта з анекдота, калі расійскія чыноўнікі ў адказ на заходнія санкцыі прапаноўвалі каго-небудзь разбамбіць. Аказалася, што скідаць бомбы на Рым, Берлін, Лондан ці Вашынгтон нельга — ва ўсіх там альбо дзеці навучаюцца, альбо сваякі жывуць, альбо бізнес. І тады ўзнікла ідэя «бамбіць Варонеж», паколькі там у расійскіх чыноўнікаў ніякіх інтарэсаў няма. А азначае гэты выраз — адказваць на знешнія выклікі так, каб нанесці шкоду ўласнаму народу.**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Вось і Уладзімір Макей, кажучы аб заходніх санкцыях, заявіў, што «любое далейшае ўзмацненне жорсткасці санкцый прывядзе да таго, што грамадзянская супольнасць перастане існаваць. І гэта, я лічу, будзе абсалютна абгрунтавана ў дадзенай сітуацыі». То-бок, практычна адкрытым тэкстам заявіў: у адказ на заходнія санкцыі ўлады будуць узмацняць рэпрэсіі і тэрарызаваць уласны народ.

Такім чынам, Макей збіраецца «бамбіць Валожын» і распісваецца ва ўласнай прафнепрыдатнасці — бяссіллі ўрэгуляваць канфлікт дыпламатычным спосабам.

Ці варта Макею нагадваць, што санкцыі ўзніклі не проста так, а ў адказ на бязмежжа сілавікоў, неймаверны ціск на незалежную прэсу, польскую меншасць, поўнае зневажанне правоў чалавека і больш чым 350 палітвязняў у Беларусі? Думаю, не. Ён чалавек не дурны, што пацвярджаецца яго папярэдняй дыпламатычнай кар'ерай, і сам усё разумее. Але ён не зразумеў — як, увогуле, і ўся ўлада, — толькі аднаго. Таго, што «бамбіць Валожын» ужо не мае сэнсу.

Яшчэ адзін анекдот, — з часоў СССР. Калі ў Палітбюро абмяркоўвалі, чаму ў краіне не хапае мяса, адзін з чыноўнікаў сказаў: «Мы ідзем да камунізму сямімільнымі крокамі. Худоба за намі не паспявае». Макей зноў не паспеў за развіццём грамадства ў Беларусі. Бо ён усё яшчэ ўспрымае «грамадзянскую супольнасць» як «трэці сектар» — няўрадавыя арганізацыі, якія займаюцца пытаннямі па інтарэсах.

Гэтую сетку яшчэ можна разбамбіць. Можна арыштаваць Таццяну Гацура-Яворскую, кіраўніка ініцыятывы «Звяно», можна дапытваць чальцоў не зарэгістраванага праваабарончага цэнтра «Вясна», можна пазакрываць культурныя прасторы і хабы, можна не даваць гастрольныя пасведчанні на канцэртную дзейнасць. Можна паспрабаваць звесці жыццё ў Беларусі выключна да суботнікаў і «Славянскага базару». Гэта сапраўды будзе ўдар па «трэцім сектары» — але ўжо не па грамадзянскай супольнасці.

Грамадзянская супольнасць цяпер іншая. Грамадзянская супольнасць — гэта дваровыя чаты і ТГ-каналы, узаемадапамога, раённыя маршы і вулічныя канцэрты. Гэта «партызаншчына» — упрыгожванне сваіх раёнаў стужкамі, налепкамі, сцягамі і плакатамі. Гэта «самвыдат», лекцыі ў ZOOM і творчыя каналы ў YouTube. Гэта стварэнне сваёй, непадкантрольнай уладзе прасторы, гэта «плошча Пераменаў», «плошча Марыі Калеснікавай», «Каскад» і «Новая Баравая», дваровыя чаяванні і супольныя святы. І, вядома ж, салідарнасць.

Адзін з прыкладаў «бамбёжкі Валожына» ўжо ў наяўнасці. Улады Беларусі прынялі ў першым чытанні папраўкі да Працоўнага кодэксу, дзе прапісваецца права наймальніка звальняць работнікаў за адміністрацыйныя арышты і заклікі да страйкаў. У адказ на гэта Міжнародная арганізацыя працы (МАП) пачала працэдуру «неадкладнага ўмяшання», якая запускаецца ў надзвычайных абставінах для экстранай рэакцыі на сітуацыю з правамі працоўных.

Здавалася б, што ўладам МАП і іншыя прафсаюзы? Але справа ў тым, што МАП — гэта не прафсаюз, як памылкова прынята лічыць. МАП — гэта спецыялізаваная ўстанова ААН, якая займаецца пытаннямі рэгулявання працоўных адносін.

Цяпер Святлана Ціханоўская праз дзяржавы — непастаянныя чальцы Савета Бяспекі ААН ініцыюе чарговыя слуханні па Беларусі ў тым самым Савеце Бяспекі ААН. Калі да яе далучыцца структура самога ААН — МАП, — гэтыя слуханні могуць мець непрыемныя наступствы для беларускай улады. Такім чынам, імкнучыся «разбамбіць Валожын», улады нанеслі ўдар па Драздах.

Улады Беларусі спынілі вяшчанне тэлеканалу Euronews нібыта «з-за заканчэння тэрміну дзеяння раней выдадзенага дазволу на распаўсюд на тэрыторыі Беларусі». А таксама, зноў па новых правілах, заблакавалі сайт naviny.online — «люстэрка» заблакаванай у жніўні 2020 года інтэрнэт-газеты інфармацыйнай кампаніі БелаПАН «Беларускія навіны». Можа, у кабінетах Мінінфармацыі думаюць, што гэта застанецца без увагі міжнароднай журналісцкай супольнасці?

Зрэшты, і тут не ў міжнароднай рэакцыі справа. Знішчаючы незалежную прэсу, кіруючыя структуры застаюцца сам-насам з уласнай прапагандай, якая не дае рэальнай карціны свету, а значыць, звужае магчымасць прыняцця адэкватных рашэнняў. У гэтым выпадку «бамбёжка Валожына» зноў прыводзіць да стратаў улады — не толькі іміджавых, на імідж там даўно наплявалі. Але і да рэальнай немагчымасці прыняцця адэкватных рашэнняў. А значыць, нам зноў варта чакаць крокаў кшталту каманды: «Інфляцыя, стой, раз-два!».

І напрыканцы — парадаксальная, але паказальная навіна са свету спорту. Брэсцкая футбольная каманда «Рух» правяла тры нічыйныя матчы запар. Каб пераламаць сітуацыю, гульцоў адправілі… у адзін з калгасаў Пінскага раёна прыбіраць камяні з поля. У наступным матчы «Рух» абыграў «Іслач» — 1:0.

Цікава, ці адчулі футбалісты «Руху» сябе ў Паўночнай Карэі? Калі не, варта звазіць іх на збор камянёў яшчэ пару разоў. А вось ці задумаўся хто-небудзь з прафесіяналаў «нагамяча», што такі выезд — гэта прамое следства іх маўчання ў жніўні 2020-га і выказванняў, што іх справа — не палітыка, а футбол?

Калі нехта яшчэ кажа: «Я ў палітыку не лезу», — паглядзіце на брэсцкі футбольны клуб. Неўзабаве збіраць камяні на палях Беларусі давядзецца і ім. І гэта не фігуральна.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Наталля Хершэ

**Дзякуючы грамадзянцы Швейцарыі, што знаходзіцца ў папраўчай калоніі №4 Гомеля, мы нечакана даведаліся, што «Новы Час» ужо забаронены.**

Прынамсі, так мяркуе кіраўнік гэтай папраўчай установы. Пра гэта Наталля Хершэ расказала свайму брату Генадзю Касьяну.

Сяброўка, з якой Наталля сядзела на Акрэсціна, падпісала яе на дзевяць перыядычных выданняў. Раней Наталля пісала, што атрымала толькі часопіс Forbes, а падчас размовы з братам распавяла, што выданні прыходзяць, апроч «Новага Часу». Начальнік калоніі сказаў, што яна не будзе атрымліваць гэтае выданне, бо яно, маўляў, забароненае.

«Наталля павінна паведаміць начальніцы атраду, і калі "Новы Час" ёй не будуць выдаваць, то я буду пісаць скаргу ў Дэпартамент выканання пакаранняў, — кажа Генадзь. — Гэта адзіная газета была для яе, дзе яна магла пачытаць нейкія навіны. Інфармацыйны вакуум, які яны робяць для вязняў, — гэта інфармацыйнае катаванне».

Паводле Генадзя, Наталля наракае і на праблемы з лістамі, якія да яе не даходзяць. «Я атрымліваю лісты без лістоў. У канвертах знаходзяцца чыстыя аркушы для адказу, чыстыя паштоўкі, чысты канверт, і гэта ўсё. Карэспандэнцыю адсейваюць на наяўнасць палітычных навінаў, — піша Наталля ў адным з лістоў да брата. — Была ў начальніка адносна знішчаных лістоў. Начальнік сказаў, што там былі цынічныя выразы. Я вельмі сумняюся, што ўсе 28 лістоў іх утрымлівалі».

Наталля мае намер абскардзіць дзеянні кіраўніцтва калоніі, і ўжо даручыла гэта свайму адвакату.



## Андрэй Стрыжак

**Следчы камітэт завёў крымінальныя справы на Аляксея Лявончыка і Андрэя Стрыжака, сузаснавальнікаў фонду BY_help і BYSOL.**

Іх дзеянні кваліфікаваныя па ч. 2 арт. 342 (іншая падрыхтоўка асоб для ўдзелу ў групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак) і арт. 361-2 (фінансаванне дзейнасці экстрэмісцкага фарміравання).

«Падчас следства атрыманыя доказы аб фінансаванні BYSOL дзейнасці раней прызнанага УСК па горадзе Мінску экстрэмісцкага фармавання, створанага ў выглядзе аб'яднання дэструктыўных дваровых чатаў», — гаворыцца ў паведамленні СК. Стрыжак і Лявончык прызнаныя абвінавачанымі і абвешчаныя ў міждзяржаўны вышук. Пад «фінансаваннем экстрэмісцкага фарміравання», як вынікае з паведамлення, СК разумее аплату адміністрацыйных штрафаў удзельнікаў пратэстаў.

Варта адзначыць, што BY_help быў створаны ў 2017 годзе. А ў 2020-м валанцёры фонда перадалі ў бальніцы безліч медычнага абсталявання і ахоўных сродкаў для лекараў.

## Рыгор Кастусёў

**Увечары 12 красавіка, старшыня Партыі БНФ быў затрыманы па крымінальнай справе. Пра якую справу ідзе гаворка, пакуль невядома.**



Кастусёў быў затрыманы ў сябе ў Шклове каля сямі вечара і дастаўлены ў Мінск. Пра затрыманне родныя даведаліся са званка супрацоўніка КДБ. Ён паведаміў, што Рыгор Кастусёў затрыманы па крымінальнай справе як падазраваны і змешчаны ў турму КДБ. Артыкул звыклы — 342 (дзеянні, якія парушаюць грамадскі парадак).

Кастусёў займаецца палітычнай дзейнасцю больш за 30 гадоў. З 2009 года ён быў намеснікам старшыні Партыі БНФ, а ў 2017-м узначаліў партыю, летась быў пераабраны. У 2010-м Кастусёў быў кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах і разам з іншымі быў затрыманы за арганізацыю акцыі пратэсту. Пасля яго заявы для БТ, што пратэст быў правакацыяй, Кастусёва адпусцілі, асуджаны ён не быў. У далейшых прэзідэнцкіх выбарах асабіста не ўдзельнічаў.

Не прымаў актыўнага ўдзелу Кастусёў і ў выбарах 2020 года і падзеях пасля іх. Ён быў адзіным прадстаўніком апазіцыі, які пайшоў на дыялог з адзначаным Юрыем Васкрасенскім «Круглым сталом дэмакратычных сіл». Але ён толькі выступіў у адной перадачы на АНТ, патлумачыўшы гэта жаданнем данесці сваю пазіцыю да тэлеаўдыторыі, і далей у «круглых сталах» не ўдзельнічаў.

# Дзесяць гадоў прайшло, а пытанні застаюцца

Сяргей ПУЛЬША

**Дзесяць гадоў таму, 11 красавіка, на станцыі метро «Кастрычніцкая» выбухнула саматробнае выбуховае прыстасаванне. На момант выбуху на станцыі знаходзіліся каля 300 чалавек, яшчэ некалькі соцень былі ў цягніку, што прыехаў у бок станцыі «Інстытут Культуры». Непасрэдна ад выбуху і пасля, у шпіталях, загінулі 15 чалавек, больш за 400 пацярпелі.**



Фота Yasinskiy



Вінаватымі былі прызнаныя 25-гадовыя хлопцы: Дзмітрый Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў. Іх потым прысудзілі да расстрэлу — і прывялі вырак у выкананне. Аднак у той час адбылася цікавая рэч: паводле тагачасных даных праваабаронцаў, колькасць прыхільнікаў смяротнага пакарання ў грамадстве знізілася. Па факце гэта азначае, што беларусы не паверылі ў афіцыйную версію вінаватасці Кавалёва і Канавалава. І сапраўды, тыя падзеі і судовы працэс над абвінавачанымі дагэтуль выклікаюць багата пытанняў.

## Самае бяспечнае месца?

Кажуць, «снарад два разы ў адну варонку не трапляе», і таму пад абстрэлам самае бяспечнае месца — у варонцы ад снараду. Праз дзве гадзіны пасля выбуху на станцыі «Кастрычніцкая» з'явіліся староннія людзі. А менавіта — Аляксандр Лукашэнка. Прычым не адзін, а з тады яшчэ 6-гадовым Колем. Яны не толькі агледзелі месца тэракту, але і, як пісала афіцыйная прэса, першымі ўсклалі туды кветкі.

Гэта адзін факт, які можна трактаваць як заўгодна. Багата аналітыкаў задаліся пытаннем: дзе была Служба бяспекі кіраўніка дзяржавы? Чаму яны былі ўпэўненыя, што там няма другой бомбы, закладзенай непадалёк? Вядома, за дзве гадзіны сапёры маглі праверыць усю станцыю метро на прадмет выбухоўкі (і сумежную з «Кастрычніцкай» «Купалаўскую» таксама). Але гэта — толькі праца сапёраў. На месцы павінны былі працаваць і іншыя людзі.

Уявіце сабе раскладку па часе: выбух са шматлікімі пацярпелымі. Станцыя закрываецца, паўгадзіны працуюць медыкі — забіраюць целы нябожчыкаў і параненых. Уявім, што гадзіну працуюць сапёры: усё ж нават пры «экспрэс-праверцы» больш-менш пільна абысці дзве станцыі хутка не атрымаецца. Да таго ж на месцы тэракту — мноства безгаспадарных рэчаў, што пакінулі людзі, і кожная з іх — патэнцыйная выбухоўка. Але ўсё ж дадзім сапёрам гадзіну.

Праз паўтары гадзіны на месца заступаюць эксперты і следчыя. Яны раскладваюцца, пачынаюць працаваць: збіраць рэчавыя доказы, шукаць сляды выбухоўкі, паражальныя элементы прыстасавання, разбіраюцца, што можна аднесці да доказаў, а што не… І тут прыходзіць (з пункту гледжання спецыялістаў) немаведама хто, і — плясь кветкі на тое самае месца, якое павінна вывучацца пад мікраскопам…

Усё гэта дало падставы сцвярджаць, што ўлады загадзя ведалі — там бяспечна. Таму і пайшлі гуляць плёткі пра датычнасць уладаў да гэтага выбуху.

І гуляюць дагэтуль. Не так даўно былы «алмазавец» Ігар Макар заявіў: у яго ёсць доказы, што выбухоўка была закладзеная не на паверхні перону (паводле афіцыйнай версіі, Канавалаў паставіў торбу з выбуховым прыстасаваннем пад лаву), а ўнутры платформы. Зразумела, «тэрарысты-самавукі» не маглі гэтага зрабіць.

Нагадаем яшчэ і тагачасную палітычную сітуацыю: грамадства ўзрушанае «Плошчай–2010», расколатае, ва ўсю моц рыхтуюцца крымінальныя справы над удзельнікамі прэзідэнцкай кампаніі. Ля КДБ — вялізныя чэргі адвакатаў і родных з перадачамі… І тут — тэракт, які, па-першае, у пэўнай ступені змусіў грамадства кансалідавацца, і па-другое — адцягнуў увагу ад палітычных працэсаў. Шмат хто адразу задаўся пытаннем: «Каму выгадна?» І на гэтай падставе зрабіў далёка ідучыя высновы.

Калі праводзіць паралелі, прыкладна тое ж адбываецца і цяпер. Некаторыя не разумеюць рыторыку ўлады, якая ледзь не навучае ўдзельнікаў мірных беларускіх пратэстаў больш-менш узброенаму супраціву. Нам шмат кажуць пра «бутэлькі з гаручай сумессю», «арматуру», «супраціў міліцыі», «раз'юшаных дэманстрантаў» і гэтак далей. Канешне, нічога з гэтага мы не бачылі на вуліцах Мінска. Але ўладам, гледзячы на іх рыторыку, вельмі б хацелася, каб нейкая падзея, нават можа жахлівая, зноў кансалідавала грамадства ў патрэбным рэчышчы. І пажадана, каб у гэтай падзеі можна было абвінаваціць каго-небудзь іншага.

## Справядлівы суд?

Тое, што ўлады праз двое сутак затрымалі «тэрарыстаў», не дзіва: як кажуць адмыслоўцы, такія рэчы лепш за ўсё раскрываюцца «па гарачых слядах». Але і тут не абышлося без пытанняў.

Кажуць, што Канавалаў, калі пайшоў закладаць выбухоўку, быў п'яны. Вы верыце, што п'янтос будзе гойсаць з бомбай па горадзе? Пры гэтым маючы рызыку, што яго ў метро проста не пусцяць — бо ён у нецвярозым стане?

Суд дагэтуль выклікае ў мяне пачуцці незразумелай пастаноўкі, найперш, з паводзінаў Канавалава на судзе. На пытанні суда, навошта Канавалаў зрабіў тое, што ён нібыта зрабіў, той адказваў адной фразай: «У мэтах дэстабілізацыі абстаноўкі ў Рэспубліцы Беларусь». У чым павінна была выявіцца дэстабілізацыя, чаму ён думаў, што выбух дэстабілізуе абстаноўку, што ўвогуле ён меў на ўвазе пад вызначэннем «дэстабілізацыя» — нуль адказаў. Паўтараецца адна фраза: «у мэтах дэстабілізацыі абстаноўкі»…

Канешне, людзі так не гавораць. Затое такі падсудны — гэта проста мара следчага і абвінавацаў.

Канавалаў потым увогуле адмовіўся ад паказанняў. Бачна, яго ніхто не навучыў, як адказваць на няўручныя пытанні.

Кавалёў жа заявіў пра сур'ёзны ціск з боку следчых — яго дапытвалі ўначы, некалькі разоў «праганялі» паказанні, запалохвалі тым, што ён будзе саўдзельнікам тэракту, і ўвогуле, «чым больш скажу, нагавару, тым лепш для мяне». Гэта ўсё рабілі супрацоўнікі ГУБАЗіК — сёння мы ўжо ведаем, хто яны такія. І асабліва папярэджвалі, каб ён не падумаў змяніць свае паказанні на судзе.

У вінаватасць падсудных у працэсе не паверылі нават пацярпелыя ў тэракце. Некуды зніклі таямнічыя «сведкі», што апазналі Канавалава і Кавалёва па фотаробатах. Зніклі відэазапісы, з якіх рабіліся фотаробаты. Нягледзячы з пытаннямі дзяржабвінавацаў пацярпелыя выказвалі каментарамі і гулам. Не вытрымаўшы, адзін з пракурораў заявіў: «Калі вы такія абаронцы, то ідзіце і сядайце побач з імі», — паказаўшы на клетку, у якой знаходзіліся Канавалаў і Кавалёў…

Варта зазначыць, што кіраўніком следчай групы быў Андрэй Швед — той самы, які 9 верасня 2020-га быў прызначаны генеральным пракурорам Беларусі, і пры якім не заведзена ніводнай крымінальнай справы на бязмежжа сілавікоў пасля выбарчай кампаніі.

**На пытанні суда, навошта Канавалаў зрабіў тое, што ён нібыта зрабіў, той адказваў адной фразай: «У мэтах дэстабілізацыі абстаноўкі ў Рэспубліцы Беларусь». У чым павінна была выявіцца дэстабілізацыя, што ўвогуле ён мае на ўвазе пад вызначэннем «дэстабілізацыя» — нуль адказаў**

## «Іншым разам не да законаў»

«Ніколі такога не было — і вось зноў», — цяпер улюбёная прыказка беларускіх праваабаронцаў. Фразу «іншым разам не да законаў», якую сказаў Лукашэнка, трактуюць як навіну. Але ці навіна гэта?

Адразу ж пасля затрымання Канавалава і Кавалёва Лукашэнка заявіў, што знайшлі «вінаватых» у тэракце, і іх расстраляюць. БТ, у сваім стылі, пачало рабіць з Канавалава і Кавалёва бяздушных монстраў, калі следства было нават не скончанае.

Яшчэ да расстрэлу асуджаных больш за пяцьдзясят тысяч беларусаў паставілі подпісы пад размешчанай у інтэрнэце петыцыяй з патрабаваннем захаваць жыццё Канавалаву і Кавалёву. Многія падпісанты выказалі сумневы як у справядлівасці прысуду, так і ў вінаватасці асуджаных. Прадстаўнікі міжнародных праваабарончых арганізацый прывезлі ў Мінск і перадалі ў Адміністрацыю прэзідэнта больш за 250 тысяч подпісаў пад заклікам скасаваць смяротнае пакаранне ў Беларусі і не расстрэльваць Кавалёва і Канавалава.

Уладзіслаў Кавалёў і Дзмітрый Канавалаў былі расстраляныя 15 сакавіка 2012 года. Пры гэтым у Кавалёва ў Вярхоўным Судзе знаходзілася наглядная скарга на яго прысуд, якую падаў адвакат. Самога адваката да Кавалёва не пусцілі, і Кавалёў яе падпісаць не змог.

Варта зазначыць, што скарга ў парадку нагляду — гэта адзіны шанец абскардзіць рашэнне Вярхоўнага Суда. Такім чынам, Кавалёва расстралялі, не зважаючы на яго правы на абскарджанне.

«Іншым разам не да законаў» яскрава здарылася 9 гадоў таму.

## «Не забудзем, не даруем»

Гэтая фраза — адзін з лозунгаў сённяшняга беларускага супраціву. Аднак яна вельмі пасуе і да той сітуацыі: нягеглае следства, калі паказанні, хутчэй, выбіваліся, дзіўны суд, які не зважаў на нестыкоўкі ў справе, заўчасны вырак наконт яшчэ юрыдычна не вінаватых людзей з боку вышэйшага кіраўніцтва краіны, заўчасны расстрэл, які выглядаў не на пакаранне, а на спробу «схаваць канцы ў ваду»…

Міжволі цяпер задумваешся: а можа сапраўдны выканаўца тэракту ў Мінскім метро ўсё яшчэ ходзіць сярод нас? І ездзіць праз тую ж «Кастрычніцкую»?

У справе тэракту на «Кастрычніцкай» яшчэ багата белых плямаў. І трэба мець добрую памяць, каб потым, калі ў нас урэшце будзе нармальнае следства, проста хаця б давяздаць: ці тых людзей забілі «імем Рэспублікі Беларусь»? Нашым з вамі імем.

# Сяргей Зікрацкі: «Калі дачцэ споўнілася 14, прынёс ёй Крымінальны кодэкс»

**Сяргей Зікрацкі — вядомы беларускі адвакат. Раней ён не браўся за крымінальныя справы, але 2020 год усё змяніў. У канцы сакавіка яго пазбавілі ліцэнзіі — у цяперашніх умовах было б дзіўна, каб гэтага не здарылася. Сяргей часта распавядаў пра працу, таму «Наша Ніва» вырашыла спытаць пра асабістае — пра брата-блізнюка, бурнае студэнцтва, дачок і захапленне трыятлонам.**

***— У якой сям'і вы раслі?***

— У звычайнай беларускай сям'і. Мае бацькі былі інжынерамі, тата працаваў на заводзе, маці — у інстытуце. Потым яна зразумела, што ёй там не падабаецца, сышла і доўгі час займалася выключна сям'ёй.

***— З братам вы найлепшыя сябры?***

— Так, мы з ім часта сустракаемся і абмяркоўваем усё, што ў нашым жыцці адбываецца. Мы з дзяцінства сябравалі, заўсёды былі разам — у школе, ва ўніверсітэце.

Мы паступілі на адну спецыяльнасць. Паколькі ён і я юрысты, у нас прафесійныя інтарэсы супадаюць. І паколькі мы блізняты, часам нават кліенты нас блытаюць. Падыходзяць да мяне: «Дзмітрый, добры дзень».

Цяпер брат меней вядомы за мяне, бо працуе звычайным юрыстам, не ходзіць у суды, у медыя не свеціцца. Але ён добра вядомы ў прафесійным асяродку — Дзіма працуе з бізнесам. У юрыдычнай справе ён значна раней за мяне і больш дасведчаны, бо сышоў туды адразу пасля ўніверсітэта.

***— Вы былі ў «Задзіночанні беларускіх студэнтаў», узначальвалі камісію па абароне правоў. Задавалі жару адміністрацыі?***

— У сваім універсітэце не — я задаваў жару ў іншых. У БДЭУ усё было ціха, спакойна, даволі дэмакратычна. А вось у іншых у студэнтаў узнікалі праблемы. Гэта былі тыя часы, калі можна было проста зайсці да рэктара і абурыцца: што вы тут робіце?!

Аднойчы мы паехалі ў Брэст — там студэнтам павялічылі кошт навучання, калі семестр ужо пачаўся. Мы з Мінска сабралі каманду, тры ці чатыры чалавекі. Прыйшлі ў прыёмную да рэктаркі — яна нас павяла ў планава-эканамічны аддзел. Там цётачкі спрабавалі нам нешта патлумачыць, а мы ім паказвалі законы. І ў выніку адмянілі той загад аб павышэнні кошту навучання, і паднялі кошт толькі з наступнага семестра.

Памятаю, як хлопцаў з Горак выключылі з універсітэта. І мы таксама паехалі туды. Дэкан факультэта спрабаваў нам нешта патлумачыць — я не ўяўляю, каб цяпер хтосьці з адміністрацыі ўніверсітэта пачаў са студэнтамі размаўляць. А тады гэта было абсалютна нармальна, кіраўніцтва апраўдвалася перад намі. Гэта былі 1999–2001 гады.

***— Чаму тады гэта было магчыма?***

— Сістэма была іншая. Мы ў гэтай сістэме жывём 26 гадоў, і гайкі зацiскалі паступова. Мы і пікет студэнтамі ладзілі, афіцыйна атрымалі дазвол. Ліставаліся з дзяржаўнымі органамі, пісалі, што яны незаконна размяркоўваюць студэнтаў.

***— А што за гісторыя была, калі вы змаглі выйграць суд у ваенкамата?***

— Вельмі забаўная гісторыя. Апошні курс універсітэта, заканчваецца адтэрміноўка ад войска — і нас пачынаюць выклікаць на медкамісію. Мы разумеем, што ёсць тры варыянты не пайсці служыць: паступіць у аспірантуру, зрабіць дзіця ці адкасіць па стане здароўя. У якасці асноўнага варыянта абіраецца аспірантура, але трэба мець і запасны. Было ў мяне нейкае захворванне на вочы. Далі накіраванне ў шпіталь на абследаванне і адразу ж позву вярнуцца ў пэўную дату ў ваенкамат. Я прайшоў абследаванне і пасля ўсіх іспытаў вырашыў з сябрамі зваліць у Чэхію. Гэта адна з маіх найлепшых вандровак: электрычкамі дабіраліся да Прагі, жылі ў нейкім хостэле…

Вярнуўся — судовы выканаўца выклікае на выплату штрафу. Іду да яго, а ён: «Вас ваенкамат прыцягнуў да адказнасці за тое, што вы не прыйшлі па позве». У адміністрацыйным кодэксе прапісана, што спачатку мусяць запрасіць на складанне адміністрацыйнага пратаколу, пасля на разгляд справы — нічога з гэтага не было зроблена. Я пайшоў у суд аспрэчваць штраф.

Ад ваенкамата быў маёр Рынкевіч: трос анкетай, дзе на пытанне, у якіх войсках хочаце служыць, я напісаў «служыць не жадаю». Я аргументаваў: можа, я і дрэнна паступіў, што не прыйшоў, але ваенкамат няправільна прыцягнуў мяне да адказнасці. Пасварыліся, але суддзя вынес рашэнне на маю карысць.

***— У войску ў выніку служылі?***

— Не. План А спрацаваў — паступіў у аспірантуру. Потым нарадзілася дзіця.

***— Быць бацькам трох дачок складана?***

— Я не лічу, што бацькам быць складана. Гэта закладзена прыродай. Ты перадаеш свае веды, досвед, светаўспрыманне людзям, якія табе блізкія. На мой погляд, гэта абсалютна натуральнае жаданне любых бацькоў, каб дзеці выраслі такія ж, як яны.

Каб адказаць, ці складана паразумецца з дзяўчынкамі, трэба з нечым параўнаць. У мяне такога досведу не было.



***— Дочкі ўжо знаёмыя з азамі права?***

— Старэйшая так. Яна цяпер у апошнім класе Ліцэя БДУ, на філалагічным профілі. Што да малодшых… Разумееце, калі мы выхоўваем дзяцей, мы ўжо, фактычна, закладаем у іх азы права, таму што мы тлумачым, што добра, а што дрэнна, што можна рабіць, а што не.

Са старэйшай дачкой мы даволі часта абмяркоўваем канкрэтныя сітуацыя і тое, як яны рэгулююцца законам. Калі ёй споўнілася 14 гадоў, я ўзяў Крымінальны кодэкс і паказаў ёй артыкулы, па якіх наступае адказнасць з 14. І Ганна тады пайшла ў школу і зрабіла прэзентацыю для сваіх аднакласнікаў аб тым, што нельга рабіць. Там жа ў тым ліку і артыкул, звязаны з наркотыкамі. А гэта быў той год, калі «Маці 328» абвясцілі галадоўку. Тая сітуацыя мяне вельмі кранула: калі маці нічога не могуць зрабіць, а іх дзеці сядзяць у турме з-за таго, што спрабавалі зарабіць хуткія грошы і працавалі закладчыкамі. Тады я патэлефанаваў класнай і прапанаваў прыйсці расказаць дзецям пра наркотыкі і тое, што можа быць у гэтай сітуацыі.

***— У вас хапае часу і на спорт. Як захапіліся трыятлонам?***

— Я непрафесійна гэтым займаюся. Я заўсёды любіў плаваць. Побач з нашым домам быў басейн, і мы з дзяцінства хадзілі туды. Памятаю гэтыя чэргі, дзе трэба было стаяць гадзіну, каб набыць абанемент. Потым у маім жыцці з'явіўся веласіпед, мне гэта таксама спадабалася. На доўгія вандроўкі па 30–50 кіламетраў я пачаў выбірацца, калі першая дачка нарадзілася. А потым у нейкі перыяд зацікавіўся бегам. Спачатку 10 кіламетраў адолеў, пасля паўмарафон. І ўсё гэта склалася разам.

***— Цікавы ў вас від з акна (на Кальварыйскія могілкі).***

— У гэтым будынку вокны выходзяць або на дзіцячы садок, або на могілкі. Мне ўсё роўна, на што глядзець: там мы жыццё пачынаем, тут заканчваем. Але са мной працуюць яшчэ дзяўчаты. І таму спачатку мы знялі офіс на іншы бок. Тады офісы з відам на садок былі на адзін еўра за квадрат даражэйшыя.

Потым мы пачалі расці, трэба было шукаць большае памяшканне. І такі офіс знайшоўся толькі на гэтым баку.

Калі да мяне прыходзіць кліент, ён сядае тварам да акна. Ты пытаешся: якія ў вас праблемы. А кліент глядзіць на могілкі і разумее, што ў прынцыпе праблем у яго няма — ён прыйшоў вырашыць пэўныя пытанні.

Гэта пра тое, як змянілася маё светаўспрыманне ў 2020 годзе. Калі ты заходзіш у СІЗА, ідзеш па гэтых калідорах і бачыш краты на вокнах, сустракаешся з кліентам у маленькім пакойчыку, ты ў ім адчуваеш сябе няёмка, а кліент кажа, што тут прастора. І пасля таго, як ты выходзіш, разумееш, што ў тваім жыцці ўсё класна. Калі людзі, якія нічога не зрабілі, сядзяць у СІЗА, а потым іх кідаюць у калоніі, ты разумееш, што ўсе нашы клопаты ў параўнанні з іх — гэта ўвогуле не праблемы.

Не мае розніцы, зараз ясна на вуліцы ці ідзе дождж, здараецца ў цябе прыемнасць ці непрыемнасць. Ты жывы, здаровы, з тваімі роднымі ўсё ў парадку, усе маюць грошы для таго, каб харчавацца, і могуць сустракацца з блізкімі — дык пра якія праблемы мы гаворым?

***— Вам за гэтыя месяцы было страшна?***

— Мне не было страшна — я маральна быў падрыхтаваны. Разумеў, што ў нашай краіне любы чалавек можа трапіць за краты. І я гатовы да таго, што мяне таксама могуць схапіць.

Трапіць за краты — гэта выпрабаванне для любога чалавека. Але жыццё працягваецца. Мы ведаем, што мы гэтае выпрабаванне пройдзем — і далей нас чакаюць іншыя выклікі і дасягненні. Так, гэта непрыемна — патрапіць у турму ці калонію, але гэта скончыцца. І ў тых, з кім я размаўляю ў СІЗА, тое ж самае разуменне. Яны ведаюць, што рабілі ўсё абсалютна правільна, яны выйдуць і будзе новае жыццё.

***— Вы пісалі Бабарыку, калі ён толькі абвясціў пра намер ісці ў прэзідэнты, з прапановай юрыдычнай дапамогі. Чаму яму?***

— А каму яшчэ? Вы ж памятаеце, як гэта ўсё адбывалася. У нас быў Лукашэнка, які ідзе на выбары. Была купка кандыдатаў, якая ўдзельнічала ў праймерыз, але яны, як звычайна, паспелі пасварыцца, яшчэ не дасягнуўшы ўлады. Я шмат каго з іх ведаю, і гэта цудоўныя людзі, яны жадаюць дапамагчы краіне, але мне не хацелася з імі працаваць у камандзе менавіта з-за таго, што яны ўжо паспелі пасварыцца. Тут з'яўляецца Цапкала — гэта як пярун з яснага неба. Усе пачынаюць абмяркоўваць, чый гэта праект.

І тут Бабарыка. Чалавек, за якім ты пэўны момант назіраў, вельмі любіў яго інтэрв'ю, якія ён даваў апошнім часам, таму што яго светаўспрыманне на 90% супадае з тваім.

Я тады зразумеў, што ёсць шанец, што ў нашым грамадстве нешта зменіцца, і калі я магу хоць нейкім чынам дапамагчы гэтаму, я мушу гэта зрабіць. Адзіны кантакт, які ў мяне быў, гэта фэйсбук Бабарыкі. Я напісаў яму ў месенджар: у вас, напэўна, ужо ёсць юрыст, але калі я магу чым-небудзь быць карысным, я гатовы далучыцца да каманды. Не паклікалі.

***— Пасля таго, як вас пазбавілі ліцэнзіі, ці шмат прапаноў па працы атрымалі?***

— Кліенты, якія са мной працавалі, вельмі жадаюць працягваць супрацоўнічаць. Але ім не патрэбны штатны юрыст. Такіх кліентаў, каму патрэбны штатны юрыст майго ўзроўню, на рынку вельмі мала. У мяне была свая фірма, і калі мне ісці працаваць у штат, трэба пераходзіць кіраўніком юрыдычнага аддзела буйнога холдынгу, дзе таксама будуць у падпарадкаванні тры-чатыры юрысты і вялікі ахоп кірункаў. Гэта не тая пазіцыя, якая з'яўляецца на рынку штомесяц, — такія прапановы з'яўляюцца добра калі два-тры разы на год.

***— Якія планы ў вас?***

— Збіраюся адкрыць сваё ІП. Я юрыст, які працуе з бізнесам. Толькі ў 2020 годзе многія пачалі займацца не тым, чым раней, — і я таксама, бо раней ніколі не браўся за крымінальныя справы. Я пачаў выкарыстоўваць сваю адвакацкую ліцэнзію цалкам. Цяпер у мяне такой магчымасці не будзе. Але ёсць магчымасць атрымаць ліцэнзію на юрыдычныя паслугі — гэта выключна кансультаванне юрыдычных асоб.

А ліцэнзію выдае Мінюст. Таму пытанне да іх: калі вы хочаце, каб Зікрацкі займаўся працай, дайце яму ліцэнзію на юрпаслугі. Мне падаецца, менавіта гэтага вы хацелі, калі арганізоўвалі пазачарговую атэстацыю, каб пазбавіць мяне ліцэнзіі. Вы гэтага дабіліся. Дайце мне магчымасць далей працаваць.

**Наталля Лубнеўская, фота Надзеі Бужан, nn.by**

# «Я павінна праз усё гэта прайсці, каб проста быць шчаслівай»

Дзіяна СЕРАДЗЮК


Фота Яны Трусіла


Фота з сацсетак Яўгена Бароўскага

**Палітвязню Яўгену Бароўскаму 2 красавіка прысудзілі 4 гады калоніі агульнага рэжыму. За тры дні да гэтага Яўген і яго дзяўчына Вераніка пабраліся шлюбам у СІЗА №1 на Валадарскага. Вераніцы 20 гадоў, Яўгену на 10 больш, але іх яднае тое, што абодвум з самага дзяцінства выпалі цяжкія выпрабаванні.**

### «Жэню забралі»

Вераніка сама прапануе падзяліцца іх гісторыяй — Яўген прасіў, каб яна ўсім распавядала пра тое, што ён сядзіць ні за што. Але словы даюцца дзяўчыне няпроста. У свае 20 гадоў Вераніка вельмі стрыманая і нібыта паглыбленая ў сябе — так бывае ў людзей, якія прывыклі пры вырашэнні праблем разлічваць толькі на сябе. Моц характару Веранікі праявілася і ў тым, што год таму яна сама зрабіла першы крок у знаёмстве з Яўгенам. Яе захапіла тое, што ён старэйшы і больш дасведчаны за яе, побач з ім яна адчувае: ёй ёсць куды расці.

Яе каханы — спакойны, добры і спагадлівы хлопец, які заўжды прыйдзе на дапамогу. Ён працаваў на будоўлях, цікавіўся футболам, беспамылкова мог назваць даты падзелаў Рэчы Паспалітай. Аднойчы Яўген абмовіўся, што марыць пра 11-ы Айфон, і Вераніка набыла яго для хлопца — таму што мары павінны здзяйсняцца, хаця ў яе гэтага ніколі не было. Але новым тэлефонам Яўген так і не паспеў скарыстацца — бо народзіны 30 кастрычніка сустрэў у СІЗА.

— Калі яго забралі 15 кастрычніка, я падумала, што з мяне жартуюць. Я была дома, чакала, калі ён вернецца з працы, прыгатавала ежу. І тут заходзіць яго сябра, з якім ён паехаў на працу, увесь трасецца і кажа: «Жэню забралі», — узгадвае Вераніка.

Пасля працы хлопцы зайшлі ў краму, а на выхадзе Яўгена скруцілі пяць чалавек у балаклавах, збілі і забралі — пазней высветлілася, што гэта былі супрацоўнікі ГУБАЗіК. Потым у кватэру да Веранікі і Яўгена прыехалі з ператрусам, але забралі толькі Яўгенавы красоўкі. Знаёмы, блізкі да сілавых структур, казаў дзяўчыне, каб яна не перажывала — затрыманага патрымаюць пару тыдняў і адпусцяць. Але ўвечары па беларускім тэлебачанні выйшаў пастановачны рэпартаж, дзе Яўген дае паказанні.

Яўгена Бароўскага абвінавацілі ў тым, што 11 кастрычніка ў раёне метро «Пушкінская» ён і яшчэ трое мужчын перашкодзілі амапаўцам затрымаць чалавека, уступілі з імі ў бойку, нанеслі некалькі ўдараў па галовах і разбілі шкло ў службовым аўтамабілі. Хаця на прадастаўленых відэа бачна, што Яўген стаіць убаку ад амапаўцаў.

— Яго сябра, Паша, які паклікаў яго на мітынг, стаў хавацца, а потым даў ілжывыя паказанні. Цяпер ён у Польшчы, — гаворыць дзяўчына. — У той дзень Жэня не хацеў ісці ні на які мітынг, ён хацеў пабыць дома. Яму Паша тэлефанаваў і заахвочваў. Яны схадзілі ў кавярню, потым я тэлефанавала яму, ён казаў, што на «Пушкінскай» і не ведае, як будзе дамоў дабірацца — тут такое робіцца... Я ведаю, што яны недзе хаваліся, а потым ён прыехаў дамоў увесь напалоханы, гаворыць: «Мяне на відэа запісалі, напэўна, мяне пасадзяць». Я падумала — што за трызненне: на тым відэа ён нічога не робіць, проста стаіць, махае рукамі. Але ў выніку сямі супрацоўнікам трэба заплаціць па 3000 рублёў кампенсацыі, хаця нічога не зафіксавана, пабояў яны не здымалі.

Затое самому Яўгену ў бусе неаднаразова «прылятала» дубінкай: супрацоўнікі задавалі пытанне, давалі 5 секунд на адказ, і калі ён казаў не тое, што ад яго хацелі пачуць, — білі. Пра гэта вязень заявіў на судзе.

### На дзень народзінаў прапанаваў ажаніцца

— Я прыйшла на суд, як у цырк. Яму ў віну паставілі тое, што ён прыняў баявую стойку і тым самым напалохаў супрацоўнікаў. І за гэта — 4 гады і выплачваць маральную шкоду супрацоўнікам і «Мінсктрансу»? — усё яшчэ здзіўляецца абсурднаму выраку Вераніка.

Па яе словах, Яўген значна змяніўся за тыя паўгода, што знаходзіцца за кратамі, спачатку моцна перажываў, але цяпер стан яго больш-менш спакойны і бадзёры. Яўген упэўнены, што не будзе сядзець увесь прызначаны яму тэрмін.

— Ён ніколі не хацеў аказацца ў турме. У яго ў жыцці было не ўсё гладка, ён рос у дзіцячым доме: маці памерла, калі яму было сем гадоў, а бацьку пазбавілі бацькоўскіх правоў.

Нягледзячы на тое, што стасункі з бацькам вязень не моцна падтрымліваў, для яго стала ўдарам вестка пра яго смерць, якая прыйшла, калі Яўген знаходзіўся за кратамі.

— Але ён трымаецца, ён дастаткова моцны. Канешне, яму цяжка ўсведамляць, што ён знаходзіцца за кратамі ні за што. Ён спадзяваўся, што яму дадуць «хімію» ці хаця б два гады, але ніяк не чатыры.

Вераніка ўвесь час падтрымлівала Яўгена ў лістах, і 14 студзеня, на яе дзень народзінаў, вязень прапанаваў ёй стаць яго жонкай. Вераніка пагадзілася. Гаворыць, што ўсведамляе: ёй давядзецца чакаць каханага і пераадольваць мноства цяжкасцяў, і гатовая да гэтага, бо разумее, для чаго гэта робіць.

— У мяне ёсць прыклад маёй прабабулі, якая распавядала, як чакала з вайны мужа і двух сыноў. Яна чакала іх да апошняга дня, не выйшла потым замуж — верыла, што муж вернецца. Я ёй ганаруся, што яна настолькі моцная і ўсё гэта вытрымала.

### Зорка Венера

Сама Вераніка нарадзілася ў Навагрудку, пражыла там тры гады, пасля сям'я пераехала ў вёску. Калі дзяўчынцы было 10 гадоў, маму пазбавілі бацькоўскіх правоў, і яе з малодшым братам забраў тата.

Бачачы з самага дзяцінства крыўду і несправядлівасць, такія людзі, як Вераніка і Яўген, не могуць праходзіць міма яе ў жыцці. Менавіта таму, мяркуе дзяўчына, Яўген трапіў у тыя падзеі на «Пушкінскай»: ён не мог дапусціць, каб крыўдзілі безабароннага чалавека.

Выпрабаванні, праз якія цяпер даводзіцца праходзіць, змянілі стасункі пары.

— Я стала значна мацнейшай, чым была, раней я не думала, што здольная на нейкія ўчынкі дзеля мужчыны, але цяпер я разумею, што ён гэтага заслугоўвае, — прызнаецца Вераніка. — Я цяпер проста не ўяўляю жыцця без гэтага чалавека. У адным з лістоў ён мне напісаў: «Калі ты стомішся чакаць, падумай пра тое, што было б нашмат горш, калі б чакаць не было чаго».

Вераніка неаднойчы ўяўляла дзень, калі Яўген выйдзе з турмы. Яшчэ перад абвяшчэннем прысуду яна сасніла, што каханага вызваляць у зале суда. На жаль, сон не спраўдзіўся. Але дзень вызвалення ўсё роўна настане.

— Калі ён выйдзе, я яго абдыму з усёй моцы. Гэта будзе найлепшы дзень, апроч дня роспісу — хоць такога сабе, але ўсё роўна свята, — дзеліцца дзяўчына.

Для яе дзень вяселля ў СІЗА запомніўся як рамантычны, нягледзячы на абставіны і на тое, што паразмаўляць з мужам ёй дазволілі ўсяго 5 хвілін. Нават за гадзіннае спатканне яна не паспявае сказаць яму ўсё, што хоча.

Дый цяпер, праз газету, Вераніка перадае каханаму, каб ён трымаў сябе ў руках і памятаў, што ні ў чым не вінаваты. А яна зробіць усё, што можа, каб яму дапамагчы, і заўсёды яго падтрымае. «Ну і кахаю яго вельмі моцна і спадзяюся на хутчэйшае вызваленне», — дадае дзяўчына.

Ужо пасля нашай сустрэчы Вераніка дашле мне верш Максіма Багдановіча «Зорка Венера». І патлумачыць: для яе гэта сімвал таго, што дзе б ні знаходзіліся людзі, каханне паміж імі ўсё роўна застаецца. У Веранікі і Яўгена яно ўзаемнае, і, спадзяецца дзяўчына, іх зорка Венера не згасне ніколі.

### Як дапамагчы Вераніцы і Яўгену

Падчас размовы ў Веранікі на вачах некалькі разоў з'яўляюцца слёзы. Яна прызнаецца: вельмі сумуе па Яўгену, асабліва па вечарах, калі прыходзіць дадому, а яго няма. Разам з Веранікай па гаспадару сумуе і іх кот.

Але такі стан дзяўчыну ахоплівае ненадоўга: яна адчувае ў сабе сілы з усім справіцца.

— Я павінна праз усё гэта прайсці, каб проста быць шчаслівай, — усміхаецца яна.

Вераніка дзякуе ўсім, хто яе падтрымлівае, — гэта надае сілы.

— Канешне, хочацца, каб нешта змянілася ў нашай дзяржаве, каб не было такога беззаконня. Я працую ў краме і пастаянна бачу, як злодзеі нешта крадуць, іх забірае міліцыя, складаюць пратакол, да скрыжавання давозяць і выкідваюць. І яны прыходзяць на наступны дзень, і ўсё паўтараецца. А чаму я павінна аплачваць недастачу потым? Справядлівасці ніякай, нават штрафам не караюць іх. А калі чалавек выказаў сваё меркаванне — яго судзяць. У дзяцінстве вучылі, што трэба быць справядлівым, сумленным і выказваць, што думаеш, — гаворыць Вераніка, якая не спадзяецца на тое, што ў Беларусі нешта зменіцца ў бліжэйшы час.

Дзяўчына запэўнівае, што ніякай дапамогі пакуль ёй не трэба, адзінае, яна шукае жыллё. Пакуль яна здымае пакой у кватэры, дзе, апроч яе, жывуць іншыя людзі, якія часта бываюць нецвярозымі і могуць нават ужываць сілу. Таму, калі нехта з нашых чытачоў ведае, дзе знайсці пакой для Веранікі, просім звяртацца ў рэдакцыю.

Таксама вы можаце падтрымаць Яўгена лістом: СІЗА-1, 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2. Бароўскаму Яўгену Леанідавічу.


Скрыншот з відэа, на якім паказаная штурханіна з АМАПам

Беларусь Спартыўная

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by



8 ЗБОРНАЯ БЕЛАРУСІ, АД ЯКОЙ УЖО НІЧОГА НЕ ЧАКАЕШ

12–13 СВЯТЛАНА КУДЗЕЛІЧ: ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ НЕ ЗМОГУЦЬ ПАЗБАВІЦЬ МЯНЕ СПОРТУ




Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# У беларускім футболе сексу няма

Сяргей КАЙКО

**У гісторыі беларускага футбола не так шмат выказванняў, якія б вытрымалі выпрабаванне часам і заляглі ў летапіс у выглядзе мемаў — прыкмет эпохі.**

«Мы як маленькі сабачка, які сёння спрабаваў укусіць вялікага...» — казаў нямецкі трэнер зборнай Беларусі Бернд Штанге пасля паразы ад харватаў. «У нашым футболе працуюць ідыёты і бездары», — ёмістая цытата Анатоля Капскага, стваральніка барысаўскага БАТЭ, які заўчасна пайшоў з жыцця ў верасні 2018-га. «Нават калі сабраць у адным трэнеры ўсе лепшыя якасці ўсіх трэнераў свету, думаеце, за тры дні ён навучыць нашых футбалістаў гуляць?» — прысуд рэчаіснасці ад настаўніка зборнай Георгія Кандрацьева ўслед за чарговай журботнай нязўдачай.

Самалупцаванне — канешне, вялікая і запамінальная рэч, аднак не толькі ў ім спрактыкаваліся найлепшыя цыцэроны айчыннага футбола. Некалі той жа БАТЭ сенсацыйна перамог лонданскі «Арсенал», і не толькі справай, але і словам увайшоў у гісторыю Аляксей Бага. «Гэта было лепш, чым секс», — падзяліўся глыбока асабістымі адчуваннямі тагачасны камандор барысаўчан.

Аляксею Анатольевічу пашанцавала: заспеў, так бы мовіць, добрую патэнцыю і паспеў атрымаць задавальненне. На пачатку 2021-га даводзіцца канстатаваць: з сексам у беларускім футболе стала зусім кепска. Трагічны дыягназ наважыўся агучыць Ігар Гурыновіч — чэмпіён СССР-1982 у складзе мінскага «Дынама». «Варта прызнаць: сёння ў футболе мы — імпатэнты...» — гаротна вымавіў былы нападаючы, удараў якога баяліся ўсе савецкія брамнікі 80-х.

Вы, канешне ж, усё зразумелі, хаця пасля эпічнай паразы беларускай зборнай у Бельгіі мінула ўжо тры тыдні. Тры цяжкія тыдні, цягам якіх пра тыя 0:8 у Лёвене з'едліва ўзгадваюць усе каму не лянота. Час не ўладны над такімі гамерычнымі паданнямі, бо як жа — такой буйной няславы футбол Беларусі за 30 суверэнных гадоў яшчэ не ведаў.

Зрэшты, усё аднойчы адбываецца ўпершыню, і рэдкія апалагеты сённяшняй зборнай кажуць, маўляў, з кім не бывае. Вунь, тыкаюць пальцам, у 2014-м бразільцы на хатнім чэмпіянаце свету зганьбіліся ў гульні з немцамі з лікам 1:7. Што ж тады чакаць ад беларусаў, у складзе якіх няма ні Нэймара, ні Каўціньё, ні Ферміна? Але ж аналогія крывадушная і кульгае на абедзве нагі. Бо адна справа раптоўны прыступ хваробы, ад чаго не застрахаваны ніхто — і што паспяхова лекуецца кваліфікаванай тэрапіяй. І іншая — хранічны дыягназ, да якога ўсё ішло, марудна, але няўхільна.

Паказальная тут і рэакцыя. У Бразіліі пасля тых 1:7 быў усеагульны шок — людзі выйшлі на вуліцы і сям-там учынілі масавыя закалоты. У Беларусі бельгійскую немач зборнай праглынулі моўчкі. Бо позна піць баржомі, калі ныркі адказалі.

«Як доўга я цябе шукала...» — казала гераіня фільма пра Маскву, якая не верыць слязам. Як доўга беларускі футбол шукаў сваё дно — зараз кажуць ці не хорам спартыўныя аналітыкі, корпаючыся ў прычынна-выніковых сувязях. Доўга ці коратка, але хто шукае, той заўсёды знойдзе.

У «Тытанік» беларускі футбол ператварыўся не 24 сакавіка — да свайго заслужанага дна мы ішлі шмат гадоў. Калі бяздушна развальвалі дзіцяча-юнацкі футбол. Калі зацята выбудоўвалі нейкую недасяжную, як кінгаўская Цёмная Вежа, піраміду — дзе развіццё тыпу ідзе ад нізоў і да вяршыні. Калі раздувалі да 16 каманд вышэйшую лігу, заплюшчваючы вочы на тое, што першай і другой лігам тых каманд крытычна бракуе. Калі бязглузда марнавалі дзяржаўныя грошы, выдаючы іх на заробкі (у «сытыя» гады, кажуць старажылы, 5000 долараў у месяц давалі нават у заштатным Бабруйску). Калі тузалі нацыянальную зборную пастанным патрабаваннем выходзіць на топ-турніры, хаця ніякіх перадумоў для гэтага не прагледжвалася нават скрозь цэйсаўскую оптыку.

Кола замкнулася два гады таму, калі, у дадатак да ўсіх праблем, вырашылі ўкараніць у футболе яшчэ і фактычна новую мадэль кіравання — з галоўным цэнтрам сілы пад дахам Міністэрства спорту. Раней Беларуская футбольная федэрацыя валодала хоць якой самастойнасцю — так, хісталася, спатыкалася, але гэта былі яе хістанні і спатыканні. У офісе БФФ захоўваліся хоць нейкія плюралізм і калегіяльнасць, а наверсе ўмелі чуць галасы знізу і ўспрымаць ініцыятывы прафесіяналаў. Аднак паступова тыя практыкі сышлі ў шрэдар. Ім на змену спушчана адміністрацыйна-камандная мадэль, дзе ёсць толькі адзін пункт гледжання — і ён заўсёды правільны.

Цяпер, калі ў футбольным цэху пачынаюць сваволіць, — ім могуць намякнуць на скарачэнне бюджэтнай падтрымкі. Калі прымаюцца рашэнні па легіянерскім ліміце ці забароне замежных трэніровачных збораў, то лепш прамаўчаць, чым запярэчыць. Калі ў вышэйшай лізе ўводзяць квоты на маладых гульцоў, то адзінае, што застаецца, — падпарадкавацца. Начальнік сказаў — падначалены выканаў.

А тут яшчэ падаспела і новая стратэгія, пра якую мы ўжо неяк згадвалі, і цяпер, паводле кіраўнічай пастановы, беларускі футбол пойдзе наперад сямімільнымі крокамі. Як казаў булгакаўскі герой, падрукаваў на паперы — і шабаш. Шкада, што бельгійцам пра гэта не распавядзеш. Так яны, можа б, менш здзекаваліся з прагрэсіўных супернікаў у тым чароўным матчы з васьмю забітымі мячамі.

Натуральным наступствам гэтых цудоўных навацый стала тое, што кампетэнтнасць, падобна, больш не з'яўляецца галоўнай якасцю супрацоўніка футбольнай галіны. Зараз у фаворы лаяльнасць, уменне шчоўкаць абцасамі і глядзець ў рот непасрэднаму кіраўніку. Паводле гэтага прызначаюцца новыя менеджары і клеркі — і гэтак жа звальняюцца старыя, якія шмат пра сябе разумеюць і маюць уласнае меркаванне. Так зручней запрашаць трэнераў для розных зборных, бо калі ўзгадаць папярэднік — Анатоля Байдачнага, таго ж Бернда Штанге, Аляксандра Хацкевіча — то яны былі надта самастойнымі, самі прымалі рашэнні і не стрымліваліся ў каментарах. Недапушчальная самадзейнасць у нашы складаныя часы і ў год народнага адзінства.

Не дзіўна, што паступова добранадзейнасць стала важным крытэрыем і для гульцоў. У гэтым вам ніхто не прызнаецца, аднак цяжка патлумачыць нечым іншым адсутнасць ў спісе зборнай барысаўчаніна Станіслава Драгуна напрыканцы мінулага года.

Так ці інакш, але ўжо на пачатку новага адборачнага цыкла ў нацыянальнай зборнай пануе туга-скруха. Трэнера Міхаіла Мархеля звольнілі, хай і быў ён зручны і маўклівы. Футбалісты наўрад ці з захапленнем чакаюць працягу кваліфікацыі. Інтымны дыягназ «Мы — імпатэнты» гне да зямлі і не разгаляе кроў. Заўзятары на каманду даўно махнулі рукой.

Няма сексу ў беларускім футболе. Бясплодная глеба, як сказана ў тым жа рамане пра Цёмную Вежу.

Працяг тэмы на стар. 8–9 »

# Апошняя восень? Зборная Беларусі, ад якой ужо нічога не чакаеш

Антон МАКАЎЧУК

**Узровень даверу да футбольнай зборнай Беларусі даўно не быў такім нізкім. І справа не столькі ў тым, што параза ад бельгійцаў з лікам 0:8 аказалася антырэкорднай у нашай гісторыі, — а ў рэакцыі на гэтую падзею. Калі меркаваць па каментарах на розных рэсурсах і ў сацыяльных сетках, то няўдача знервавала далёка не ўсіх. Наадварот, многія палічылі нездавальняючы вынік рэальным адлюстраваннем спраў у беларускім футболе.**



Фота Reuters

Ёсць адчуванне, што і некаторыя дзеючыя асобы ўспрынялі канфузію з палёгкай. Яна дае ім нагоду сысці з патануўшага карабля пад рознымі падставамі. Наступны афіцыйны матч адбудзецца толькі ў верасні, і, напэўна, у гульні з чэхамі мы ўбачым зусім іншую зборную.

Да фіяска ў Бельгіі самае буйное паражэнне ў гісторыі здарылася ў чэрвені 2003 года. Тады беларусы саступілі ў гасцях аўстрыйцам з лікам 0:5. Той камандай кіраваў легендарны Эдуард Малафееў, і яна спрабавала прабіцца на чэмпіянат Еўропы. Даволі хутка стала зразумела, што місія невыканальная, трэнер затуляўся і канчаткова страціў кіраванне гульцамі. Ёсць падставы меркаваць, што ў Інсбруку футбалісты «злівалі» Малафеева, і, калі такая версія слушная, то ў іх гэта атрымалася. Матч з аўстрыйцамі стаў для трэнера апошнім ля стырна зборнай, ён перадаў справы Анатолю Байдачнаму.

У Бельгіі пра наўмысны «зліў» гаворкі не ішло. Нават пра італьянскі страйк не варта заікацца. Хто не хацеў выступаць за зборную, той пазначыў пазіцыю да гэтага. Але некаторыя з тых, хто застаўся, мелі ўнутраны дыскамфорт. Яны не маглі змагацца ні за радзіму, ні за трэнера, таму што не адчувалі сувязі ні з ёй, ні з ім. Нават за сваё сумленнае імя змагацца не маглі. Відавочна, падзеі жнiўня мінулага года і рэакцыя на іх падзялілі грамадства. Многім заўзятарам стала важная пазіцыя футбалістаў у жыцці, а не на полі, і падлік галоў у тыя ці іншыя вароты ўжо не можа змяніць сітуацыю.

Па футбольнай лініі надлом адбыўся ў кастрычніку мінулага года, калі беларусы змагаліся за шанец, які ў наступны раз невядома калі выпадзе. Еўрапейскія чыноўнікі захапіліся эксперыментамі, падаўшы зборным з нізкім рэйтынгам адзін шчаслівы квіток на ўсіх — праз акно Лігі нацый. Для траплення ў фінальную частку чэмпіянату Еўропы патрабавалася перамагчы ўсяго ў двух матчах, прычым другі з іх у выпадку поспеху ў першым беларусы праводзілі б у Мінску.




Фота AP

На пачатку нашым трэба было згуляць у Грузіі з прыкладна роўным па сіле супернікам. На падрыхтоўку да матчу былі кінутыя ўсе сілы і, як водзіцца, адміністрацыйны рэсурс. Насуперак жаданню клубаў у неўстаноўленыя міжнародным календаром даты адбыўся зажэмны вучэбна-трэніровачны збор. Насуперак усёй Еўропе чэмпіянат Беларусі не спыняўся ні на тур, нягледзячы на пандэмію каронавіруса. У нейкі момант ён наогул застаўся адзіным у Старым Свеце.

У грузінскіх футбалістаў такой падрыхтоўкі і блізка не было. Нічога звышнатуральнага яны і не паказалі, але гэтага «нічога» цалкам хапіла для мінімальнай перамогі над беларусамі. На настрой гасцей яўна наклалі адбітак падзеі ў краіне. Заўзятары чакалі ад іх нейкага знаку салідарнасці, але дачакаліся толькі некалькіх белых бранзалетаў. А яшчэ быў незразумелы склад, зусім не той, які найграваўся для «матчу стагоддзя».

Ёсць падставы меркаваць, што сюды таксама пранiклі палітычныя пытанні. На наступным зборы ў заяўцы не аказалася капітана каманды Аляксандра Мартыновіча, забіўнога паўабароны Паўла Няхайчыка і лідара распранальні Станіслава Драгуна. Прагучалі спасылкі на ўзрост, на жаданне даць дарогу маладым, на перагружаны клубны каляндар. Але паміж радкоў кожны жадаючы прачытаў інакш.

А з суперніцтва «андэрдогаў» пераможцам выйшла каманда Паўночнай Македоніі, якая адолела ў фінале грузін. Вырашальны мяч забіў 37-гадовы Горан Пандзеў. Адсылка да ўзросту ў папярэднім сказе вельмі важная, бо ў Беларусі з некаторых часоў абвешчаная стратэгія амаладжэння нацыянальнай зборнай, а не пастулат «у галоўнай камандзе краіны павінны гуляць усе наймацнейшыя».

У кожнага свой шлях, але на наступны дзень пасля таго, як беларусы разгромна саступілі бельгійцам, македонцы сенсацыйна абгулялі ў гасцях зборную Германіі — 2:1. Каб ацаніць маштаб гэтай падзеі дастаткова сказаць, што немцы не прайгравалі ў адборачных матчах чэмпіянату свету з верасня 2001 года — гэта значыць, без малога дваццаць гадоў. Іх цяперашняе паражэнне афармілі ўсё той жа ветэран Пандзеў і 21-гадовы Эліф Элмас. Сплаў вопыту і маладосці, як кажуць у такіх выпадках.

На перадматчавае выкананне дзяржаўных гімнаў бельгійскія гульцы выйшлі ў спецыяльных майках з надпісам «Футбол падтрымлівае перамены». Гэта была акцыя супраць сітуацыі ў Катары, дзе ў наступным годзе павінен прайсці фінальны турнір сусветнага першынства. Футбалісты запатрабавалі рашучых дзеянняў па паляпшэнні ўмоў працы і правоў чалавека ў Катары. Паводле звестак прэсы, пры будаўніцтве аб'ектаў да чэмпіянату свету ў краіне загінулі не менш за шэсць з паловай тысяч чалавек. Галоўным чынам — працоўныя мігранты з бедных краін.

Перад стартавым свістком бельгійцы схілілі калена ў рамках акцыі «Black Lives Matter» («жыцці цемнаскурых маюць значэнне»). Гульцы і трэнеры засяродзілі ўвагу на праблеме расізму. Беларускія футбалісты моўчкі стаялі воддаль, не выказваючы грамадзянскай пазіцыі з нагоды падзей, якія адбываюцца ў свеце і ва ўласнай краіне. А затым бязвольна прапусцілі восем мячоў — па чатыры ў кожным з таймаў.

У сусветным рэйтынгу зборных Бельгія знаходзіцца на першым месцы, але ў нядаўнім мінулым там таксама было не ўсё шакаладна. «Залатое» пакаленне гульцоў сышло ў пачатку цяперашняга стагоддзя, яго лебядзінай песняй стаў чэмпіянат свету 2002 года. Пяць наступных топ-турніраў бельгійцы прапусцілі. Прычым на гэтым адрэзку карціна была абсалютна журботнай. У кваліфікацыях чэмпіянату свету — чацвёртыя месцы ў групах з шасці каманд, у той час як для атрымання пропуску патрабавалася быць першымі або другімі. Барацьба за трапленне на чэмпіянаты Еўропы ішла крыху больш паспяхова, але таксама далёка ад галоўнай мэты. А затым яны прачнуліся.

Першынства Бельгіі не стала мацнейшым, але плён дала стратэгія развіцця дзіцяча-юнацкага і моладзевага футбола. Чатыры апошнія цыклы адбору бельгійцы прайшлі пры аглушальнай перавазе над супернікамі. У Расію-2018 яны наогул атрымалі білет першымі з еўрапейскіх зборных, не лічачы гаспадароў, а на EURO, які адбудзецца будучым летам, адабраліся са стоадсоткавым вынікам (дзесяць перамог у дзесяці сустрэчах).

У цэлым жа ў сарака матчах каманда пацярпела толькі адну паразу, а выйграла 34 разы. Заваяваць трафей пакуль не атрымліваецца, але мэта блізкая — два чвэрцьфіналы, паўфінал. На апошняй з топ-падзей, ЧС-2018, бельгійцы занялі трэцяе месца, саступіўшы толькі пераможцам турніру французам.

Ці можна нечага падобнага чакаць у нашых абшарах? Калі толькі верыць у цуд, бо ў юніёрскім і моладзевым футболе вынікаў таксама няма. Хутчэй мы ідзём да таго, што абвешчаная стратэгія амаладжэння нацыянальнай зборнай спрацуе сама сабой. Двух матчаў новага адборачнага цыкла з лішкам хапіла для разумення перспектыў у толькі распачатым цыкле. Разгром ад бельгійцаў — гэта ягадкі, бо былі яшчэ і кветачкі. У хатнім матчы беларусы пакуталі з эстонцамі, якія праз каронавірус не здолелі прывезці ў Мінск пятнаццаць асноўных гульцоў і трэнерскі штаб.

Нашы сапернікі па групе — Бельгія, Уэльс і Чэхія — летам згуляюць на EURO. Наша ж доля — таварыскія матчы з камандамі футбольных задворкаў. У чэрвені адбудзецца спарынг са зборнай Азербайджана, запланаваная сустрэча з камандай Сьера-Леонэ.

Турнірныя і ўнутраныя абставіны знішчаюць матывацыю, якой і без таго заставалася няшмат. У такой сітуацыі цалкам верагодны сыход ветэранаў. Без гучных заяў і грукання дзвярыма. З вясновага склікання самым дасведчаным гульцом з'яўляецца Кісляк, а ўвосень яму будзе ўжо 34. Аднаму з лепшых футбалістаў краіны апошніх гадоў Стасевічу ў кастрычніку «стукне» 36, і не яго віна, што раўнацэннай замены і блізка няма. Гутар, Бардачоў, Навумаў, Скавыш, Маеўскі — мяжа па топ-турнір ім, перасягнуўшым 30-гадовую мяжу, ужо злёгку шкодна. Апошні з пералічаных нават паспрабаваў расставіць кропкі над «і». Пасля матча з бельгійцамі Маеўскі заявіў, што трэнерскі штаб не меў плана на гульню, а ў матчах з такімі грознымі супернікамі ён павінен быць абавязкова. З вышыні перажытага самым дальнабачным выглядае Ягор Філіпенка. Абаронца адмовіўся гуляць за зборную яшчэ да таго, як яна стала некіруемай.

Гульня дзеля заўзятараў сёння таксама не варыянт. Пра нізкую цікавасць да зборнай гаворыць наведвальнасць апошніх хатніх сустрэч. На таварыскі матч з камандай Гандураса не сабралася і паўтысячы. На афіцыйную гульню з эстонцамі прыйшло больш, але ў чашы стадыёна «Дынама» гэта была кропля. Хацелася б сказаць, што як ніколі раней, гэтую восень зборнай мы чакаем з вялікай трывогай. Але гэта будзе няпраўдай. Беларускі футбол у такім стане, што ад яго ўжо наогул нічога не чакаеш.

# «Мы шмат гадоў займаліся не развіццём футбола, а лічбамі і паказчыкамі...»

Георгій ЗАГОНСКІ

**Наўздагон правалу зборнай Беларусі на еўрапейскай арэне мы задаліся адвечнымі пытаннямі: хто вінаваты і што рабіць. І адрасавалі іх вядомаму айчыннаму трэнеру Алегу КУБАРАВУ, які паспяхова працаваў не толькі ў Беларусі, але і за мяжой.**



Фота www.krumkachy.com

***— Пасля 0:8 у Бельгіі хочацца ставіць глабальныя пытанні. Напрыклад: як наш футбол дайшоў да такога жыцця?***

— Як і ўвесь спорт у цэлым, футбол — адлюстраванне жыцця. Мікрамадэль грамадства. Якасць і ўзровень жыцця, тое, што адбываецца навокал, уплывае і на стан футбола ў краіне. Калі ўспомніць добрыя гады ў футболе, то тады і ў грамадстве назіраўся нейкі ўздым — чаканні, надзеі, нейкі прасвет. Мы верылі, што хутка стане лепш. Умоўна кажучы, замест пяцідзесяці долараў сталі атрымліваць сто. Жыццё быццам бы наладжвалася. Плюс тады ў футболе яшчэ не паспеў скончыцца ўплыў савецкіх часоў — пакаленні гульцоў і гэтак далей.

***— Калі мы звярнулі не туды?***

— Калі разглядаць кіраванне футболам, яго развіццё, то трэба проста задаць пытанне: што менавіта мы ўвесь гэты час развівалі? Бо атрымліваецца, што пастаянна займаліся нейкімі паказчыкамі. Слухаеш любое выступленне на канферэнцыі — там суцэльныя лічбы і справаздачы. Якая каманда куды выйшла, колькі пабудавалі палёў... То-бок футбол развівалі ў нейкай гарызантальнай плоскасці. Узаемасувязей не шукалі. Чаму стаў падаць узровень майстэрства гульцоў? Чаму яркіх футбалістаў становіцца ўсё менш?

Так што развіццём футбола мы займаліся недастаткова. У нас няма наогул аніякай футбольнай навукі. І не рыхтуюць трэнераў па сумежных спецыяльнасцях — па фізпадрыхтоўцы, аналітыкаў і гэтак далей. Калі такія ёсць, то адзінкі. І ўсе — самавукі. Пры гэтым мы спаборнічаем у футболе з тымі, у каго ўсё гэта даўно ўжо ёсць. Дык як жа мы збіраемся з імі канкураваць?

Таму ў маім разуменні наш шлях — развіццё. Трэба кожны год нешта развіваць. У тым ліку будаваць палі, займацца інфраструктурай і методыкамі, рыхтаваць трэнерскія кадры. Вось тады і будзе рух наперад. А пакуль... Калі раней з такімі зборнымі, як Бельгія, мы стараліся згуляць годна, то цяпер гуляем ужо нявартa. Значыць, за гэтыя гады або яны сталі лепш, або мы — горш. А можа, і тое, і іншае.

На жаль, у нас пакуль няма дакладнага шляху развіцця. Замест гэтага, паўтаруся, пастаянна гонімся за нейкімі паказчыкамі і лічбамі. У дзіцячым футболе рыхтуем не футбаліста і асобу, а каманду. А яшчэ нам не хапае цярпення і паслядоўнасці. Ігара Кавалевіча ў «Нёмане» летась не звольнілі пасля серыі няўдач, але гэта выключэнне. Іншых такіх прыкладаў не ўзгадаю. У нас, калі каманда пяць-сем тураў «валіцца», трэнера здымаюць. На Захадзе зусім інакш. Там умеюць цярпець, як было з Алексам Фергюсанам у «Манчэстэр Юнайтэд». Кіраўнікі чакалі і давяралі яму. Бо бачылі, што шлях абраны правільна.

***— Федэрацыя рапартуе аб інфраструктуры, укладвае сінтэтыку. Гэта моцна палепшыць працэс выхавання гульцоў?***

— Тое, што гэта робіцца — выдатна. Але гэта толькі частка развіцця. І гэта не адмяняе таго, што нам патрэбныя сучасныя методыкі. І дакладна не адна перакладзеная кніжка на ўсіх. У бундэсслізе ў кожнага клуба свая філасофія, свая праграма, свой шлях. Акрамя методыкі, патрэбныя кадры. А хіба яны ў нас падрыхтаваныя? Так, ёсць і цэнтр ліцэнзавання, і навучанне. Але возьмем канкрэтнага трэнера. Ці забяспечаны ён ад федэрацыі, ад навучальных цэнтраў, да прыкладу, сучаснай літаратурай? Ці можна яе дзе-небудзь дастаць? Калі атрымаецца, то на англійскай. А колькі нашых трэнераў ёю валодаюць? Адзінкі.

***— Чаму перасталі расці гульцы? Новыя Бялькевічы, Глебы...***

— Сустрэчнае пытанне. А як мы ставімся да нашых лідараў? Калі такія, як Бялькевіч і Глеб, ёсць, мы не надаём ім значэння. І толькі калі яны сыходзяць, пачынаем успамінаць. Вось Уладзімір Журавель — мой памочнік і блізкі сябар. Шмат сезонаў працуе — усё добра. Потым сыходзіць з мінскага «Дынама» — і цэлы год у кваліфікаванага трэнера няма прапаноў! У нас што, шмат такіх спецыялістаў было ў краіне? Проста вось так у беларускім футболе ўсё ўладкавана. Не шануем тых, хто ёсць.

І, зноў-ткі, тая ж інфраструктура — гэта толькі частка працы па паляпшэнні ўсёй гаспадаркі. Дапусцім, тэхнічных гульцоў атрымаецца падрыхтаваць на добрых палях. Але хутчэй думаць палі не навучаць. І які ад іх плён, калі няма методык і трэнераў? Ёсць вядомае правіла: хлапчуку трэба адпрацаваць дзесяць тысяч гадзін, каб кімсьці стаць. Але важна, як ты правядзеш гэтыя трэніроўкі — на якіх палях, з якімі трэнерамі, у якіх спаборніцтвах.

Мы цяпер нікуды не выязджаем. Нам жа забаранілі, таму што нібыта ўсё ёсць тут. Але ёсць толькі палі. Супернікаў няма. Хіба ў нас моцныя спарынгі? Раней былі Германія і Аргенціна, а цяпер — Гандурас.

А да мінскага «Дынама» часоў Бялькевіча магу звярнуцца яшчэ і таму, што сам тады быў гульцом. Яго партнёрамі ў камандзе былі Жута, Герасімец, Журавель, Антонавіч, Лухвіч, Яхімовіч, Курбыка, Качура, Мархель. Гульцы, якія потым выступалі ў добрых замежных клубах. І вось якраз для таго, каб вырасла яркая асоба, патрэбныя ўмовы: прырода, спадчыннасць, выхаванне, канкурэнтнае асяроддзе. А яно ў «Дынама» было ў Бялькевіча выдатнае. Як і патрабаванні да гульца. Пры Шчокіне або Малафееве ніхто не наважваўся валяць на полі дурня. Каманда ездзіла ў турнэ па Паўднёвай Амерыцы. А калі б увесь час гуляла з «Лідай» і «Бярозай», то цікавасць знікла б вельмі хутка.

***— Навошта БФФ напісала стратэгію, згодна з якой зборная неадкладна пачне прэтэндаваць, а ў 2028 годзе і паедзе на чэмпіянат Еўропы?***

— Стратэгія патрэбная. І шлях патрэбны. А вось кіданні на гэтым шляху не патрэбныя. Калі засяродзімся толькі на перамогах, то гэта бяда. А трэба — яшчэ і на развіцці. Умоўна кажучы, калі адразу саступілі 0:8 Бельгіі, то затым хай прайграюць Чэхіі 0:3, а з Уэльсам згуляюць унічыю 0:0. І мы будзем бачыць, што зборная становіцца мацней. А пакуль гэта ацэньваецца ў асноўным колькасна. Напрыклад, мы сталі больш валодаць мячом. Але гэта суб'ектыўна і абсалютна не адлюстроўвае сутнасці. Ці як, напрыклад, ацаніць, што ў каманды стала лепш самааддача? Куды важней для спецыялістаў ацэнка якасная. Гус Хідзінк казаў: «Я хачу бачыць, куды гулец бяжыць, а не тое, колькі ён прабег».





Задачы трэба ставіць складаныя. Але пры гэтым разумець, якая мэта. Проста матываваць гульцоў? Ці гэта нейкае патрабаванне, якое заганяе ў рамкі? Мэта не павінна быць бар'ерам. Яна павінна развіваць гульцоў, да нечага весці. Ну і, зноў жа: важна, як да гэтай высокай мэты ставіцца. Калі гэта ўльтыматум і патрабаванне, то потым няма чаго здзіўляцца, што ў нас усе, уключаючы клубы, хочуць гуляць у абарончы футбол.

Наогул, тое, што зборная хоча выйграваць, гэта добра. Але за кошт чаго? У нас ёсць толькі адна якасць, якая лепш, чым у іншых. Гэта досвед. У нас жа вельмі ўзроставая каманда. Але які гэта досвед? Перамог і дасягненняў?

***— За мяжой беларусы яшчэ доўга будуць не патрэбныя?***

— Многае залежыць ад менеджменту. Тут мы таксама адстаём. У Расіі даўно ствараюцца піяр-кампаніі па падтрымцы футбалістаў. Мы таксама спрабуем нешта рабіць, але працы непачаты край. Знакаміты Міна Раёла аднойчы сказаў: «Гэтага гульца нават мой пяцігадовы сын змог бы працаўладкаваць». З зоркай значна прасцей. А вось своечасова прывесці яшчэ нікому невядомага гульца ў добры клуб — мастацтва. І наадварот: калі гулец пасля пераезду сядзіць у запасе, значыць, нешта няправільна разлічылі. А ў нас такіх у Расіі нямала. Футбольны менеджмент у нас ва ўніверсітэце, можа, і выкладаюць. Але дзе спецыялісты? Дзе гэтыя менеджары ў клубах?

***— У якой меры адказнасць за правалы зборнай ляжыць на Мархелі? Ці ўсё аб'ектыўна — і не дапаможа нават Гвардзьёла?***

— Натуральна, дапаможа. З лепшымі павінны працаваць лепшыя. І калі мы хочам, каб нашы гульцы ў зборнай прагрэсавалі, то і трэнеры для гэтага павінны падбірацца лепшыя. Заўважце, найвышэйшых вынікаў зборная дамагалася з вопытнымі трэнерамі — Малафеевым, Байдачны, Штангe. Так што адказнасць — а гэта тычыцца і поспехаў, і няўдач — Мархель павінен падзяляць.

А што тычыцца Гвардзьёлы, то зразумела, што з ім і з нашымі футбалістамі Бельгію цяпер не абыграць.

***— У бліжэйшыя гады з футболам будзе яшчэ горш?***

— Мне хацелася б, каб было лепш. Давайце ў гэта верыць. Але патрэбныя перадумовы і дзеянні. Каб усе планы можна было кантраляваць, ацэньваць іх рэалізацыю і рэгулярна ўносіць папраўкі. Таму што канчатковай кропкі ў развіцці футбола няма.



Фота championat.com

> **Калі зборная Беларусі ў чарговы раз застаецца без трэнера, усе ведаюць найлепшую кандыдатуру. Але ведаюць і іншае: у сённяшніх умовах гэты саюз немагчымы. Занадта ўжо ў розных сусветах існуюць найлепшы трэнер краіны і яе гаротная нацыянальная каманда**

# Палескі рабінзон

Сяргей КАЙКО

**Увосень 2006-га, амаль 15 гадоў таму, Анатоль Капскі нягучна сказаў мне, ледзь заўважна кіўнуўшы ў бок маладога чалавека, якога тады мала хто ведаў: «Вось пабачыш, яго чакае светлая будучыня». Малады чалавек трэніраваў тады дублюючы склад БАТЭ, яму не было і трыццаці, нейкіх грандыёзных амбіцый ён не дэклараваў і блізка. Аднак легендарны кіраўнік барысаўскага клуба і самы паспяховы футбольны менеджар Беларусі ўжо тады ведаў, што гаварыў, і глядзеў нібыта ў ваду.**

Праз два гады малады чалавек створыць галоўную сенсацыю ў кваліфікацыі Лігі чэмпіёнаў і выведзе ў групавы раўнд турніру — у самы-самы старасвецкі бамонд — сціплую каманду з богам забытага беларускага раённага цэнтра. І ўся футбольная Еўропа даведаецца пра клуб БАТЭ і вывучыць імя яго галоўнага трэнера — Віктара Ганчарэнкі.

## «Трактарысты» супраць «Ювентуса»

Гэта здарылася ў другой палове 2008-га, і нават сёння, праз шмат гадоў, варта сказаць: такога выбуху суверэнны беларускі футбол не ведаў ніколі. Пры ўсёй павазе да перамогі зборнай над французамі ў Сэн-Дэні і выхаду «маладзёжкі» на Алімпіяду.

Апошнім бар'ерам БАТЭ перад групай ЛЧ стаў клуб «Леўскі» з Сафіі. У Балгарыі палічылі такое жэрабя ўдалым і заўчасна прымалі віншаванні. Мясцовыя журналісты кпілі з беларусаў, здзекліва называлі «трактарыстамі» (БАТЭ расшыфроўваецца як «Барысаўскі завод аўтатрактарнага электраабсталявання»)... А потым вінавата прыкусілі языкі, бо «трактарысты» выйшлі на поле і пакаралі суперніка за фанабэрыстасць. Спачатку перамаглі ў Сафіі 1:0, а потым у Барысаве адстаялі нічыю 1:1. Так і патрапілі, як потым пачалі казаць, у «еўракубкавую восень».

Восень тая стала незабыўнай. Так футболам, як тады, Беларусь, бадай, не дыхала з 1982-га — калі мінскае «Дынама» выйграла першынства СССР. Даўжэзныя чэргі за квіткамі, 30-тысячныя аншлагі на старэнькім стадыёне «Дынама», чароды замежных СМІ ў Дудзінку — трэніровачную базу БАТЭ — усходнім і заходнім журналістам так карцела зразумець, на якім падмурку паўстаў гэты новы футбольны феномен...

З супернікамі ў групе барысаўчанам тады пашанцавала ў сэнсе асабістага досведу і ўздымнага настрою. Пра выход у плэй-оф, вядома, гаворкі не ішло — хацелася проста чэрпаць шчасце вялікай лыжкай. І лёсаванне падсунула ёмісты апалонік. Мадрыдскі «Рэал», турынскі «Ювентус», піцерскі «Зеніт» — гэта быў космас, у якім патрабавалася проста не захлынуцца.

БАТЭ здолеў. Трох нічыіх, сярод якіх вылучыліся баявыя 2:2 у Мінску з «Ювентусам», хапіла, каб прызнаць: першы выход на элітную арбіту беларуская каманда вытрымала з годнасцю.

Вытрымалі барысаўчане і выпрабаванні меднымі трубамі. Еўракубкавая восень з цягам часу стала для БАТЭ побытам, задачай-мінімум, якую «жоўта-сінія», часцей за ўсё, паспяхова вырашалі — і ў Беларусь усё ехалі і ехалі еўрапейскія клубы-гранды, радуючы мясцовых заўзятараў. «Барселона», «Мілан», «Бенфіка», «Валенсія»... Мюнхенскую «Баварыю» БАТЭ ўвогуле феерычна перамог — 3:1, і гэты поспех, як сказалі б раней, увайшоў у летапіс беларускага футбола.

І ўжо тады дакладна ўвайшоў у гісторыю і адзін з галоўных творцаў аглушальнай барысаўскай сенсацыі — трэнер Віктар Ганчарэнка.

## Беларус у Расіі

Замежны попыт на паслугі маладога беларускага спецыяліста ўзнік ці не адразу пасля першага лігачэмпіёнскага прарыву БАТЭ. Аднак стрымгалоў ляцець на прывабныя іншаземныя агеньчыкі Віктар Ганчарэнка не захацеў. Ён добра памятаў, дзе і дзякуючы каму зрабіўся трэнерам, калі рана скончыў праз траўму кар'еру гульца. Ён не пакінуў БАТЭ, пакуль не даў клубу ўсё, што мог, і пакуль у Барысаве яму сапраўды не стала цесна.

Ганчарэнка з'ехаў восенню 2013-га — і туды, адкуль зазывалі найбольш настойліва. Беларус адправіўся на ўсход — у Расію, якая ў футбалістаў заўсёды лічылася добрым варыянтам працягу і развіцця кар'еры.

Першым досведам у расійскім футболе для Віктара Міхайлавіча стала «Кубань» з Краснадара. З чатырох з паловаў гадоў, якія прадугледжваў кантракт, ён адпрацаваў толькі год, але гэтага хапіла, каб зрабіць уражанне, адаптавацца і пачаць вывучаць навакольныя гарызонты з нарастаючай прафесійнай цікавасцю.

Пасля «Кубані» у яго былі «Урал» з Екацярынбурга і «Уфа» — клубы-«сераднякі», з якімі крутой кашы не зварыш, аднак як палігон для творчасці гэтыя шанцы беларускі трэнер выкарыстаў плённа. Яго методыкі, почырк, тактычныя напрацоўкі і еўрапейскае бачанне заўважылі ў верхніх эшалонах расійскага футболу — і ў хуткім часе ад топ-клуба паступіла прапанова, ад якой нельга адмовіцца.

Віктара Ганчарэнку паклікалі ў маскоўскі ЦСКА — адзін з найлепшых клубаў краіны, з вялізнымі амбіцыямі. Беларус правёў там чатыры плённыя гады, пра якія ніколі не будзе шкадаваць. Так, атрымалася не ўсё: у расійскім футболе вострая канкурэнцыя, шмат чаго вырашаюць грошы, а бюджэт у «армейцаў» усё ж больш сціплы, чым у газпрамаўскага «Зеніта» ці лукойлаўскага «Спартака». Перадусім, менавіта па гэтай прычыне — недастаткова якаснае і зоркавае камплектаванне — з ЦСКА Ганчарэнка не дасягнуў галоўнага: не стаў чэмпіёнам расійскай прэм'ер-лігі. Аднак у астатнім яго праца пакінула сярод заўзятараў добры ўспамін, а ў гісторыя клуба — яскравы след.

Два разы ЦСКА пад кіраўніцтвам нашага суайчынніка выйграў срэбраныя медалі, аднойчы ўзяў Суперкубак Расіі. Ёсць што ўзгадаць і ў кантэксце еўракубкаў. У першую чаргу, канешне, лігачэмпіёнскія сустрэчы з мадрыдскім «Рэалам» восенню 2018-га. Што не ўдалося з БАТЭ, тое Ганчарэнка рэалізаваў з маскоўскай камандай — двойчы адолеў адзін з самых моцных і аўтарытэтных клубаў свету (1:0 і 3:0).

Зрэшты, за чатыры гады на адным месцы — тым больш на такім гарачым — эмацыйна выгарае любы трэнер. Былы барысаўчанін выключэннем не стаў. Апошнія месяцы ўсё больш настойліва хадзілі чуткі пра яго адстаўку, і не дзіўна, што аднойчы яны спраўдзіліся. ЦСКА Ганчарэнка пакінуў нядаўна — 22 сакавіка.

Але, што характэрна, — нават адпачыць не паспеў. І гэта добрая адзнака яго прафесійных якасцей: амаль адразу пасля звальнення ў Маскве беларуса запрасілі ў Краснадар. Аднайменны клуб — таксама амбітны, заможны і з прэфіксам «топ» — ён узначаліў 6 красавіка.

Так круг замкнуўся. Шлях ад Краснадара да Краснадара ў 43-гадовага спецыяліста заняў сем з палавай гадоў. У Расіі, калі браць дарослы футбол, ён працуе ўжо больш, чым працаваў у Беларусі.

## Чарнобыльскі шлях

У гэтым месцы жанр патрабуе кароткага біяграфічнага нарысу, аднак Віктар Ганчарэнка ніколі асабліва не цураўся журналістаў і ўвогуле даўно стаў дастаткова медыйнай фігурай, каб расказаць пра сябе самому. З яго расповедаў заўзятары ведаюць пра многае. Пра дзяцінства на Палессі ў Хойніках. Пра вымушана ранняе — у 25 гадоў, праз праблемы з каленам — завяршэнне гульнявой кар'еры. Пра тое, як адразу пачаў вывучаць асновы складанай трэнерскай прафесіі. Грыз і грыз граніт навукі, многае спасцігаў сам, аб чымсьці дапытваўся ў сяброў, якія гулялі на высокім узроўні.

Ён неяк адразу зразумеў, што футбол — гэта не столькі імправізацыя і майстэрства, колькі разлік, розум, стратэгічная і тактычная творчасць. Адсюль і гульня яго каманд — алгарытмізаваная, вывераная і пісьменная. Адсюль і яго поспехі — і павага футбалістаў усюды, дзе б ён ні працаваў.

Вядома беларусам і пра тое, што Ганчарэнка рана застаўся без бацькі. Той быў чарнобыльскім ліквідатарам, празмерна атруціўся радыяцыяй і сышоў, калі хлопцу было 16. «Увечары напярэдадні мы па традыцыі добра папарыліся ў лазні. Ён выпіў там грамаў пяцьдзясят і неяк адхілена сказаў: "Пайшлі дадому". Мамы і сястры яшчэ не было. Бацька пасядзеў на канапе перад тэлевізарам, дзіўна закінуў галаву і раптам папрасіў: "Пасцялі. Буду спаць". А ранкам я пачуў мамін плач. Ён стаіць у вушах дагэтуль», — распавядаў ён у інтэрв'ю.

Дарэчы, маці Віктара Міхайлавіча памерла мінулым летам. Спачуванні выказалі ці не ўсе спартыўныя медыя Беларусі і Расіі.

У вялікім футболе круцяцца вялікія грошы, і шмат у чым народная гульня, як і палітыка, — брудная справа. Але цікава: да Ганчарэнкі аніякая гразь не ліпне. Наадварот: ён сам ад гразі дыстанцуецца. Шэсць гадоў таму ён сам, па ўласным жаданні, звольніўся з «Урала» — і версія аб прынцыповым нежаданні ўдзельнічаць у дамоўным матчы дагэтуль застаецца асноўнай.

Недзе, здаецца, у тыя часы ён вымавіў словы, якія сталі яго дэвізам: «Не хлусі — і не заблытаешся».

У жніўні Віктар Ганчарэнка выказаўся і наконт падзей на радзіме. У поўнай адпаведнасці са згаданым дэвізам, ён вырашыў не хаваць свайго меркавання і грамадзянскай пазіцыі: «Лічу недапушчальным тое, што адбываецца. Рэзка супраць таго, каб білі наш мірны, выдатны беларускі народ. Міліцыя, АМАП і армія павінны абараняць народ, а не збіваць яго. Падтрымліваю патрабаванні сумленнага падліку галасоў на выбарах. Паспрабаваў прагаласаваць на ўчастку ў пасольстве Беларусі ў Маскве, але чаканне ў чарзе вельмі расцягнулася. Людзі сталі па пяць, шэсць, нават сем гадзін! І ў выніку ўсё роўна не траплялі на ўчастак, і я таксама не трапіў. Такое ўражанне, што чаргу хтосьці штучна стрымліваў, каб не ўсе прагаласавалі».

Калі зборная Беларусі ў чарговы раз застаецца без трэнера, усе ведаюць найлепшую кандыдатуру на вакантнае месца. Але ведаюць і іншае: у сённяшніх умовах гэты саюз немагчымы. Занадта ўжо ў розных сусветах існуюць найлепшы трэнер краіны і яе гаротная нацыянальная каманда.

Але нешта падказвае: аднойчы Віктар Ганчарэнка ўсё ж папрацуе са зборнай сваёй радзімы. Гэта адбудзецца недзе ў тыя часы, пра якія няспынна марыць большасць беларусаў і якія абавязкова надыдуць.

# Мара Шарана: Беларускі хакеіст у наймацнейшай лізе свету

Ільля КУНІЦКІ,
Нью-Ёрк

**У студзені 2018 года ў Бафала праходзіў сусветны моладзевы чэмпіянат свету. У халодным і заснежаным горадзе, што ляжыць на мяжы з Канадай і ў 25 хвілінах ад Ніягарскага вадаспаду, сабралася эліта сусветнага хакея U-20. Гуляла там і зборная Беларусі, але у групе «А» затрымацца не здолела. Наша каманда, прайграўшы ўсе сустрэчы, вылецела ў ніжэйшы дывізіён з хуткасцю той вады, што льецца праз Ніягару.**




Пасля апошняй паразы галоўны трэнер той зборнай Юрый Файкоў раскрытыкаваў гульцоў наогул і аднаго хакеіста ў прыватнасці: «У рашаючых паядынках нам не хапіла Ягора Шаранговіча. Так, ён закінуў дзве шайбы чэхам, але ў ключавых гульнях не дапамог. Я расчараваўся ў ім, а таксама яшчэ ў некаторых хакеістах».

Калі б хто-небудзь тады сказаў спадару Файкову, што праз тры гады Ягор стане адным з лідараў каманды НХЛ і першым за пяць гадоў беларусам у наймацнейшай лізе свету, ён назваў бы чалавека вар'ятам.

Як бы там ні было, але факт: амаль дакладна праз тры гады пасля першынства ў Бафала, 14 студзеня 2021 года, Шаранговіч дэбютаваў у НХЛ у форме «Нью-Джэрсі Дэвілз». Гульня была супраць «Бостан Бруінз», а беларус Ягор выйшаў на лёд у першай тройцы — разам з вядучымі форвардамі «д'яблаў» Джэкам Х'юзам і Кайлам Палміеры, а таксама згуляў у авертайме.

У выніку Шаранговіч правёў на пляцоўцы вялізныя для дэбютанта 17 хвілін і 23 секунды, прымусіў супернікаў тры разы парушыць на ім правілы і атрымаў паказальнік карыснасці +1. Галоў беларус не забіў, але быў вельмі блізкі да гэтага: у авертайме адзін каціўся на вароты «Бруінз», але брамнік «Бостана» справіўся з кідком.

Што не атрымалася ў першай гульні, здарылася ў наступнай. Тыя ж супернікі сустракаліся праз дзень, і зноў справа дайшла да авертайма. Да серыі булітаў заставалася ўсяго некалькі секунд, калі Шаранговіч атрымаў цудоўны схаваны пас ад абаронцы «Дэвілз» Дэм'яна Сіверсана і закінуў сваю першую, дый яшчэ і пераможную, шайбу ў НХЛ. «Гэта быў самы цудоўны момант маёй хакейнай кар'еры», — скажа Ягор на няздрэнай англійскай мове пасля гульні.

Як малады форвард зборнай Беларусі дасягнуў такога прагрэсу?

Тры гады таму ў Бафала Шаранговіч быў не проста адным з гульцоў каманды, а хакеістам, які ўжо праявіў свой талент. Да моладзевага ЧС ён дэбютаваў за нацыянальную зборную і мінскае «Дынама». Трэнеры і заўзятары чакалі, што Ягор павядзе за сабой партнёраў. Можа, спадзяванні, што ён стане безумоўным лідарам, былі крыху завышанымі, можа, хлопец сам «перагарэў» ад адказнасці, але нападаючы насамрэч правёў тады не самы яскравы чэмпіянат. Аднак, у адрозненне ад Файкова, не ўсе спецыялісты лічылі, што ён праваліў турнір.

Галоўны на той час трэнер «нацыяналкі» канадзец Дэйв Льюіс, які прысутнічаў у Бафала, сказаў, што Шаранговіч «яшчэ зусім малады, а таму нестабільны. Чэмпіянат праходзіць вельмі хутка, таму штосьці можа не атрымацца. Калі Ягор у некаторых сустрэчах згуляў няўдала, гэта не азначае, што ён дрэнны хакеіст. Ведаю, што за ім сочаць скаўты НХЛ і ён па-ранейшаму ў абойме нацыянальнай зборнай».

У выніку падтрымка Льюіса дапамагла Шаранговічу зрабіць наступны крок па кар'ернай лесвіцы. У траўні 2018 года Ягор з'ездзіў на свой другі дарослы чэмпіянат свету, дзе, праўда, зборная Беларусі выступіла няўдала і вылецела з эліты. А ўжо ў наступным месяцы Шаранговіч быў абраны «Нью-Джэрсі» на драфце НХЛ пад агульным 141-м нумарам. Так пачаўся наступны — паўночна-амерыканскі — этап жыцця маладога хакеіста.

Прыехаўшы ў ЗША ўлетку 2018-га, Шаранговіч паўдзельнічаў у трэніровачных кэмпах асноўнай каманды. Прабіцца ў фінальны «ростэр» клуба з першага разу вельмі цяжка, таму не стала сюрпрызам, што па выніках збораў Ягора адправілі ў «фарм» — «Бінгэмптам Дэвілз».

Калі да мясцовага хакея трэба было яшчэ прызвычаіцца, то амерыканскае жыццё хлопец пачаў вывучаць імкліва. Ён з'ездзіў у Нью-Ёрк з суседняга Нью-Джэрсі, схадзіў на тэнісны турнір «US Open», пахадзіў па горадзе. Цікава, што фармклуб «Нью-Джэрсі» базуецца ў штаце Нью-Ёрк, на мяжы з Пенсільваніяй. Бінгэмптам — невялікі гарадок амерыканскай глыбінкі, асабліва нічым не прыкметны. Але, можа, гэта і плюс для маладога спартсмена — нішто не адцягвае ўвагу ад справы. Гэта пацвердзіў і сам Ягор.

Увосень 2018-га давялося пагутарыць з ім якраз у Бінгэмптаме. Мы сустрэліся дзеля інтэрв'ю ў адной з лакацый культавай амерыканскай сеткі «Данкін Данатс», якая спецыялізуецца на пончыках і каве. Хлопец распавёў пра свае першыя крокі ў мясцовым хакеі: пра трэніроўкі, партнёраў, трэнераў.

Ужо тады падалося, што Ягор шмат чаго даб'ецца. Усё, звязанае са сваім новым досведам у Амерыцы, ён успрымаў з запалам, а таксама ўпарта працаваў: вывучаў англійскую мову з рэпетытарам, разбіраў свае змены пасля гульняў, дадаваў у фізічнай моцы, прасіў парад у старэйшых. А галоўнае — у Шарана, як называлі яго парнёры ў «Бінгэмптаме», была мара, да якой ён ішоў крок за крокам, не звяртаючы ўвагі ні на што лішняе. Трапіць і замацавацца ў НХЛ — кропка. Людзі, апантаныя сваёй марай, у ЗША звычайна не губляюцца.

Першы свой сезон у АХЛ (ліга ўзроўнем ніжэй за НХЛ) хакеіст скончыў з не самай добрай статыстыкай для нападніка: 17 (9+8) балаў у 68 гульнях і паказальнік карыснасці: -17. Балазе, першы заакіянскі досвед быў атрыманы. Перад наступным сезонам Шаранговіч ужо ведаў, чаго чакаць і над чым трэба працаваць яшчэ больш. Яго статыстыка палепшала: 25 (10+15) балаў у 57 гульнях і вялікі прагрэс у карыснасці: +13.

У сакавіку 2020 справы «Бінгэмптама» ўвогуле і Шаранговіча ў прыватнасці ішлі добра, на гарызонце быў плэй-оф, калі раптам усе змянілася. Прыйшоў COVID-19, і сезон спыніўся. Парадаксальна, але ў рэтраспектыве пандэмія станоўча паўплывала на кар'еру і нават асабістае жыццё маладога хакеіста.

Праз наступаючы вірус краіны пачалі зачыняць свае межы, і Шаранговіч ледзьве паспеў прыляцець дадому ў Беларусь. Спачатку ён падтрымліваў форму самастойна і чакаў, як будуць развівацца падзеі з кавідам у ЗША. Колькасць захварэлых там была стабільна высокай, і хутка стала зразумела, што не толькі мінулы чэмпіянат НХЛ не будзе дагуляны, але і новы пачнецца з затрымкай. Тое самае, зразумела, адбывалася і з АХЛ. У такіх абставінах хакеіст прыняў рашэнне пачаць сезон у мінскім «Дынама», бо КХЛ планавала стартаваць ужо ў верасні. Пры гэтым, паводле ўмоў арэнднага пагаднення, Шаранговіч мог у любы час вярнуцца ў ЗША, калі пакліча «Нью-Джэрсі».

2020 год быў багаты на падзеі і для хакеіста, і для ўсёй Беларусі. Падрымліваючы фізічную форму ў Мінску, Шаранговіч пазнаёміўся з дзяўчынай, якая была яго фітнэс-трэнерам, а праз кароткі час стала жонкай. Афіцыйнага паведамлення маладыя не рабілі, але такія высновы можна зрабіць з сацыяльных сетак хлопца і дзяўчыны. Пасля сваёй першай шайбы ў НХЛ Шаранговіч без эківокаў падзякаваў сваёй жонцы за падтрымку, хоць і віртуальную. А некалькі тыдняў пазней яна змагла прыляцець з Беларусі ў ЗША, каб падтрымліваць мужа ўжо непасрэдна.

Без сумневу, гэтыя змены ў персанальным жыцці — адна з прычын апошніх хакейных поспехаў Шаранговіча. Цікава, што гісторыя адносін хакеіста развівалася на фоне вядомых палітычных падзей у Беларусі. Публічна на гэтую тэму Шаранговіч не выказваўся, але, напрыклад, ліст падтрымкі за дзеючую ўладу, пад якім праўдамі і крыўдамі з'явіліся прозвішчы некалькіх тысяч людзей, хоць як звязаных са спортам, не падпісаў. Дый увогуле ён — як бы ні бэсцілі заўзятары хакеістаў у сеціве — застаецца ў вачах тарсіды хакеістам паважаным, што важна і вартае адзнакі.

У сезоне 2020-21 «Дынама» сабрала моцны склад і з самага пачатку прэтэндавала на выхад у плэй-оф, куды ў выніку і трапіла. Шаранговіч таксама не згубіўся і хутка стаў адным з лідараў атакі каманды: у 34-х гульнях да ад'езду за акіян ён набраў 25 (17+8) балаў. Трэнеры верылі ў Ягора і, калі частка каманды была на кавідным каранціне, нават прызначылі капітанам. Але галоўнае — што, калі «Дэвілз» паклікалі Шаранговіча на зборы ў снежні, ён дзякуючы гульням у КХЛ ужо быў у цудоўнай фізічнай форме.

Не дзіўна, што Ягор паказаў сябе з найлепшага боку ў перадсезонных спарынгах, заслужыў права стаць часткай асноўнага складу і дэбютаваць у НХЛ. Наступная мэта хакеіста — замацавацца ў наймацнейшай лізе свету. Пакуль атрымліваецца няблага. На момант напісання тэксту Шаранговіч — адзін з лідараў каманды. У 28 гульнях ён закінуў 7 шайб і 5 раз асіставаў калегам. У Ягора добрае ўзаемаразуменне з партнёрамі па звяне — Зэйджакам і Куоканенам. 23 сакавіка ён быў прызнаны першай зоркай гульні пасля перамогі над «Філадэльфіяй», а галоўны трэнер «д'яблаў» Ліндзі Раф на прэс-канферэнцыі адзначыў наступнае: «Шаранговіч зараз у выдатнай форме. Ён трымае высокі ўзровень гульні ад сустрэчы да сустрэчы, і ў яго няма спадаў. Гэта вельмі важна, калі малады хакеіст можа гуляць без спадаў у такім шчыльным графіку. І не толькі Ягор — усё звяно паказвае выдатны хакей».

Шмат чаго можа змяніцца за тры гады ў кар'еры асобна ўзятага гульца, калі ён аддана робіць сваю справу, марыць пра зорнае неба і мэтанакіравана ідзе наперад крок за крокам.

# Святлана Кудзеліч:«Гэтыя людзі не

Сяргей ШЧУРКО

**Лёгкаатлетка Святлана Кудзеліч у ліку іншых спартсменаў падпісала сумленны ліст супраць гвалту і паставіла вялікае пытанне наконт свайго выступлення на Алімпіядзе ў Токіа. Але жыццё распарадзілася так, што цяпер усё залежыць ад яе — і таму яна трэніруецца ў Кеніі з небывалай аддачай. Памятаеце, як Рокі рыхтаваўся да галоўных баёў у сваім жыцці, спадзеючыся толькі на сябе і падтрымку родных і сяброў? Так і яна — самаадданая беларуска, якая ідзе насустрач мары. У інтэрв'ю «Новаму Часу» Святлана Кудзеліч распавяла пра ўласны пратэст, сённяшнюю падрыхтоўку ў сонечнай Афрыцы і крык душы ў Інстаграме, які сабраў 16 тысяч лайкаў.**






— Мая гісторыя, на жаль, тыповая. Спачатку прыбралі з МНС, а потым і ў зборнай перавялі ў пераменны склад з асноўнага, што, па сутнасці, няправільна. Я ўсё-ткі двухразовы прызёр летняга чэмпіянату краіны. Іншымі словамі, мяне проста пазбавілі ўсіх крыніц існавання.

Мой муж і трэнер Ігар Жаваранак нават не падаваў мяне на атэстацыю ў Мінспорту. Таму што было зразумела: гэта дарэмна. Гісторыя, аналагічная той, што здарылася са мной у Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях.

За іх я выступала перад чэмпіянатам свету ў Досе. За тры дні да марафону ў Катары бегала кросы па горах, каб абараніць іх гонар на спаборніцтвах. Я заўсёды за іх бегала — нягледзячы на траўмы і занятасць у нацыянальнай камандзе.

Мяне выклікаў ідэолаг і сказаў, што калі нешта зменіцца, то мы цябе возьмем назад, а так — сама разумееш... Ну, я і напісала рапарт на звальненне. Гэтак вось разам пазбавілася абедзвюх сваіх прац за адзін толькі подпіс у лісце супраць гвалту.

***— Ты павінна была ўжо шмат разоў пашкадаваць аб тым сваім рашэнні.***

— Шкадаваць не давялося ані разу, але жыццё, вядома, змянілася каласальна. Спачатку ліст падпісаў муж, аднак ён мне нічога не раіў. Сказаў, каб я падумала, таму што гэта будзе толькі маё рашэнне. Я паразважала пару дзён — усё-ткі гэта сур'ёзны крок, і ведала, чым можа скончыцца.

Гэтым і скончылася. І нават горш, чым я думала. Цяпер настаў такі час, што справядлівасці не дамагчыся.

Са мной за гэты час размаўляла шмат супрацоўнікаў МНС. Паверце, там хапае добрых людзей. Але ёсць і тыя, хто тэлефанаваў і казаў Ігару, што калі я не забяру подпіс, то апынуся на вуліцы нікому непатрэбнай. Аднак подпіс назад я не забрала.

***— І апынулася на кенійскай вуліцы. Чакаем гісторыю.***

— Самадастатковы чалавек на вуліцы апынуцца не можа проста таму, што ён нешта ўмее і нечага варты. Калі лёс дае табе выпрабаванні, то гэта не падстава скласці рукі, трэба круціцца і выжываць.

Мне дапамог Фонд спартыўнай салідарнасці. Людзі, вядома, могуць забраць у мяне працу, але яны дакладна не ў сілах пазбавіць мяне яшчэ і спорту. Я хачу працягнуць трэніравацца і трапіць на свае Алімпійскія гульні ў трэці раз.

Фонд дапамагае мне да іх падрыхтавацца. Першым крокам да гэтага будзе заваяванне алімпійскай ліцэнзіі. У мінулым годзе я не паспела гэтага зрабіць, таму што той старт, у якім збіралася прымаць удзел, быў закрыты па прычыне пандэміі.

Зараз зраблю яшчэ адну спробу. Але ўжо з «новымі» нагамі. Той выпадак, калі не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло. Я вельмі доўга пакутавала на ступні, якія не давалі хутка бегчы. Калі набірала вялікі трэніровачны аб'ём, то яны апухалі і пачыналі балець. І вось, калі зразумела, што ніякае МНС або «Дынама» нікуды мяне не выкліча, настаў час заняцца здароўем і нарэшце зрабіць аперацыю, на якую не магла вырашыцца шэсць гадоў.

Аперацыя была ў кастрычніку. Два месяцы ляжала пластом, таму што ў абедзвюх нагах стаялі спіцы. Дактары сказалі, што я не змагу бегаць каля паўгода, але ўжо на трэці месяц нацягнула красоўкі і адправілася на трэніроўку.

***— Гэта вялікая рызыка — не толькі хутка адаптавацца пасля няпростай аперацыі, але яшчэ і паспець набраць лепшую форму і трапіць на Алімпіяду. Дый яшчэ і на дэбютную для цябе марафонскую дыстанцыю.***

— Спорт вялікіх дасягненняў менавіта такі — ахвярны і рызыкоўны. Калі здароўе мне дазваляе, то чаму б і не выкарыстаць шанец? Бо я потым буду пра гэта шкадаваць.

Дзякуючы таму, што мы ўваходзім у «Свабоднае аб'яднанне спартсменаў», з'явілася магчымасць рыхтавацца да сезону ў Кеніі, у сярэднегор'і. Таму што зімой у Мінску бегаць немагчыма. Тым больш, год таму мы ўжо выпрабавалі гэтае месца, і кенійскі збор «зайшоў» вельмі нядрэнна. Зноў жа, шкада, што не ўдалося праверыць тыя напрацоўкі на спаборніцтвах.

17 студзеня паляцелі ў Кенію, і менавіта тут адбыліся мае першыя трэніроўкі пасля аперацыі. Пачала з 20 хвілін, потым 30, а праз два тыдні прабегла ўжо 24 кіламетры. Ну, а цяпер, зразумела, ужо працую па поўнай. Мая задача — быць у добрай форме 16 траўня, калі адбудзецца марафон у Капенгагене.

***— Яго не адменяць?***

— Пра гэта мы даведаемся ўжо бліжэй да траўня, але мой менеджар і арганізатары пішуць, што ён будзе. Іншая справа, што ў цяперашняй сітуацыі ніхто не аплачвае дарогу і гатэль. Раней, вядома, усё было па-іншаму, кампенсаваліся выдаткі, а спартсмены добрага ўзроўню атрымлівалі яшчэ і за прыезд.

***— Зараз знайсці марафон — наогул вялікая ўдача.***

— Гэта праўда. Хоць усё ж некалькі ўжо паспелі прайсці. І спартсмены, якія не маюць алімпійскіх ліцэнзій, гатовыя адправіцца ў любую кропку зямлі, каб толькі атрымаць шанец паехаць у Токіа.

***— Траса ў гэтым выпадку мае значэнне?***

— Безумоўна, і на гэта глядзіць у першую чаргу. Напрыклад, я бегла ў Гуанчжоу, і там літаральна мост на мосце — прама скажам, не самы лепшы варыянт для бегу на вынік. Добрыя трасы тыя, якія роўныя. Напрыклад, у Берліне. Або ў Лондане, у Ратэрдаме, у Валенсіі. А ў Мінску, напрыклад, яна гарыстая і складаная, там на рэкорд у паўмарафоне не прабяжыш.

***— Напэўна, добра быць на такім працяглым горным зборы разам з мужам і трэнерам у адной асобе. Інакш можна было б проста загнуцца ад адзіноты і нагрузак.***

— Ды я ўжо загінаюся (смяецца). Вельмі хачу дадому, а там перш за ўсё паесці нармальнай ежы. Але мы сюды прыехалі для таго, каб працаваць, таму трэба трываць.

Мяне часта пытаюць пасля вяртання з паўднёвых збораў: «Ну, як вы там адпачылі?» Але гэта, як правіла, робяць толькі тыя, хто далёкі ад спорту. Прафесіяналы разумеюць, што гэта ворыва, дзве трэніроўкі ў дзень і 200 набеганых кіламетраў у тыдзень.

Я бачу толькі трасу, стадыён, красоўкі, ежу, душ і ложак. І так па коле кожны дзень. Нават няма сіл і жадання кудысьці выйсці. Хаця і пайсці тут асабліва няма куды. Мы жывём у вёсцы. Проста тут цёпла і эфект вышыні — тое, што трэба для атрымання добрага выніку на раўніне.

***— У дадатак ты яшчэ і ў Мецы бегу, бо кенійцы лічацца адным з лепшых стаераў планеты. Дарэчы, чаму?***

— Тут шмат фактараў. Па-першае, правільныя дзеці — яны не ведаюць прысмакаў і іншага харчовага смецця, таму ў іх прыгожыя зубы і добры целасклад. Гэта не ўкормленыя і сытыя еўрапейцы, яны наадварот галодныя і звонкія, як струна.

Яны небагатыя і радуюцца дробязям. Дзеці гуляюць у нейкія найпрасцейшыя гульні, катаюць па пясчаных дарожках кола і вішчаць ад захаплення. Узровень дабрабыту? Ну, глядзі, да нас праз дзень прыходзіць прац жанчына. Нас пяцёра. Яна працуе паўдня, атрымлівае два долары, і гэта лічыцца нармальнай платай.

Хоць прадукты тут не сказаць каб занадта танныя. Мяса, сыр,

**Мяне часта пытаюць пасля вяртання з паўднёвых збораў: «Ну, як вы там адпачылі?» Прафесіяналы ж разумеюць, што гэта ворыва, дзве трэніроўкі ў дзень і 200 набеганых кіламетраў у тыдзень**



# змогуць пазбавіць мяне спорту»

сметанковае масла каштуюць столькі ж, колькі ў нас. Таму мясцовыя, хутчэй, травоедныя. Гароднiна, садавiна, рыс, мука з вадой — з гэтага складаецца іх штодзённы рацыён.

***— Стаер без мяса абысціся можа?***

— Я не ўяўляю, як гэта магчыма. У нас вялікія нагрузкі на трэніроўках, і запасы бялку трэба бесперапынна папаўняць. Інакш будзеш проста знішчаць свае мышцы. Для нас мяса — як бензін для машыны.

Напэўна, сярод нас ёсць і вегетарыянцы. Але для гэтага ў арганізме павінен прысутнічаць пэўны гармон — я неяк пра гэта чытала. Тады можна абысціся без мяса. А наогул мне здаецца, што вегетарыянства — гэта хутчэй мода, чым сапраўдная патрэба людзей.

Можна, вядома, доўга распавядаць пра свой рацыён харчавання, але калі ідзе падрыхтоўка да марафону і перамолваюцца вялікія нагрузкі, то ўсё згарае, як у топцы паравоза. Многія нават дзівяцца, што, пры ўсёй сваёй далікатнай канстытуцыі, я ем даволі шмат. Арганізм патрабуе. За час прафесійнай кар'еры ён ужо сам табе падказвае, што яму трэба ў першую чаргу.

Але зразумела, што перад доўгім бегам табе ялавічына ці курыца не патрэбныя. Ем кашу, а падчас бегу — вугляводныя батончыкі або гелі.

***— Як пераадольваеш вышыню?***

— Трываю. Тут недахоп кіслароду і бегчы рэальна цяжка. Але я ведаю, што ва ўмовах кіслароднага галадання арганізм выпрацоўвае вялікую колькасць крывяных цельцаў, якія дапамагаюць. Пры сходзе на раўніну гэта дасць перавагу бегунам, якія рыхтаваліся ў гарах. Але для гэтага ім трэба памучыцца. Эфект будзе, і ён ужо ёсць, галоўнае — не перабраць.

Калі ўпершыню паехала ў Кенію, то была гатовая вельмі добра. Але настолькі ж цяжка мне было там... Толькі праз месяц змагла асвоіцца і пачаць нармальна трэніравацца.

Цяпер жа прыехала абсалютна разабраная, таму што не трэніравалася каля чатырох месяцаў. Было рэальна страшна пасля аперацыі. Нібыта развалiна. Але самае дзіўнае, што пры ўсім гэтым адчуваю сябе значна лепш, чым у мінулым годзе. Можа, адпачынак даў свае, можа, ёсць вялікае жаданне даказаць, што я не здалася. Дакладна не ведаю, але працую плённа.

***— У чым ты змянілася?***

— Стала больш цвёрдай. Цяпер не плыву па плыні, а спадзяюся толькі на сябе. Напэўна, штосьці падобнае адчуваюць мясцовыя хлопцы-спартсмены, якія са скуры вылузваюцца, толькі каб вырвацца з галечы.

***— Дарэчы, з імі можна разам трэніравацца?***

— У нас ёсць свой план, але пры жаданні можна далучыцца. Тут працуе шмат розных груп, лёгкая атлетыка ў Кеніі выдатна развітая, у прыватнасці, стаерскі бег.

Праўда, калі назіраем за іх працай, нам здаецца, што нейкай строгай сістэмы ў іх няма. Яны трохі шалёныя: усталі — і да перамогі. Вечарам бягуць расслаблена, аднаўляючыся пасля ранішняй трэніроўкі. А на ёй валяць проста са страшнай сілай.

Аднак мне здаецца, што методыкі для таго і прыдуманыя, каб мэтанакіравана працаваць над павышэннем выніку, а не проста выходзіць на дарожку і «паміраць». Зрэшты, цалкам магчыма, гэта і ёсць іх методыка. Пры такой колькасці бегуноў можна ахвяраваць здароўем сотні-другой, каб вызначыць з іх пару самых устойлівых і несмяротных, якія пяройдуць на наступны ўзровень. А вось мне маім здароўем чамусьці рызыкаваць не хочацца.

***— Твой псіхалагічны стан цяпер?***

— Добры. Удалечыні ад дома, думаю, расслабляецца любы беларус — няма гэтай цяжкай атмасферы, у якой кожная наступная навіна аказваецца горш за папярэднюю. Там выпрацоўваецца нейкая апатыя да ўсяго таго, што адбываецца — яшчэ і таму, што адчуваеш сваё бяссілле і немагчымасць нешта змяніць.

А тут усё іншае, і, акрамя таго, я цалкам сканцэнтраваная на падрыхтоўцы да травеньскага марафону. Зразумела, што я за ўсім сачу ў інтэрнэце, але тут усё ж лягчэй перажываць, чым дома.

***— За гэты час ты паспела арганізаваць сваю школу бегу...***

— Так. Заклапацілася гэтым пытаннем, тым больш, што і час быў, дый займацца чымсьці трэба. Ігар жа таксама звольнены, і мы, атрымліваецца, два беспрацоўныя-дармаеды. Іншая справа, што ўкамплектаваць школу да канца пакуль не ўдалося, бо прыйшоў час ехаць у Кенію. А да гэтага ў нас былі групавыя заняткі тры разы на тыдзень.

На самой справе, даўно марыла пра сваю школу, але чамусьці саромелася пра гэта казаць. Дый калі займаешся спортам, то большай часткай засяроджаны толькі на сабе. А цяпер жыццё само падштурхнула. Паспрабавала — і мне спадабалася. Здаецца, няблага атрымліваецца.

Нават цяпер, калі я за тысячы кіламетраў ад сваіх бегуноў, нашы трэніроўкі працягваюцца. Людзі працуюць па маіх планах. Мяне гэта, шчыра кажучы, здзівіла. Думала, паеду — і ўсё развалiцца. А вось не. Мы пастаянна на сувязі з хлопцамі і дзяўчатамі, і я бачу, як няўхільна яны выконваюць зададзеныя аб'ёмы.

***— У дадатак да ўсяго ты яшчэ стала блогерам.***

— Зноў жа — жыццё крута змяніла мяне за апошнія паўгода. Раней я думала, што Instagram і ўсялякія там блогі — гэта не для мяне. А потым вырашыла, што трэба распавядаць пра сябе і любімы від спорту больш. Затым стала цікава даследаваць і тую краіну, у якой знаходжуся. Яе прыроду, людзей, іх звычкі і лад жыцця. Мяркуючы па водгуках маіх падпісчыкаў, ім гэта падабаецца, і яны просяць яшчэ. Шмат каму цікавае жыццё прафесійнага спартсмена. Тое, як мы трэніруемся і чым напоўнены наш дзень.

Заўважыла: калі звычайны чалавек уваходзіць у курс нашай працы, разумее, якая яна







цяжкая, то пачынае ставіцца з вялікай павагай да прафесіі спартсмена. Хоць марафонцам грэх скардзіцца на тое, што заўзятар ім не суперажывае. Як, напрыклад, гэта часта бывае з хакеістамі і футбалістамі. Усе разумеюць, што дыстанцыю ў 42 кіламетры ў прынцыпе цяжка прабегчы. Не кажучы ўжо пра нейкі добры тэмп.

Часта на трэніроўках трэба пераадольваць сябе, і людзям цікава, як ты прымушаеш сябе гэта рабіць, якую матывацыю выбіраеш. Мне здаецца, я ўжо знаходжу кантакт не толькі са сваімі вучнямі ў школе бегу, але і з падпісантамі свайго Інстаграма. Разумею, што ім трэба і чым магу быць ім карысная.

***— Шмат каго ўразіла твая гісторыя пасля марафону на чэмпіянаце свету ў Досе. Без слёз на гэта нельга было ні глядзець, ні чытаць...***

— Я заўсёды любіла ў школе літаратуру, і сачыненні.

***— Уяўляю, бяжыш ты ў той жудаснай спякоце і вільготнасці і думаеш, як потым выкладзеш гэта ўсё для заўзятараў у сацсетках...***

— На самой справе, такіх думак, канешне, не было. Я была ўпэўненая, што гэта мой апошні бег у жыцці і да фінішу дакладна не дабяруся, памру ад знясілення дзесьці на трасе. Было такое адчуванне, што ты бяжыш у гарачай і вільготнай лазні. І калі з апарні можна выйсці ў любы момант, калі арганізм запатрабуе адпачынку, то там зрабіць гэта было нельга. На тым катарскім марафоне быў самы масавы сход спартсменаў з дыстанцыі за ўсю гісторыю сусветных першынстваў. Подзвігам было проста дабегчы да фінішу.

**Калі напісала пра сваё звальненне, то гэты крык душы сабраў больш за 16 тысяч лайкаў і нейкую неверагодную колькасць каментароў — сонечных і добрых слоў. Мне палягчэла імгненна, і я перастала адчуваць сябе самотнай і няшчаснай**

Мне потым казалі заўзятары, што яны не маглі глядзець на гэты забег без уздрыгу, таму што ўсе пакуты былі напісаны на тварах марафонцаў. І ў мяне так часта потым пыталіся пра эмоцыі, якія тады адчула, што я вырашыла пра гэта напісаць. І сапраўды, пасля гэтага стала лягчэй. Хоць, напэўна, хтосьці падумаў, што я захацела злавіць хайп і пазмагацца за лайкі. Не, навошта? Я ўжо сапраўды не лічу сваіх падпісчыкаў і нават паняцця не маю, колькі іх цяпер.

***— Кола сяброў у цябе, напэўна, таксама памянялася.***

— Ну так, некаторых людзей я ўбачыла зусім з іншага боку. Я нікога не асуджаю, кожны сам абірае тое, што яму бліжэй у жыцці. Але так здарылася, што з кімсьці я спыніла зносіны, хтосьці сам перастаў вітацца. Ну, і нармальна, я проста зразумела, што мне з імі не па дарозе.

Я заўсёды імкнулася дагадзіць усім навакольным, нікога не хацелася крыўдзіць, а цяпер разумею, што, калі чагосьці не хочаш, — трэба проста казаць «не». А не пакутаваць праз тое, што гэта камусьці можа не спадабацца.

***— Прызнайся, ці моцна дапамагае на трэніроўках адчуванне, што ў цябе цяпер з'явілася армія сапраўдных заўзятараў?***

— Гэта рэальна дадае сіл. Я ж казала, што прыехала разабраная, але ўцягнулася ў працу значна лягчэй, чым думала. І атрыманы эмацыйны ўздым нікуды не падзеўся.

Калі напісала пра сваё звальненне, то гэты крык душы сабраў больш за 16 тысяч лайкаў і нейкую неверагодную колькасць каментароў — сонечных і добрых слоў. Мне палягчэла імгненна, і я перастала адчуваць сябе самотнай і няшчаснай. Напісала адказ і адзначыла, што не было аніводнага негатыўнага каментара.

Потым, праўда, яны з'явіліся. Як водзіцца, з закрытых акаўнтаў. Ну, гэта ідэолагі якія-небудзь. Яны, як заўсёды, ў хвасце падзей (смяецца).

# Не паспелі азірнуцца. Віды

Рыгор ТРАФІМЕНКАЎ

**Яшчэ дзясятак-другі гадоў таму гэтыя віды спорту мы згадвалі ў кантэксце адчувальных медальных перспектыў. Хай не залатых, але дакладна срэбраных і бронзавых. Хай не алімпійскіх, але звязаных з чэмпіянатамі свету і Еўропы. Аднак прайшоў час, і ўсё змянілася. Як кажуць, няма таго, што раньш было. І там, дзе раней імёны беларускіх спартсменаў грымелі на топ-турнірах, зараз дзе-нідзе ў нас не засталося нават атлетаў, якія здолелі б здабыць пуцёўку на гэтыя старты. То-бок проста ў іх паўдзельнічаць.**

Пра прычыны глыбока разважаць не будзем: у кожнай спартыўнай епархіі яны свае. Тут і цяпер — толькі канстатацыя. «Новы Час» узгадвае віды спорту, якія фактычна страціла Беларусь, якія прыйшлі ў глыбокі, сістэмны і маркотны заняпад. Магчыма, нават ужо і незваротны.



Фота www.onliner.by

Сяргей Далідовіч: сяміразовы ўдзельнік Алімпіяд



Фота www.kp.by

Віктар Сідзяк: «мушкецёр» без паслядоўнікаў

## Лыжныя гонкі: пасля Далідовіча — нікога

Канешне, будзе крывадушшам сцвярджаць, быццам беларусы здаўна мелі шматлікія поспехі ў лыжах. Далёка не. Нават самыя лепшыя з айчынных лыжнікаў у савецкія часы сутыкаліся з вялікімі цяжкасцямі, спрабуючы трапіць у зборную Саюза. Напрыклад, Віктар Камоцкі, які лічыўся наймацнейшым у нашай рэспубліцы, упершыню адабраўся на Гульні ўжо пасля распаду СССР — і паехаў у Лілехамер-1994.

Тым не менш, зоркавым нашчадкам савецкай спадчыны стаў Сяргей Далідовіч, сяміразовы (!) ўдзельнік Алімпіяд. Дзякаваць за ўласнае станаўленне ён павінен яшчэ той — зноў жа, савецкай — школе. А як інакш, калі Сяргей Мікалаевіч дэбютаваў на этапах Кубка свету ў 1993 годзе?

Скажам шчыра, што густы дождж з медалёў на міжнародных турнірах на аршанца Далідовіча не праліўся. І ўсё ж, калі надыходзіў час сусветных форумаў альбо Алімпіяд, беларус амаль заўсёды добра пачуваўся і быў у найлепшай форме. За 25 год прафесійнай кар'еры Сяргей шэсць разоў трапляў на п'едэстал, аднойчы — на найвышэйшую яго ступень.

Памятаем, што вельмі блізкі наш ветэран быў і да алімпійскай узнагароды. На Гульнях-2014 у Сочы ён фінішаваў пятым у марафоне свабодным стылем. Прычым гэтая гісторыя мела працяг. Праз нейкі час расійскі спорт падвергся ўедлівым міжнародным расследаваннем з нагоды выкарыстання допінгу, і ўладальнікі золата і срэбра Аляксандр Лягкоў і Максім Вылегжанін пазбавіліся медалёў. Такім чынам, Дылідовіч аўтаматычна падняўся на дзве пазіцыі і ўжо, здавалася, прымяраў неспадзяваную бронзу. Але не: спартыўны арбітраж у Лазане (CAS) адмяніў пастановы Міжнароднага алімпійскага камітэта (МАК) — і ўзнагароды расіянам вярнулі.

Дзеля праўды адзначым, што і акрамя Далідовіча раз-пораз беларускія лыжнікі ўздымаліся на вяршыню. І тут адразу ўзгадваецца, безумоўна, прозвішча Леаніда Карняенкі. У лютым 2007 года мала каму вядомы 19-гадовы беларус сенсацыйна стаў срэбраным прызёрам чэмпіянату свету ў інтэрвальным старце на 15 кіламетраў.

Да таго ж, калі дзеючым спартсменам быў марафонец Аляксей Іваноў, а Міхаіл Сямёнаў — маладзейшым і больш здольным за сябе сённяшняга, у мужчын-беларусаў была неблагая эстафета. Не заўсёды ў гэтай дысцыпліне мы займалі высокія месцы, але ж, прынамсі, не было праблем сфармаваць чацвёрку на адказныя гонкі. Пры гэтым камплектавалі квартэт выключна тутэйшымі выхаванцамі.

І што ж мы бачым зараз? Да якіх нізін абрынуліся беларускія лыжы з той пары?

Дастаткова сказаць, што сёння наша нацыянальная каманда амаль напалову складаецца з лыжнікаў, незапатрабаваных у Расіі. Лічыце: Настасся Кірылава, Юлія Ціханава, Паліна Сераносава. Некалькі год таму прадстаўлялі краіну таксама ўраджэнцы Расіі Міхаіл Куклін і Настасся Майнгардт. Іншы бок медаля: магілеўчанка Валянціна Камінская ўжо нейкі час выступае за Украіну.

Атрымліваецца, што сваіх годных спартсменаў выгадаваць не можам — дык запазычым у суседняй Расіі. Адчуванне скрю павялічваецца, калі возьмем у фокус адну падрабязнасць: пасаду галоўнага трэнера лыжнай зборнай займаюць наадварот спрэс беларускія спецыялісты. Якія б гаротныя вынікі ні былі, на чале каманды адно аднаго змяняюць Віктар Камоцкі і Іван Лістапад. Менавіта яны разам са старшынёй Беларускага лыжнага саюза (БЛС) Андрэем Каваленкам вельмі заахвочана ставяцца да запрашэння расійскіх кадраў.

І хай бы тыя сапраўды ўзмацнялі нашу зборную. Але ж не: акрамя Кірылавай, ніхто не дэманструе патрэбнага ўзроўню (калі лічыць за яго месцы хаця б у топ-30 на этапах Кубка свету). Вы здзівіцеся, аднак нават у тым жа сноўбордзе, дзе ў Беларусі няма аніякіх алімпійскіх перспектыў, каманду ўзначальваў канадскі спецыяліст. Чаму б не выкарыстаць аналагічную практыку ў лыжах у цяперашніх амаль безнадзейных абставінах?



Фота www.noc.by

## Спартыўная гімнастыка: таксама імпартазамяшчэнне

Віталь Шчэрба, Іван Іванкоў, Святлана Багінская — гэтыя імёны выдатна знаёмыя заўзятарам не толькі сталага веку, але і тым, хто пачаў цікавіцца найбуйнейшымі спаборніцтвамі на пачатку незалежнасці. Першы — самы тытулаваны гімнаст, які нарадзіўся ў нашай краіне. Пералік яго дасягненняў можа заняць некалькі абзацаў, таму ўзгадаем асноўныя: шасціразовы алімпійскі чэмпіён, 14-разовы чэмпіён свету, 10-разовы — Еўропы.

Маецца ў спісе трафеяў алімпійскае золата і ў Багінскай — аднафаміліцы легендарнай пратэстоўкі Ніны. У адрозненне, на жаль, ад Іванкова. Іван неаднаразова вяртаўся з медалямі з сусветных першынстваў, прычым двойчы станавіўся лепшым у найбольш прэстыжнай дысцыпліне — мнагаборстве. Але фатальным чынам яму не шанцавала на галоўных стартах чатырохгоддзя, дзе лепшы вынік — толькі чацвёртае месца.

Як бы там ні было, з пазіцый сённяшняга дня нават той «драўляны» медаль успрымаецца як нябесная манна. Тыя поспехі настолькі параслі быллём, што нацыянальная федэрацыя не заікаецца аб тым, каб ставіць адпаведныя мэты зараз. Зараз за шчасце атрымаць права на ўдзел у бліжэйшых Гульнях. Калі на пачатку 1990-х асобна мужчынская зборная на Алімпіядзе налічвала шэсць-сем чалавек, то цяпер бачыцца неверагодным варыянт, пры якім нашыя гімнасты дамагліся бы дадзенага спісу цалкам — маецца на ўвазе, з улікам жанчын.

Да старту Токіа-2021 менш за чатыры месяцы, і пакуль беларусы заваявалі толькі дзве ліцэнзіі. Яны імянныя, калі гаворка пра індывідуальныя віды, а не камандны выступ (магчымасцей трапіць поўным складам няма — цягнік сышоў). Калі нічога не зменіцца, а да таго ідзе, то ў сталіцу Японіі будуць збірацца Настасся Алістратава і Андрэй Ліхавіцкі. Зрэшты, застаецца сцэнар, што да іх далучыцца Ягор Шарамкоў.

Падкрэслім, што спартыўную гімнастыку таксама не абмінула практыка натуралізацыі. Праўда, у дадзеным выпадку яна мела не ўсходні вектар, а супрацьлеглы. Алаінэ Сью Кван і Кайлі Дзіксан — так звалі новых юных беларусачак, якія ў 2015 годзе, на момант прыняцця нашага грамадзянства, яшчэ не былі паўналетнімі. Выступілі на адным чэмпіянаце свету, на Алімпіяду не трапілі — і хутка наогул зніклі. Напэўна, вярнуліся на радзіму — у ЗША.



Фота РІА «Новости»

Святлана Багінская: чэмпіёнка з мінулага

## Фехтаванне: выпаленая зямля

Поспехі айчынных майстроў рапіры, шаблі і шпагі не патрабуюць разгорнутага расповеду. Дастаткова зазірнуць у спіс алімпійскіх прызёраў, якія нарадзіліся на нашай зямлі, за ўсю гісторыю. Відавочна, іх зашмат. У савецкі час фехтаванне было амаль што візітнай карткай БССР, дзе бесперабойна рыхтаваліся кадры для саюзнай зборнай. І не проста, канешне, рыхтаваліся, а ва ўвесь голас заўлялі пра сябе на кантынентальнай і планетарнай прасторы. Здаралася, што рэспубліку ў аб'яднанай савецкай дэлегацыі на Гульнях прадстаўлялі толькі лёгкаатлеты ды фехтавальшчыкі. Прынамсі, так было ў Мельбурне-1956.

Не ўсе яны былі родам з Беларусі. У той час куды толькі ні заносіла мужчын, якія праходзілі вайсковую службу. Напрыклад, АляксейНіканчыкаў, срэбраны медаліст Мехіка-1968, з'явіўся на свет у Магаданскай вобласці. Мабыць, не сутыкнуўся б зусім са спортам, які потым яму прынёс вядомасць, калі б не апынуўся ў тагачасным Мінску. Некаторыя пачыналі фехтаваць тут выпадкова, але былі і тыя, хто наўмысна вырашаў пакінуць Расію дзеля прывабных мінскіх перспектыў.

Карацей кажучы, гісторыя памятае мноства залатых імён.

# спорту, якія мы страцілі

Самыя-самыя — Аляксандр Раманькоў, Віктар Сідзяк, Мікалай Алёхін, Алена Бялова, Ірына Ушакова, Алена Новікава, Таццяна Самусенка, Таццяна Пятрэнка. Гэта выключна ўладальнікі медалёў Алімпіяд, а між іншым, былі і Герман з Ларысай Бокун. Словам, можна працягваць...

Распад вялізнай дзяржавы адразу негатыўна не паўплываў на становішча беларускага фехтавання. Яно карысталася дастатковай увагай з боку ўлад і кіраўніцтва галіны. Хіба што акцэнт крыху змясціўся — з таго гледзішча, што найбольшую за астатніх папулярнасць набыла шабля. Мужчынская зборная па гэтым відзе зброі была нязменным удзельнікам Алімпіяд, не кажучы пра менш статусныя турніры. Ды што там казаць пра 1990-2000-я, калі яшчэ на чэмпіянаце свету 2011 года нашы фехтавальшчыкі саступілі толькі ў фінале, у выніку чаго засталіся са срэбрам. Аднак далей — быццам адрэзала.

Кваліфікацыйны перыяд для атрымання ліцэнзій у алімпійскі Токіа пакуль не завяршыўся, але ўсё рухаецца да беспрэцэдэнтнай непрыемнасці: упершыню ў гісторыі незалежнай Беларусі нікога з шаблістаў (рапірыстаў і шпажыстаў нават не чапаем) не будзе на асноўным старце чатырохгоддзя. Пасля таго, як пакінуў дарожку Дзмітрый Лапкес, нейкі час цягнуў каманду Аляксандр Буйкевіч. Менавіта ён у адзіноце лятаў у Рыа-2016, дзе спыніў барацьбу на стадыі 1/8 фінала. А неўзабаве вырашыў перайсці на трэнерскую працу. Хто замест? Рытарычнае пытанне.

## Веласпорт: кадры не вырашаюць нічога

Падобнае становішча і ў веласпорце. У тым сэнсе, што зусім нядаўна ён меў рэпутацыю дабрабытнай гаспадаркі. А цяпер — наадварот.

Прычым тут у першую чаргу гаворка ідзе пра шашэйны варыянт, бо адзінкавыя атлеты на трэку, якія не дазваляюць націснуць на кнопку SOS, усё ж ёсць. Варта ўзгадаць Яўгена Каралька, які двойчы святкаваў поспех на чэмпіянатах свету — у тым ліку ў мінулым годзе, хай і не ў алімпійскай дысцыпліне — скрэтчы.

А вось сітуацыя на шашы выклікае сапраўдную трывогу. Звычайнай справай на пачатку стагоддзя і яшчэ ў першай палове 2010-х з'яўлялася тое, калі тры-чатыры беларускія гоншчыкі ўдзельнічалі ў найбольш рэйтынгавых гонках накшталт «Тур дэ Франс», «Джыра» ці «Вуэльты». Больш за тое, некаторыя заставаліся па-за старт-лістамі сваіх калектываў. Аляксандр Усаў, Аляксандр Кучынскі, Браніслаў Самойлаў, Андрэй Куніцкі, Ілья Кашавы, Яўген Гутаровіч, Канстанцін Сіўцоў, Васіль Кірыенка... Іншымі словамі, нават існаваў выбар, калі трэнерскаму штабу зборнай даводзілася рыхтаваць заяўку на чэмпіянат свету. Безумоўна, месца Кірыенкі на інтэрвальную гонку не аспрэчвалася, а роўна і Гутаровіча, які станавіўся лепшым на этапе «Вуэльты», — на масавы старт. А калі зазірнуць у больш далёкае мінулае, дзе ў промнях славы гучалі імёны Уладзіміра Камінскага, Алега Логвіна, Барыса Ісаева, Ігара Сумнікава, то за сённяшні занепад стане яшчэ больш сорамна.



Фота www.kp.by

Кацярына Карстэн: чалавек-эпоха сусветнага веславання





Уладзімір Самсонаў: каму перадаць ракетку?



Фота www.kp.by

Канстанцін Сіўцоў: адзін з апошніх магікан-раварыстаў

Карацей, не маючы належных умоў для развіцця высакакласных раварыстаў, Беларусь так ці інакш валодала дастатковай іх колькасцю. Не дзіўна, што і гучныя перамогі здараліся. Так, Кірыенка ў 2015 годзе выйграў планетарнае золата, апроч чаго ва ўлюблёнай дысцыпліне ў іншыя гады двойчы трапляў на п'едэстал.

А зараз... Васіль, як і ўсе вышэй згаданыя, завяршыў кар'еру. У выніку сярод айчынных раварыстаў, якія маюць кантракт з клубам Сусветнага тура (да яго адносіцца эліта з 20 каманд), застаўся толькі Аляксандр Рабушэнка, прадстаўнік «Эмірэйтс». Нельга выключаць, што яго прозвішча шырокаму колу недастаткова знаёмае. Нездарма: вялікіх дасягненняў у мінчаніна няма. У дадатак Рабушэнка ўжо ў маладым для гэтага віду спорту 25-гадовым узросце вельмі пакутуе з-за розных траўм.

Рэзюмэ: літаральна за некалькі год шашэйны веласпорт аказаўся ў спісе адсталых. Не вырашае ніякім чынам праблему і існаванне велаклуба «Мінск». Ён функцыянуе з 2013-га і за восем год не здолеў падрыхтаваць аніводнага гоншчыка ўзроўню Сусветнага тура. Не ўваходзіць сюды і Рабушэнка, які з юнацкіх часоў трэніраваўся ў школах Італіі і Сан-Марына. Дарэчы, у снежні было абвешчана пра стварэнне яшчэ аднаго кантынентальнага калектыва — «БелАЗ», дзе пасаду спартыўнага дырэктара заняў былы хэдлайнер Кірыенка.

Рэальнасць парадаксальная: «Мінску» не хапала ўласных выхаванцаў для максімальнай камплектацыі — і ён запрашаў раварыстаў з Расіі. Што ж будзе зараз, калі ў яго на ўнутранай арэне нарадзіўся канкурэнт? Чарговы раз падкрэслім: усе больш-менш годныя беларусы і раней мелі дастатковую практыку — іншаземцы не займалі іх месцы, а проста дапаўнялі склад, які ў адваротным выпадку быў бы няпоўным. Адкуль цяпер знойдуцца кадры для «БелАЗа» і ці не на паветра пойдуць укладзеныя сродкі?

Пакуль падаецца, менавіта так. Бо ў Токіа на шашы краіна мае правы дэлегаваць усяго аднаго ўдзельніка. Апошні раз такое здаралася ў Афінах-2004. 17 гадоў таму...

## Настольны тэніс: хто замест Самсонава?

Майстры малой ракеткі і пра тое могуць толькі марыць. У іх няма нічога — то-бок аніводнай алімпійскай ліцэнзіі. Безумоўна, наперадзе яшчэ ёсць так званая еўрапейская кваліфікацыя ў партугальскім Гімарайншы, дзе Уладзімір Самсонаў і яго партнёры па нацыянальнай зборнай могуць скарыстацца апошняй магчымасцю. Зрэшты, веры ў гэта няма.

Дадзеныя акалічнасці ставяць настольны тэніс у адзін шэраг з фехтаваннем. Пераважна сіламі і стараннем нашага славутага ветэрана (Самсонаву ўжо 44) айчынныя заўзятары заўсёды мелі ўласны інтарэс да спаборніцтваў па пінг-понгу. Уладзімір дэбютаваў на Гульнях у Атланце-1996 і з тых часоў трымае статус лідара зборнай. На пачатку 2000-х ён нават узышоў на першую пазіцыю ў сусветным рэйтынгу. Тройчы напрыканцы мінулага стагоддзя вяртаўся дадому з медалямі чэмпіянтаў свету. Наяўнасць Яўгена Шчацініна дазваляла, да таго ж, нашым мужчынам заяўляцца ў парным разрадзе, дзе як мінімум на еўрапейскім узроўні — у адсутнасць віртуозаў-кітайцаў — ім удавалася зарабляць «золата».

Мінулі гады — і такога другога нумара ў камандзе няма. Няма Паўла Платонава, які нейкі час падаваў надзеі. У яго якасці на большасці турніраў — у першую чаргу на камандным чэмпіянаце Еўропы — выступае Аляксандр Ханін. Аднак не павернецца язык нават параўнаць яго са Шчацініным, не кажучы пра Самсонова.

Што тычыцца Уладзіміра, то, на жаль, гады над ім уладныя. Вось і на нядаўняй міравой кваліфікацыі Самсонаў выступіць не змог. Прычына — траўма пляча. І калі б яго турбавала толькі плячо! Зараз нагадвае пра сябе то яно, то калені, то нешта іншае. Абставіны, на якія ніяк не паўплываеш.

Між тым, і добрае здароўе зусім не гарантуе тэнісісту нічога. Заўзятары памятаюць чацвёртае месца Самсонава ў алімпійскім Рыа-2016, але ж і там ён гуляў цераз боль. Больш за тое, быў на той момант у свеце сёмым, а за пяць гадоў выцякла нямала вады. Глядзім на апошнюю рэдакцыю сусветнага мужчынскага табеля — і бачым: найлепшы з беларусаў займае там 28-ю пазіцыю. І крок за крокам, прызнаём, усё саступае і саступае. Зраўняцца з Далідовічам па колькасці Алімпіяд Уладзіміру будзе цяжка: шэсць супраць сямі.

## Веславанне акадэмічнае: Карстэн — і пустата

Пілотныя поспехі ў гэтым відзе беларускага веславання звязаныя з імем Алены Хлопцавай. У тандэме з малдаванкай Ларысай Паповай яна на маскоўскай Алімпіядзе-1980 фінішавала першай. Так, некаторых моцных супернікаў з вядомых прычын не было: заходні мір байкатаваў тыя Гульні, — аднак клас Алена пацвярджала і пазней. Сведчанне чаму — бронзавы медаль у Барселоне-1992 у чацвёрцы парнай.

Агульным месцам на першых Гульнях, куды беларусы ездзілі ўжо самастойнай суверэннай дэлегацыяй, былі пяць-шэсць экіпажаў, а часам — нават і больш. І мужчынскія, і жаночыя, і двойкі, і васьмёркі... Максімальнай заяўка, мабыць, не была, хаця завяёўваць пуцёўкі на топ-рэгаты ўдавалася вельмі лёгка. Дый узнагароды былі.

Самае знакамітае імя — Кацярына Карстэн. На самым пачатку кар'еры яна спрабавала сябе ў двойцы, аднак даволі рана вырашыла засяродзіцца на самым цяжкім і, разам з тым, прэстыжным класе ў «акадэмікаў» — адзіночцы. У Атланце-1996 і Сіднэі-2000 Кацярына Вялікая не мела сабе роўных. Срэбра Афінаў-2004, бронзы Барселоны-1992 і Пекіна-2008, восем залатых медалёў з чэмпіянатаў свету... Карстэн на асобным этапе стала сімвалам беларускага спорту, прыкладам для дзяцей з рэгіёнаў, якія маглі пабачыць: калі маеш талент, няма ніякіх перашкод, каб узысці наверх. Многія заўзятары мусяць таксама памятаць Юлію Бічык і Наталлю Гелах. У абедзвюх ёсць дзве бронзы Гульняў.

За дзесяцігоддзе ўсе змянілася і тут. І зразумела, што не ў лепшы бок. Спартсменаў, здольных супернікаў з наймацнейшымі «акадэмікамі» свету, у Беларусі больш няма. Адзінае, чым можа пахваліцца беларуская зборная, — гэта двойка Алены Фурман і Настассі Янінай. На апошнім сусветным першынстве дзяўчаты занялі шостае месца, чаго хапіла, каб здабыць ліцэнзію ў Токіа-2021.

Тым не менш, празмерныя кампліменты наўрад ці дарэчныя. Не на адрас Алены і Насты, зразумела, а хутчэй у бок кіраўніцтва. Бо і такія, не самыя вялікія дасягненні, становяцца магчымымі толькі дзякуючы ўсёй той жа праславутай натуралізацыі. Яніна — расіянка, яна атрымала два гады таму беларускае грамадзянства. Так, гэта дапамагло Фурман, якой аніяк не знаходзілася пары. Але ж тэндэнцыя...

Калі месцы айчынных атлетаў усё часцей займаюць замежныя наймітаы, то ці варта называць беларускім наш шматпакутны спорт?

«СПАРТЫЎНАЯ БЕЛАРУСЬ» | 16 красавіка 2021 | № 15 (723) Новы Час

# Колеры строгага рэжыму: якім футбольным камандам будзе не рада беларуская міліцыя

Аляксей АСАНОВІЧ

**Успамін з натуры. Кастрычнік 2003-га, футбола ў Мінску засталося на тры дні, тады яшчэ не «белакрылая», а проста зборная Беларусі гуляе з аўстрыякамі ў адборы да EURO'2004. Перад матчам — традыцыйныя меры бяспекі ад родный міліцыі ў выглядзе міні-нарады ля рамкі металашукальніка. Старэйшыя па званні праводзяць інструктаж малодшых: «Яшчэ раз! Запомніце: чырвона-бела-чырвонае можна, бела-чырвона-белае — нельга!..»**



«Аякс» (Амстэрдам, Нідэрланды): скрозь бел-чырвона-белы




«Штутгарт» (Германія): Аляксандр Глеб і Ліанэль Мессі

У 2021-м з колераадчувальнасцю ў супрацоўнікаў стала нават лепш. Пад забарону падпадаюць не толькі ўласна БЧБ, але і ўсё, што можа здалёк нагадваць «сімволіку ворагаў айчыны». За сцягі Японіі, Англіі і Канады беларусы ўжо рэальна атрымалі суткі. А што будзе, калі ў недазволеныя колеры раптам будуць апрануты шматлікія госці Беларусі па футбольнай лініі? Ды тыя ж ЧБЧшныя аўстрыйцы?..

Працы ў міліцыянераў будзе немала. Адмыслова для іх «Новы Час» склаў топ каманд у БЧБ-расфарбоўцы. Каб ужо падчас любога лёсавання службы аховы парадку ведалі, які канкрэтна футбол ім не патрэбны.

### «Аякс» (Амстэрдам, Нідэрланды)

Клуб з галандскай сталіцы гуляе, бадай, у самай пазнавальнай БЧБ-форме ў свеце. Фірмовая вертыкальная паласа на белай камізэльцы «Аякса» прыгажэе ўжо больш за сто гадоў. У 1911-м амстэрдамцы ўпершыню выйшлі ў топ-дывізіён Нідэрландаў. На той момант будучы самы тытулаваны клуб краіны выступаў у форме ў белую і чырвоную палоску. Але такія ж, адзін у адзін, колеры былі і ў ратэрдамскай «Спарты» — таварыства з куды большым аўтарытэтам у галандскім футболе на пачатку XX стагоддзя. «Аякс» вымушаны быў нешта хутка прыдумаць: паняцця «другі камплект формы» проста не існавала.

Амстэрдамцы знайшлі геніяльны варыянт: пакінулі толькі адну паласу — але шырокую. З той пары «бел-чырвона-белых» з Амстэрдама ні з кім не пераблытаеш, а па колькасці тытулаў і «Спарту», і ўсіх астатніх у Нідэрландах яны ўжо апярэдзілі.

Дарэчы, форма «Аякса» не толькі гістарычная, але і стылёвая. Яна часцяком трапляе ў розныя топы «самых-самых» футболак. Паводле версіі англійскай газеты «The Sun», майка «Аякса» з 70-х заняла 9-е месца сярод камізэлек усіх часоў, а паводле версіі штотыднёвіка «France Football» — першае!

Не будзем забываць і аб тым, што фанаты амстэрдамцаў — даволі рэзкія хлопцы, якім будзе дастаткова складана растлумачыць, чаму сцяг іх клуба ў Беларусі ў «бане». Баявая групоўка ў «Аякса» не проста існуе, а часцяком лупіцца з усімі запар. Куды глядзіць галандская паліцыя — абсалютна незразумела.

### «Спартак» (Масква, Расія)

Вельмі доўга гуляе ў белым і чырвоным і маскоўскі «Спартак». Яшчэ ў 1935-м энтузіясты, якія стварылі спартыўнае таварыства, прапанавалі гэтыя колеры для каманды. З той пары так і гуляюць: белая палоска на чырвоным дома, чырвоная на белым — у гасцях.

Калі гасцяваць давядзецца ў Мінску, могуць быць праблемы. Дарэчы, і ў гэтага клуба фанаты — даволі баявыя таварышы. Самы папулярны клуб Расіі ў незалежнай Беларусі афіцыйных матчаў яшчэ не гуляў. Але «ультрас» «Спартака» ўжо прыязджалі ў Барысаў падтрымаць іншую «бела-чырвоную» каманду — белградскую «Црвену Звезду» ў гульні супраць БАТЭ.

### «Штутгарт» (Германія)

Каманда са сталіцы нямецкай зямлі Бадэн-Вюртэмберг гістарычна не чужая беларускім футбольным аматарам. Менавіта ў ёй па-сапраўднаму ўзышла зорка Аляксандра Глеба — найлепшага айчыннага гульца ў XXI стагоддзі. Шэсць гадоў ён выходзіў на поле ў фірмовай штутгартскай белай майцы з чырвонай паласой. Гэтыя колеры у швабскай каманды з 1949-га.

### «Арсенал» (Лондан, Англія)

Яшчэ адзін клуб Глеба, дзе Аляксандр правёў, бадай, лепшыя гады кар'еры (па іроніі лёсу — таксама ў БЧБ). «Кананіры» ўжо двойчы прыязджалі ў Беларусь — абодва разы ў Барысаў. Аднойчы БАТЭ нават удалося перайграць лонданцаў — 1:0 дзякуючы голу Станіслава Драгуна. Міліцыі было шмат, але за бела-чырвона-белую вопратку тады не «прымалі». Для гэтага давялося б пастарацца: заўзятары англічан занімалі прыкладна чвэрць «Барысаў-Арэны». Хто забыў, менавіта на першай гульні здарыўся той самы забег з бел-чырвона-белым сцягам заўзятара Аляксандра Вянгерскага... Цяпер запакаваць прыйшлося б нашмат больш, чым аднаго парушальніка парадку.

Паводле легенды, чырвоную майку з белымі рукавамі «Арсеналу» прыдумаў у 1930-х сам Херберт Чэпман — легендарны трэнер і вялікі наватар футбола. Спалучэнне колераў і выдатная гульня лонданцаў перад Другой сусветнай вайной дадалі «кананірам» шмат прыхільнікаў. Напрыклад, «Брага» з Партугаліі — таксама выбітны клуб — у 1946-м змяніў старыя зялёна-белыя майкі на арсенальскія БЧБ. Паводле адной з версій, аб гэтым папрасіў прэзідэнта клуба венгерскі трэнер Ёжэф Саба пад уражаннем ад вялікага «Арсенала» — і «Брага» адразу ж выйграла турнір у другім партугальскім дывізіёне. На фарт БЧБ вырашылі захаваць.

### Зборная Англіі

І гэтая легенданая каманда ў Беларусі ўжо была ў 2008-м. Знакамітыя заўзятары на тры дні запаланілі цэнтральныя вуліцы Мінска з куфлямі піва ў адной руцэ і бела-чырвоным сцягам з крыжом Святога Георгія ў другой... Цяжка ўявіць, што б было пры такой падтрымцы зараз. А тады англічане «had fun»: пакаштавалі «Крыніцы» і «Аліварыі», сфатаграфаваліся з Леніным, выйгралі ў хлопцаў Бернда Штанге 3:1... Здаецца, наступным разам у Мінску за Англію будуць заўзець нават больш.

### Зборная Турцыі

Флаг Турэччыны — белы паўмесяц і белая зорка на чырвоным полі. Не дзіўна, што колеры нацыянальнай каманды такія ж. Прычым часцяком дызайнеры выкарыстоўваюць БЧБ-варыянт. Час ад часу — толькі на майках. Час ад часу — у комплексе (белая футболка, чырвоныя шорты, белыя гетры).

Прыезд зборнай Турцыі — заўсёды карнавал і свята. Але і гарачыя ультрас у турак таксама ёсць. Калі айчынная міліцыя пачне прапанаваць пазбавіцца сімволікі неўстаноўленага ўзору, можа зрабіцца сапраўды горача.

### Зборная Польшчы

«Бяла-чэрвоныя» таксама бывалі ў Беларусі — гэта ім Раман Васілюк забіў покер у знакамітай гульні на «Дынама». Палякі-заўзятары — гэта стыхія. Колеры ў іх таксама цяжка забраць. Самая кепская навіна: Польшча побач, трэвэл адтуль танны, калі месцы для гасцей будуць распрададзеныя, можна зладзіць ганца ў Мінск, каб той затарыўся квіткамі ў беларускія сектары, што ўвогуле няцяжка: нашы людзі наўрад ці такую гульню раскупяць за дзень. Усё ж не мадрыдскі «Рэал». І нават не «Атлетыка».

### «Атлетыка» (Мадрыд, Іспанія)

Дарэчы, «атлеты» — яшчэ адна БЧБ-каманда, якая тэарэтычна можа напаткаць беларусаў у еўракубках. Лічыцца, што

гэтыя колеры клуб атрымаў у 1911-м, бо першыя камізэлькі былі пашытыя з тканіны для матрасаў з характэрнай расфарбоўкай — яна была самай таннай на той момант. Стрыечныя браты мадрыдцаў — «Атлетык» з Більбаа — таксама заязджалі ў Барысаў, дзе саступілі тамтэйшым «жоўта-блакітным». Абышлося без інцыдэнтаў. Але што будзе, напрыклад, восенню, калі ў Беларусь раптоўна наедуць фанаты «Атлетыка», цяжка ўявіць. Здаецца, забарону на БЧБ давядзецца на нейкі тэрмін скасаваць.

## «Манака»

Клуб з мікрадзяржавы на Блакітным Беразе доўга над колерамі не думаў: узяў іх з фамільнага герба князя Манака і нацыянальнага сцяга. І з гонарам носіць вось ужо 96 гадоў. У БЧБ манэгаскаў апраналіся такія зоркі, як Юрген Клінсман, Цьеры Анры і Жорж Веа. А вось у Мінску зараз хадзіць у іх можа быць небяспечна.

## «Кёльн» (Германія)

Яшчэ адзін біты на «Барысаў-Арэне» клуб, які выкарыстоўвае белы і чырвоны. Сімвалічна, што «Кёльн» заязджаў у Беларусь у адной групе Лігі Еўропы з «Арсеналам» і «Црвенай Звездай» — то-бок, усе каманды былі ў розных варыянтах БЧБ.

Заўзятары «Кёльна» ўразілі. Невыпадкова: для нямецкага клуба гэта быў першы матч у еўракубках за 25 гадоў. Пры гэтым у першым туры той ЛЕ-2017/18 «казлы» ўчынілі вялікую бузу ў Лондане. Але ў Барысаве пад прыглядам міліцыі ніякіх беспарадкаў не было. Нягледзячы на колеры.

## «Алімпіякос» (Пірэй, Грэцыя)

Гранд з прыафінскага порта можа навесці «шухер» у любой кропцы Еўропы. Фанаты «Алімпіякоса» — гэта мала таго, што БЧБ ад галавы да ног, дык яшчэ і вандроўнае па ўсім кантыненце фаер-шоу. Плюс баявыя групоўкі, якія гатовы даць рады дзе заўгодна і каму заўгодна. Плюс сяброўства з тымі ж маскоўскім «Спартаком» і «Црвенай Звездай». «Алімпіякос» нямала мяняў канфігурацыю формы, але адно заставалася нязменным: белыя і чырвоныя палоскі. У некаторых сезонах шырэйшыя, у некаторых — больш вузкія.

## «Раё Вальекана» (Мадрыд, Іспанія)

Здалёк бачная дыяганаль у стылі БЧБ на футболках трэцяга мадрыдска клуба «Раё Вальекана» з'явілася не адразу. «Веліканы» вельмі хацелі знайсці найлепшае спалучэнне колераў, шмат чаго перабралі і спыніліся на белым і чырвоным. Але ў іх у Мадрыдзе ўжо гуляў «Атлетыка». Клубы селі за стол перамоў — і сышліся на кампрамісе: у «Вальекана» будзе чырвоная паласа, але толькі адна. Тут яна сімвалізуе больш стралу на эмблеме клуба. У гэтым сезоне «пчолы» не страцілі шанцаў на пад'ём у прымеру. А адтуль ёсць сакрэтны шлях і да еўракубкаў, і да Беларусі.

## «Стандард» (Льеж, Бельгія)

Льежцы таксама майстры піратэхнікі, тыфа і іншых фанатскіх перформансаў. Яны ўжо бывалі ў Мінску: у 2013-м перамаглі «Мінск». Усё прайшло ціха, хаця невялічкая колькасць бельгійскіх заўзятараў прыехалі «на колерах». З БЧБ «Стандард» толькі аднойчы нарваліся на праблему, але не ў Мінску, а ва ўласным бельгійскім першынстве. У 2014-м ім давялося заклеіць белыя часткі футболкі чырвоным скотчам. Прычына — загад дэлегата матча і суддзяў. Справа была перад гульнёй з «Шарлеруа». Белы ў той час быў і ў форме апанентаў. Што рабіць? Кіт-менеджары «Стандарта» ўзяліся за ізаленту і хуценькаператварылі БЧБ у проста Ч. У другім тайме пачало адклейвацца, але як ёсць...

## «Славія» (Прага, Чэхія)

Каманда з чэшскай сталіцы крыўдна захлопнула перад БАТЭ калітку ў Лігу чэмпіёнаў-2017/18. Адзін з самых старых клубаў ва Усходняй Еўропе («Славіі» 129 гадоў!) спачатку быў роварным, але хутка пачалі гуляць і ў футбол. У якасці колераў пры заснаванні выбралі чырвоны і белы. Чырвоны, па задумцы, сімвалізуе кроў і сэрца, а белы — дух «fairplay». Тады ж на майках з'явілася і перавёрнутая пяціканечная зорка — сімвал новай надзеі, пастаяннага жадання станавіцца лепш і духапад'емнасці.

Нягледзячы на чырвона-белыя майкі фанаў «Славіі», гульня на «Барысаў-Арэне» прайшла даволі спакойна. Куды больш за чэшскіх фанатаў запомніўся стрэл Міркі Іваніча побач са стойкай. БАТЭ перамог 2:1 — для праходу ў наступны раунд не хапіла менавіта аднаго мяча, бо ў Празе «жоўта-блакітныя» саступілі 0:1.

## «Саўтгемптан» (Англія)

Белыя і чырвоныя палоскі на майках брытанскіх клубаў — з'ява даволі частая. Бадай, першай камандай, якая ўвяла іх у мэйнстрым, стаў «Стоўк Сіці» ў 1883-м. У 1891-м ліга вырашыла, што дзве каманды не могуць выкарыстоўваць аднолькавы дызайн, і палоскі адышлі да іншага прэтэндэнта — «Сандерленда». Цяпер абодва гэтыя клубы працягваюць гуляць у тых жа расфарбоўках, аднак далёка ад прэмьер-лігі.

Але ў эліце англійскага футбола усё роўна ёсць каманда ў БЧБ-колерах — «Саўтгемптан». Хлопцы з партовага горада вырашылі гуляць у такім выглядзе ў 1884-м — у гонар таго, што большасць футбалістаў у камандзе калісьці бегала за той самы «Стоўк Сіці». Але ў той час палос было толькі дзве. Больш іх стала у 1888-м. Дый цяпер каманда часцяком эксперыментуе з таўшчынёй і колькасцю. Напрыклад, выязная форма ў сезоне-2021 — яшчэ адна варыяцыя на тэму чырвонай дыяганалі на белым полі.

Гэта зараз «Саўтгемптан» — засцянковая шляхта. А на стыку XIX і XX стагоддзяў гэта была адна з лепшых каманд Англіі, якая чатыры разы за дзесяць год (з 1892-га па 1902-гі) выйгравала паўднёвую лігу. Кажуць, што менавіта ў той час адзін з караблёў з саўтгемптанскага порта адправіўся якраз у Більбаа — так і там з'явілася БЧБ-форма, у якой гуляюць і зараз.

## «Ольбарг» (Данія)

Дацкія клубы вельмі паважаюць белы і чырвоны. Што не здзіўляе: гэта колеры нацыянальнага сцяга. І адзін, і другі сустракаецца на майках «Орхуса», «Міцьюланда», «Нордшэланда», «Вейле»... Дый нацыянальная зборная (якая заязджала ў Мінск) таксама гуляе ў іх.

Але ярчэй за ўсё БЧБ выражаны ў «Ольбарга». З ім калісьці гуляла загінулае мінскае «Дынама-93» — была справа ўлетку 1997-га ў Кубку Інтэртота. Беларусы прайгралі ў гасцях, а сустрэчы ў Беларусі рэгламент тады не прадугледжваў. Магчыма, у будучыні — з адным з існуючых нашых «Дынама»?..

## «Хапаэль» (Беэр-Шэва, Ізраіль)

Большасць ізраільскіх «Хапаэляў» мае сярод сваіх колераў чырвоны. І гэта невыпадкова. Спартыўнае таварыства было заснавана яшчэ да ўзнікнення самой краіны і з самага пачатку згуртавала сярод сваіх членаў працоўны клас і людзей левых палітычных поглядаў — адсюль і колер пралетарскага сцяга. Само слова «хапаэль» у перакладзе з іўрыта азначае «рабочы». «Рабочыя» з Беэр-Шэвы дадалі да сваёй формы яшчэ і белы.

## «Гамільтан Акадэмікал» (Гамільтан, Шатландыя)

Калі вы не пільна сочыце за шатландскай прэмьер-лігай, вы можаце падумаць, што «акадэмікі» — нейкі глыбокі мінор са дна возера Лох-Нес. Аднак гэта не так: «Гамільтан» — у эліце апошнія сем год. Адразу пасля ўзнікнення клуба (а яму без трох гадоў 150) гульцы выходзілі на газон у вішнёвым і шэрым, але потым вырашылі на карысць белага і чырвонага. Традыцыя захавалася да нашых дзён.

## «Сьён» (Швейцарыя)

Клуб з прыгожых берагоў Роны ў кантоне Вале многім памятны легендарнай перайгроўкай матча з маскоўскім «Спартаком», калі давялося мераць вароты на «Лужніках». Аднак у гісторыі «бела-чырвоных» былі і два чэмпіёнскія тытулы, і трынаццаць (!) кубкаў Швейцарыі. А хто помніць, што менавіта ў БЧБ «Сьёна» скончыў у 2013-м кар'еру легендарны апорнік зборнай Італіі Джэнара Гатуза?

У 1909-м, калі клуб толькі стварыўся, над колерамі і эмблемай доўга не думалі — проста крышку пераасэнсавалі герб горада, дадаўшы да яго надпіс «FCSION». Так і гуляюць да гэтай пары.

У Мінск «Сьён» пакуль не прыязджаў. Была зборная Швейцарыі, але іх заўзятарам прасцей — усё-ткі на атрыбутыцы больш чырвонага, чым белага.

## «Антальяспор» (Анталья, Турцыя)

«Скарпіёны», як клічуць уласныя фанаты каманду са сталіцы турэцкага адпачынкавага выраю, існуюць з 1966-га. І ўвесь гэты час — у БЧБ. Нават устаноўчыя дакументы — з дыяганальнай чырвонай паласой.

Сімвалічна, што свой першы ў гісторыі еўракубкавы матч «Антальяспор» правёў у Мінску. У 1996-м у межах Кубка Інтэртота туркі аказаліся мацней за беларускую «Атаку-Ауру» — 3:0. Мінчукам заставалася жыць зусім нядоўга — праект амбітнага Якава Шапіра ніяк не знаходзіў грошай на далейшае існаванне. А вось «Антальяспор» з той пары падрос у статусе. Тут нават Самуэль Эта'о гуляў. Так што ў клуба нядрэнныя шанцы яшчэ раз завітаць у Беларусь па еўракубкавай справе. Толькі вось з колерамі трэба паакуратней...

...Гэты спіс можна расцягнуць на цэлую кнігу. І гэта не лічачы чыста геральдычных супадзенняў. Напрыклад, флаг галандскага горада Энсхэдэ — таго самага, дзе гуляе футбольны клуб «Твэнтэ» — гэта аккурат БЧБ. Блізкі да гэтага — і флаг эмірата Шарджа ў ЗАЭ, дзе таксама ёсць свае каманды.

Чырвоны і белы ў футбольным свеце настолькі частае спалучэнне, што забараняць любое яго выкарыстанне сабе даражэй. Нават калі мы выйдзем па-за еўрапейскія межы, мы ўбачым сполыхі БЧБ паўсюль. У гэтых колерах гуляе мексіканская «Нэкакса» з Паўночнай Амерыкі і бразільскі «Інтэрнасьянал» з Паўднёвай. Трыбуны аргентынскага стадыёна «Манументаля» спрэс у бел-чырвона-белым, бо там гуляе «Рывер Плэйт» — той самы легендарны клуб, у майцы якога развітальнае відэа запісаў беларускі дыпламат Уладзімір Астапенка (праз нязгоду з вынікамі выбараў і міліцэйскім гвалтам ён пакінуў пасаду ў беларускім пасольстве ў Парагваі і Перу).

У Афрыцы ёсць каірскі «Замалек» з чырвонай паласой на грудзях, а ў Інданэзіі — «Мадура Юнайтэд». Які не мае дачынення да прэзідэнта Венесуэлы і тройчы выйграваў нацыянальны чэмпіёнскі тытул. Нават у Новай Зеландыі ў БЧБ-майках выходзяць на поле гульцы «Уайтакеры Юнайтэд». І ніхто іх за гэта не арыштоўвае.



«Алімпіякос» (Пірэй, Грэцыя): у адной колеравай гаме з фанатамі


«Раё Вальекана» (Мадрыд, Іспанія): футболкі «па схеме БЧБ»

Іван КАРПЕНКА

# Адборачны турнір ЧС-2022: армяне вышэй за немцаў, а катарцы — у еўраадборы

**У вясновых матчах адбору на ЧС здарылася столькі значнага, што на беларускія антырэкорды, акрамя саміх беларусаў, амаль ніхто не звярнуў увагі.**

### Арменія: пасля вайны

Паражэнне немцаў ад паўночных македонцаў узрушыла футбольную Еўропу, але, мабыць, не стала галоўнай сенсацыяй гэтай вясны. Толькі падводкай да яе. Бо дзякуючы зрыву бундэстым групу «J», як мінімум да восені, аднаасобна ўзначаліла 99-я зборная ў рэйтынгу ФІФА. Зборная Арменіі.

Пад кіраваннем іспанца Хаакіна Капароса армяне рухаюцца па дыстанцыі без памылак і без сваёй галоўнай суперзвязды і надзеі нацыі: паўабаронца італьянскай «Ромы» Генрых Мхітаран пакуль назірае за подзвігамі землякоў з бальнічнага ложка.

Калі перамога над Ліхтэнштэйнам была ўспрынятая як належнае, то наступны прыём у Ерэване ісландцаў і румынаў — амаль як цуд. Асабліва гэта тычыцца матчу з румынамі, якія вялі да 86-й хвіліны, але ў выніку з'ехалі з гасцей з сувенірным каньяком замест ачкоў. Усё дзякуючы волі гаспадароў да перамогі і пераканаўчаму падзенню Сперцяна ў штрафной пад канец сустрэчы. Ён такім чынам не толькі прынёс камандзе пенальці, але і сам яго рэалізаваў, забіўшы свой першы гол за зборную. Выступае паўабаронца, дарэчы, за «Краснадар» і з нядаўніх часоў у яго новы трэнер — Віктар Ганчарэнка.

Што яшчэ больш дзіўна, зборная Арменіі выдае супервынікі на вельмі няпростым для краіны адрэзку. У фактычна пасляваенны перыяд — з усімі наступствамі. Перамогі зборнай цяпер дапамагаюць людзям адцягнуць увагу ад цяжкіх дум, а прэм'ер-міністр Нікол Пашынян шматзначна піша ў сваім фэйсбуку пра футбол: «Перамога пасля паразы... прысвячаецца нашым братам».

Восенню неспадзяванага лідара групы чакае праверка раз'юшанымі немцамі і македонцамі, якія паверылі ў сябе. Але гэта ўжо будзе іншая гісторыя. А балканцы, дарэчы, на справе даказваюць, што не проста так упершыню паедуць на чэмпіянат Еўропы, прабіўшыся туды праз Лігу Нацый. Усе іх экс-канкурэнты за пуцёўку — Косава, Грузія і Беларусь — гэтай вясной выступілі няўцямна.

Партугалія: дрэнна без VAR

Здаецца, пераможны гол Крыштыяну Раналду ў матчы з сербамі ўбачылі ўсе, акрамя галоўнага суддзі Дані Маккелі і яго памочніка на лініі. Вынік — ні гала, ні перамогі. Пасля фінальнага свістка Раналду з лютасцю шпурнуў вобзем капітанскую павязку і схаваўся ў падтрыбунне, падштурхнуўшы абмеркаванне ў іншы бок. Наколькі і пры якіх абставінах дапаравальна раскідвацца важнымі каманднымі сімваламі?

Пазней суддзя папрасіў прабачэння за памылку, але лягчэй ад гэтага нікому не стала. Асабліва Раналду, у якога 24 галы ў 25 матчах італьянскай серыі «А» за «Ювентус», а за зборную — усяго два за апошнія восем сустрэч. А рэкорд па колькасці галоў за нацыянальную каманду сам сябе не паб'е. У 36-гадовага партугальца ў актыве 103 галы, мэта — 109 мячоў іранца Алі Даеі. Час цікае...

Але галоўнае, што ў чарговы раз выявіла гэтая сітуацыя: з VAR і сістэмай аўтаматычнай фіксацыі гола нашмат лепш, чым без іх. На важных турнірах без відэакантролю наогул нікуды, але сусветны адбор пакуль у гэтую катэгорыю не ўвайшоў, што правакуе падобныя скандалы. Вядома, можна сказаць, што праблема надуманая і не так ужо і часта суддзі прапускаюць мячы, якія заляцелі ў вароты, — проста момант аказаўся рэзанансным. Канцоўка матчу, 2:2, вырашальны гол...

Усё так, але калі эпізод не прынцыповы, ён проста загульваецца, а праблема застаецца нявырашанай, пераходзячы ў рэжым бомбы запаволенага дзеяння. Тыя ж бельгійцы маглі завяршыць гістарычную гульню з беларусамі з 9:0 на табло, але рэферы не заўважыў, як Гутар выграб мяч ужо з-за лініі. Да таго моманту госці ўжо вялі буйна і сцэн ладзіць не сталі.



Зборная Арменіі: перамогі пасля вайны

### Катар: у еўраадбор

Зборная Катара шукае любыя спосабы, каб лепей падрыхтавацца да хатняга чэмпіянату свету. Адзін з іх такі: па-за конкурсам прыняць удзел у групе «А» еўрапейскага адбору. Катарцы правялі ўжо тры матчы — супраць Люксембурга, Азербайджана і Ірландыі — і зарабілі сем ачкоў. Калі б яны выступалі афіцыйна, то зараз дзялілі б першае месца з партугальцамі і сербамі.

Наогул, групу катарцам падабралі акуратна. Апыніся яны ў пуле з немцамі, галандцамі або нарвежцамі, мог бы здарыцца скандал. Гэтыя зборныя і без таго выходзяць на матчы ў футболках з надпісам «Правы чалавека на поле і за яго межамі», а катарскія афіцыйныя асобы на падобныя заявы рэагуюць вельмі востра. Лік загінуўшых рабочых-мігрантаў на будаўніцтве стадыёнаў да ЧС-2022 у Катары ідзе ўжо на тысячы, улады краіны адбіваюць нападкі міжнароднай супольнасці як могуць.

У спартыўным плане ўсё значна лепш. Катарцы адышлі ад практыкі павальнай натуралізацыі, нанялі талковага іспанскага трэнера Фелікса Санчэса, які доўга працаваў у футбольнай школе «Барселоны», і кропкава ўзмацнілі легіянерамі праблемныя пазіцыі. Прычым з дамарослымі гульцамі ў Катара аказалася ўсё ў парадку: нарэшце пачала прыносіць плён суперсучасная акадэмія «Aspire», у якую мясцовыя шэйхі ўклаліся яшчэ ў 2004-м. Увогуле, заяўленая зборная мэта выйсці ў паўфінал ЧС хоць і выглядае дзіўнавата, але не так безнадзейна, як магла б. У расіян у 2018-м, у рэшце рэшт, усё атрымалася.

### Украіна: без перамог

Ва ўсіх суседзяў беларусаў узніклі праблемы з наборам ачкоў. Ад Літвы і Латвіі першапачаткова чаканні былі невялікія, хоць латышы здзівіць усё-ткі здолелі, не дазволіўшы абыграць сябе лідару групы. Яны прапусцілі ад турак ужо на другой хвіліне, а затым вярнуліся ў гульню. І зарабілі адзінае пакуль ачко. Пасля статыстычнай зверкі аказалася, што Латвія наогул ніколі ў сваёй гісторыі не саступала Турцыі: адна перамога, пяць нічыіх!

Зборная Украіны сёння — буйны эксперымент Андрэя Шаўчэнкі. Ён змяняе схемы, склад, гульнявыя ідэі, але вынік кожны раз адзін і той жа — 1:1. «Жоўта-блакітныя» не саступаюць французам і не могуць абыграць Казахстан, у краіне ўжо запанікавалі, што ЧС-2022 пройдзе без украінскай зборнай...

Палякі захандрылі без траўміраванага Лявандоўскага і прапусцілі наперад не толькі англічан, а таксама венграў і албанцаў. Недабралі яны, праўда, там, дзе першапачаткова праглядаліся цяжкасці. А на першыя палосы трапілі зусім не з-за гульні, а з-за адмовы перад матчам устаць на адно калена ў падтрымку руху «Black Lives Matter». У выніку пасля матчу давялося тлумачыць не прычыны паразы, а сваю пазіцыю наконт «BLM».

У расіян таксама не ўсё гладка. Яны ўзялі шэсць ачкоў у мальційцаў і славенцаў, аднак спатыкнуліся на першым жа больш-менш сур'ёзным суперніку — славаках. А можа, проста не выцягнулі трэці матч за сем дзён. Зборная Станіслава Чарчэсава — гэта шмат у чым гісторыя пра баявы дух і пераадоленне. А радавы адборачны матч з надрывам правесці не выйшла. Тым не менш, у расіян адна з самых простых груп, у якой другое месца амаль гарантавана.

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **ГРУПА «А»** | | | | | | | |
| 1. | Партугалія | 3 | 2 | 1 | 0 | 6-3 | 7 |
| 2. | Сербія | 3 | 2 | 1 | 0 | 7-5 | 7 |
| 3. | Люксембург | 2 | 1 | 0 | 1 | 2-3 | 3 |
| 4. | Ірландыя | 2 | 0 | 0 | 2 | 2-4 | 0 |
| 5. | Азербайджан | 2 | 0 | 0 | 2 | 1-3 | 0 |
| **ГРУПА «В»** | | | | | | | |
| 1. | Іспанія | 3 | 2 | 1 | 0 | 6-3 | 7 |
| 2. | Швецыя | 2 | 2 | 0 | 0 | 4-0 | 6 |
| 3. | Грэцыя | 2 | 0 | 2 | 0 | 2-2 | 2 |
| 4. | Грузія | 3 | 0 | 1 | 2 | 2-4 | 1 |
| 5. | Косава | 2 | 0 | 0 | 2 | 1-6 | 0 |
| **ГРУПА «С»** | | | | | | | |
| 1. | Італія | 3 | 3 | 0 | 0 | 6-0 | 9 |
| 2. | Швейцарыя | 2 | 2 | 0 | 0 | 4-1 | 6 |
| 3. | Паўн. Ірландыя | 2 | 0 | 1 | 1 | 0-2 | 1 |
| 4. | Балгарыя | 3 | 0 | 1 | 2 | 1-5 | 1 |
| 5. | Літва | 2 | 0 | 0 | 2 | 0-3 | 0 |
| **ГРУПА «D»** | | | | | | | |
| 1. | Францыя | 3 | 2 | 1 | 0 | 4-1 | 7 |
| 2. | Украіна | 3 | 0 | 3 | 0 | 3-3 | 3 |
| 3. | Фінляндыя | 2 | 0 | 2 | 0 | 3-3 | 2 |
| 4. | Боснія і Герц. | 2 | 0 | 1 | 1 | 2-3 | 1 |
| 5. | Казахстан | 2 | 0 | 1 | 1 | 1-3 | 1 |
| **ГРУПА «Е»** | | | | | | | |
| 1. | Бельгія | 3 | 2 | 1 | 0 | 12-2 | 7 |
| 2. | Чэхія | 3 | 1 | 1 | 7-4 | 4 | |
| 3. | Уэльс | 2 | 1 | 0 | 1 | 2-3 | 3 |
| 4. | Беларусь | 2 | 1 | 0 | 1 | 4-10 | 3 |
| 5. | Эстонія | 2 | 0 | 0 | 2 | 4-10 | 0 |
| **ГРУПА «F»** | | | | | | | |
| 1. | Данія | 3 | 3 | 0 | 0 | 14-0 | 9 |
| 2. | Шатландыя | 3 | 1 | 2 | 0 | 7-3 | 5 |
| 3. | Ізраіль | 3 | 1 | 1 | 1 | 5-4 | 4 |
| 4. | Аўстрыя | 3 | 1 | 1 | 1 | 5-7 | 4 |
| 5. | Фарэры | 3 | 0 | 1 | 2 | 2-8 | 1 |
| 6. | Малдова | 3 | 0 | 1 | 2 | 2-13 | 1 |
| **ГРУПА «G»** | | | | | | | |
| 1. | Турцыя | 3 | 2 | 1 | 0 | 10-5 | 7 |
| 2. | Нідэрланды | 3 | 2 | 0 | 1 | 11-4 | 6 |
| 3. | Чарнагорыя | 3 | 2 | 0 | 1 | 6-3 | 6 |
| 4. | Нарвегія | 3 | 2 | 0 | 1 | 4-3 | 6 |
| 5. | Латвія | 3 | 0 | 1 | 2 | 4-7 | 1 |
| 6. | Гібралтар | 3 | 0 | 0 | 3 | 1-14 | 0 |
| **ГРУПА «Н»** | | | | | | | |
| 1. | Харватыя | 3 | 2 | 0 | 1 | 4-1 | 6 |
| 2. | Расія | 3 | 2 | 0 | 1 | 6-4 | 6 |
| 3. | Славакія | 3 | 1 | 2 | 0 | 4-3 | 5 |
| 4. | Кіпр | 3 | 1 | 1 | 1 | 1-1 | 4 |
| 5. | Славенія | 3 | 1 | 0 | 2 | 2-3 | 3 |
| 6. | Мальта | 3 | 0 | 1 | 2 | 3-8 | 1 |
| **ГРУПА «І»** | | | | | | | |
| 1. | Англія | 3 | 3 | 0 | 0 | 9-1 | 9 |
| 2. | Беларусь | 3 | 2 | 1 | 0 | 10-4 | 7 |
| 3. | Албанія | 3 | 2 | 0 | 1 | 3-2 | 6 |
| 4. | Польшча | 3 | 1 | 1 | 1 | 7-5 | 4 |
| 5. | Андора | 3 | 0 | 0 | 3 | 1-8 | 0 |
| 6. | Сан-Марына | 3 | 0 | 0 | 3 0-10 | 0 | |
| **ГРУПА «J»** | | | | | | | |
| 1. | Арменія | 3 | 3 | 0 | 0 | 6-2 | 9 |
| 2. | Паўн. Македонія | 3 | 2 | 0 | 1 | 9-4 | 6 |
| 3. | Германія | 3 | 2 | 0 | 1 | 5-2 | 6 |
| 4. | Румынія | 3 | 1 | 0 | 2 | 5-6 | 3 |
| 5. | Ісландыя | 3 | 1 | 0 | 2 | 4-6 | 3 |
| 6. | Ліхтэнштэйн | 3 | 0 | 0 | 3 | 1-10 | 0 |

# Канстанцін Гарачы: «У Мінску цяпер уся музыка замерла»

Ганна ЕРМАКОВІЧ

**Канстанцін Гарачы — піяніст-віртуоз, яркі прадстаўнік сучаснага беларускага джаза. Паглядзець на яго эмацыйныя адносіны з музычным інструментам, якія ператвараюцца ў выдатнае гучанне джазавых гармоній, збіраюцца поўныя залы не толькі ў Беларусі, але і далёка за мяжой.**



Канстанцін шмат падарожнічаў, але заўсёды жыў і працаваў у Мінску. А ў лістападзе 2020 года з'ехаў у Кіеў, каб больш не баяцца быць затрыманым, калі выходзіць з дому.

***— У 2020 годзе вы сталі актыўным удзельнікам пратэсных акцый. Ці прысутнічала палітыка ў вашым жыцці раней?***

— Пачнём з таго, што я вырас у дысідэнцкім асяроддзі. Мой бацька ў 1962 годзе быў асуджаны па палітычным артыкуле. Таму ў сям'і ёсць пэўныя традыцыі іншадумства. Дома заўсёды гучалі так званыя «варожыя галасы» па прыёмніку, былі размовы пра актуальныя падзеі ў краіне. Ад моманту прыходу Лукашэнкі да ўлады ў нас не было ніякіх ілюзій. Апошняй кропляй, якая абвастрыла мае адносіны з дзеючай уладай, стаў 2010 год. Я лічу, што нармальны чалавек не мог не заўважаць страшэннага абсурду, які адбываўся ў нашай краіне на працягу апошняга дзесяцігоддзя. Таму для мяне гісторыі пра беларусаў, якія, як кажуць, расплюшчылі вочы толькі ў 2020 годзе, гучаць дзіўна.

***— Як вам жылося тут з разуменнем гэтага абсурду?***

— Пасля 2010 года я максімальна абмежаваў усе свае кантакты з дзяржаўнымі выданнямі, тэлебачаннем, увогуле з усім дзяржаўным... Наколькі гэта было магчыма.

***— Рыхтуючыся да размовы, я заўважыла вашае інтэрв'ю з Андрэем Мукавозчыкам ад 2018 года. Ці далі б вы яму інтэрв'ю цяпер?***

— Ад 2018? Гэта проста немагчыма. Я сапраўды размаўляў з ім, але гэта было значна раней. І скажу шчыра, я тады не ведаў, хто такі Мукавозчык. Тады выйшаў альбом з маёй музыкай, таму я спрабаваў даваць як мага больш інтэрв'ю, каб пра яго распавесці. Напэўна, у 2018 годзе тую нашу размову проста недзе перадрукавалі... Мукавозчык звяртаўся да мяне апошнім часам, зразумела, ніякай размовы ў нас не атрымалася. Мне няма аб чым з ім размаўляць.

***— Вы былі на плошчы пасля выбараў у 2010 годзе?***

— На самой плошчы не. Мой сын быў тады зусім маленькім, яго проста не было з кім пакінуць. Але мая маці і брат у той дзень выйшлі на плошчу, каб выказаць свой пратэст.

***— Фактычна, усё жыццё вы жылі і працавалі ў Мінску, хаця ў шэрагу іншых краін маглі б быць нашмат больш свабодным у творчым і чалавечым плане. Чаму вы не з'ехалі раней?***

— Я ўвогуле ніколі не жадаў з'язджаць, і ў 2020 годзе таксама. З'ехаў тады, калі альтэрнатывай было сядзець і чакаць арышту. Што тычыцца музыкі, я заўсёды лічыў, што і ў Беларусі можна працаваць на высокім узроўні. Хаця ў арганізацыйным і тэхнічным плане гэтая мэта станавілася ўсё больш складанай. Але за час працы ў Мінску былі створаны сапраўды выдатныя праекты. Напрыклад, гурт «Dee Tree», якім варта ганарыцца. Калі б я з'ехаў — як бы ў ім паўдзельнічаў?

***— Што вы адчувалі, калі выходзілі на акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі выбараў у Беларусі?***

— Безумоўна, было страшна. Усім было страшна, асабліва з кастрычніка. Але я заўважыў, што калі заставацца дома, становіцца яшчэ горш. Дома вельмі трывожна. А выходзіш на пратэст — бачыш, што не адзін, адчуваеш нешта правільнае ў гэтым.

***— Як даўно вы знаёмыя з Марыяй Калеснікавай?***

— Два з паловай гады таму нас пазнаёміў віяланчэліст Міхаіл Радунскі. Мы зладзілі невялікі канцэрт утрох — флейта, віяланчэль і фартэпіяна. Так і пазнаёміліся. Потым сустракаліся ў прасторы «ОК 16», дзе Марыя працавала дырэктаркай. А пазней бачыліся на пікетах Святланы Ціханоўскай.

***— Як бы вы ахарактарызавалі Марыю?***

— Яркая, моцная, мэтанакіраваная. Жанчына з вельмі цвёрдай жыццёвай пазіцыяй.

***— Ці моцна вас здзівіла ўсё, што здарылася з ёй у 2020 годзе?***

— Так, вельмі моцна. Але я памятаю, як яна казала, што адчувае, што цяпер жыве правільна. Што музыка, мастацтва — гэта ўсё цікава і цудоўна, але тое, чым яна займалася на працягу прэзідэнцкай кампаніі і пасля яе — нашмат больш істотна. Для яе гэта стала больш важным за ўсё астатняе.

***— А сярод вашых калег, беларускіх музыкаў, шмат прыхільнікаў дзеючай улады?***

— З усімі яе прыхільнікамі я абмежаваў адносіны даўно. Ёсць музыкі, якія працягваюць працаваць у дзяржаўных установах, ёсць тыя, якія маюць нейкае дачыненне да ганебных праўладных шабашаў... Я не гатовы нікога асуджаць, але сапраўды не разумею, чаму людзі працягваюць працаваць.

***— Як вы прымалі рашэнне з'ехаць з краіны?***

— Мне прыйшоў ліст, што ў адносінах да мяне вядзецца працэс па артыкуле 23.34. Да таго ж тады па невядомых прычынах пачалі масава затрымліваць музыкаў... Я не хацеў правяраць, як далёка ўсё гэта можа зайсці. Шчыра кажучы, на той момант у мяне ўжо з'явілася адчуванне бессэнсоўнасці майго ўдзелу ў пратэсным руху. Кожны тыдзень я выходзіў на маршы. Не толькі ў нядзелю, але ў нядзелю — абавязкова. Лічыў, гэта мой грамадзянскі абавязак. Але пазней з'явілася адчуванне таго, што гэта нічога не вырашыць...

Я з глыбокай павагай стаўлюся да Паўла Аракеляна, які пачаў ладзіць дваравыя імпрэзы. Але ў мяне такі фармат не складваўся. Я б жадаў зрабіць падобны канцэрт, але гэта было вельмі складана з тэхнічнага боку.

З Паўлам я размаўляў за дзень да яго затрымання, тэлефанаваў яму ўжо з Кіева. Ён добра разумеў усе магчымыя пагрозы, але ўсё роўна не спыняўся. Гэта моцнае рашэнне, вартае захаплення.

***— Вы разумелі, што з'язджаеце ў Кіеў надоўга?***

— Я ведаў, што ўсё вырашыцца не ў самы хуткі час. Але чамусьці здавалася, што да сакавіка неяк атрымаецца вярнуцца ў Мінск.

***— Гледзячы на вашу старонку ў Instagram, цяпер у Кіеве вы занятыя ў шматлікіх музычных праектах...***

— Зразумела, я выстаўляю тое, чым жадаю падзяліцца... А праблемы застаюцца ў цяні. У Кіеве, як і ў любым развітым горадзе, няма недахопу ў добрых музыках. Я вымушаны пастаянна пра сябе дзесьці нагадваць, каб атрымаць прапановы працы. Не магу сказаць, што праектаў шмат. Ёсць нейкія разовыя запрашэнні, прапановы. Гэта звязана і з тым, што ў Кіеве культурнае жыццё не да канца аднавілася пасля даволі жорсткіх каранцінных мер. Нават мясцовым музыкам не заўсёды ёсць чым заняцца.

***— А з беларускімі музыкамі вы працягваеце супрацоўнічаць?***

— Так, дыстанцыйна. Працягваем запісваць новы матэрыял з калектывам «Apple Tea», працуем з гуртом «Dee Tree». Часам звяртаюцца асобныя беларускія музыкі, стараюся дапамагчы. Такім чынам працягваю ўдзел у беларускім культурным жыцці.

***— Як вам Кіеў? Ці камфортна вы там сябе адчуваеце?***

— Кіеў — цудоўны горад. Я і раней бываў тут. У Кіеве сапраўды вельмі шмат варыянтаў для таго, каб бавіць час — як і з карысцю, так і без. Вядома, тут ніхто асабліва не сустракае з абдымкамі, але агульны эмацыйны фон мне вельмі падабаецца, з задавальненнем знаходжуся тут.

***— На канцэрты ў Кіеве вы часта выходзілі з бел-чырвона-белым сцягам. Як рэагавала мясцовая публіка?***

— Сустракалі радасна, падтрымлівалі... Але, скажу шчыра, многія тут нават не вельмі разумеюць, што адбываецца ў Беларусі. Не ўсе цікавяцца падрабязнасцямі, а некаторыя ўвогуле ўпэўненыя, што дарэмна мы так узняліся. На маю думку, гэта сведчыць, што тут, ва Украіне, ужо ўсё ў прынцыпе нядрэнна. Людзі не звяртаюць увагі на тое, з чым змагаліся не так даўно. На жаль, беларусы ў Кіеве не ўяўляюць сабою нейкую аб'яднаную суполку.

**«Безумоўна, было страшна. Усім было страшна, асабліва з кастрычніка. Але я заўважыў, што калі заставацца дома, становіцца яшчэ горш. Дома вельмі трывожна. А выходзіш на пратэст — бачыш, што не адзін, адчуваеш нешта правільнае»**

У Кіеве ёсць тыя, хто выходзяць на акцыі, але гэтых людзей не так шмат, як здаецца. Наконт фондаў, аб'яднанняў магу сказаць, што іх дзейнасць даволі не адназначная.

***— Ці ёсць у вас час і натхненне на стварэнне новай музыкі?***

— Так, пастаянна пішу і запісваю нешта новае. На жаль, не ўсё неабходнае абсталяванне атрымалася перавезці, таму ў тэхнічных магчымасцях я крыху абмежаваны. Але мясцовыя жыхары, мае сябры і новыя знаёмыя ў гэтым кірунку вельмі дапамагаюць. Да таго ж узровень кіеўскіх музыкаў вельмі натхняе на творчасць. Ён сапраўды высокі, у мяне ўвогуле спачатку было адчуванне, што апынуўся дзе-небудзь у Нью-Ёрку.

Зразумела, што ў Мінску цяпер уся музыка замерла. Але і да дваццатага года з ёй было складана. Таленавітых людзей у нас шмат. Але большасць з іх хутка сыходзяць з дыстанцыі, таму што сутыкаюцца з адсутнасцю творчых і працоўных перспектыў у краіне. Гэта абумоўлена не толькі ўзроўнем адукацыі, але і традыцыямі, і, так бы мовіць, ступенню адкрытасці краіны. Вельмі спадзяюся на тое, што сітуацыя з музыкай і ўвогуле з культурным жыццём у Беларусі палепшыцца. Я заўсёды гатовы працаваць на гэты вынік.

***— Калі паспрабаваць вызначыць адзіную, каранёвую прычыну таго, што музычнае жыццё ў Беларусі не развіваецца, што б вы назвалі?***

— Ведаеце, у савецкім канцлагеры быў джазавы аркестр Эдзі Рознэра. Выдатна, што ён быў, але ж гэта не аркестр Глена Мілера.

Я памятаю, што ў першыя месяцы пасля выбараў я ўвогуле не мог нічога рабіць. У многіх музыкаў праца проста стала на месцы. Пазней ужо пачалі пакрысе штосьці ствараць, таму што немагчыма было не працаваць увогуле. Я размаўляю з калегамі, сябрамі, якія засталіся ў Беларусі... У іх творчым стане адчуваецца здранцвенне, псіхалагічнае нежаданне раскрывацца. Я гэта добра разумею. Памятаю апошні тыдзень у Беларусі. Я проста сядзеў і чакаў, што ў дзверы пагрукаюць ці затрымаюць, калі буду выходзіць з кватэры. Многія жывуць з такім адчуваннем і цяпер. Якая там музыка?

***— Якія інтуітыўныя прадчуванні ў вас наконт развіцця падзей у Беларусі?***

— Пакуль усё нагадвае супрацьстаянне інтэлігенцыі і лагерных вертухаяў. Я вельмі стараюся верыць у моц чалавечага духу, у тое, што светлы бок пераможа... Але ж зразумела, што так званая дзеючая ўлада не спыніцца. Людзей кожны дзень затрымліваюць, катаванні працягваюцца. Вельмі хочацца неяк паўплываць на гэта, дапамагчы, але зусім не зразумела, якім чынам.

***— Няўжо вертухаі пераможуць?***

— Напэўна, і да вертухаяў паступова прыходзіць разуменне таго, што яны — ізгоі беларускага грамадства. Але ім вядома, што ўсе іх злачынствы зафіксаваныя, таму і пойдуць да канца. Я не ведаю, якім чынам дабрыня і святло могуць на Радзіме перамагчы, хоць і вельмі моцна гэтага жадаю.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Не падзялілі Калумба

Незвычайныя наступствы мела пастанова Джыма Кені (Jim Kenney), мэра Філадэльфіі, асудзіць крывавае каланіяльнае мінулае Амерыкі. Мэр змяніў назву мясцовага свята ў гонар Хрыстафора Калумба, прызнаючы, што еўрапейская каланізацыя прывяла да генацыду індзейцаў. Адначасова мэрыя вырашыла замест ушанавання Калумба святкаваць «Дзень індзейскіх народаў».

Але ідэя, якая здавалася слушнай, нечакана выклікала пратэсты з боку жыхароў італьянскага паходжання. Этнічныя італьянцы пабачылі ў рашэннях мэра замах на іх нацыянальную годнасць, паколькі Калумб, як вядома, нарадзіўся ў Генуі. На гэтым справа не скончылася. Італа-амерыканцы таксама звярнулі ўвагу на тое, што Джым Кені — выхадзец з сям'і імігрантаў з Ірландыі. Гэты момант адразу адрадзіў дух старога канфлікту, які назіраўся ў Злучаных Штатах у XIX стагоддзі. Тады імігранцкія супольнасці з Італіі і Ірландыі не вельмі сябравалі. А блізкія да тых дыяспар крымінальныя групоўкі ўвогуле ледзь не ваявалі.

Па ходзе гісторыі той канфлікт знік, — каб адрадзіцца цяпер. Праўда, гэтым разам абышлося без заклікаў да гвалту. У якасці помсты мэру-ірландцу мясцовыя італьянцы абяцаюць сарваць у Філадэльфіі святкаванне ірландскага нацыянальнага свята — Дня святога Патрыка.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### КІТАЙ. Мюзіклам па варожай прапагандзе

Кітайскія ўлады арыгінальна адрэагавалі на шматлікія заявы Захаду пра генацыд уйгураў. Калі верыць заходнім СМІ, Пекін разгарнуў у правінцыі Сіньцзян маштабную кампанію па асіміляцыі уйгураў, якім у спецыяльных «цэнтрах перавыхавання» гвалтоўна навязваць кітайскую ідэнтычнасць.

Адказам Кітаю на спробы ўзняць уйгурскае пытанне стаў выхад на экраны мясцовых кінатэатраў мюзікла «Крылы песень». Яго героі — музыкі з Сіньцзяну, вырашаюць вярнуцца на радзіму ў пошуках музы. Блукаючы па краі, яны знаёмяцца з мясцовымі этнічнымі кланамі — таджыкамі, уйгурамі, казахамі і гэтак далей. Усе тыя этнасы добра жывуць, не ведаючы ні пра якія «цэнтры перавыхавання».

Заходнія крытыкі пішуць, што занадта вялікая колькасць пазітыўных сцэн выклікае адчуванне фальшыўкі. А вось пекінская афіцыйная прэса, наадварот, прагназуе «Крылам песень» лёс «La La Land» — амерыканскага мюзікла, які пару гадоў таму атрымаў «Оскара» за лепшую стужку.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. Патрэніруюцца на крымска-татарскай?

Аматары «рускага міру» не прайшлі міма праекта «Канцэпцыі развіцця крымска-татарскай мовы», якую на мінулым тыдні зацвердзіў украінскі Кабмін. Сярод планаў, прапісаных у Канцэпцыі, — вызначэнне колькасці носьбітаў мовы, іх лакалізацыі і адукацыйных патрэбаў і гэтак далей. Але самае важнае новаўвядзенне — перавод мовы крымскіх татар на лацінскую графіку. Да гэтага часу ў Крыме выкарыстоўвалася галоўным чынам кірыліца.

Некаторыя лічаць, што апісаная рэформа — пробны шар па пераводу ўкраінскай мовы на лацінку. Нагадаем, што яшчэ ў 2018 годзе ў МЗС Украіны абмяркоўвалі ўвядзенне ва Украіне лацінкі нароўні з кірыліцай.

Зрэшты, з улікам хаосу ва ўкраінскай вертыкалі, ёсць шмат падстаў сумнявацца ў тым, што Канцэпцыя будзе рэалізаваная. У тым ліку з-за таго, што грошы на яе рэалізацыю, згодна з тэкстам, збіраюцца таксама «спагнаць з Расіі за шкоду, прычыненую ў межах збройнай агрэсіі».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ: Загадана стаць снежным чалавекам!

Экс-губернатар Кемераўскай вобласці Аман Тулееў у інтэрв'ю адной з газет распавёў пра незвычайны праект у часы сваёй губернатарскай кадэнцыі. Аказваецца, яго адміністрацыя ў пачатку 2000-х гадоў спрабавала прыцягнуць у край турыстаў за кошт тэмы снежнага чалавека, які, нібыта, тут жыве. Неўзабаве з'явілася новае рэгіянальнае свята — Дзень снежнага чалавека.

Але гэтым справа не абмежавалася. Калі цікавасць да снежнага чалавека падала, губернатар прымушаў чыноўнікаў яго ўвасабляць. Вось як сам Тулееў апісвае тую інструкцыю свайму намесніку: «Знайдзі кагосьці высокага росту, хай кажух скіне, футрам навыварат выверне і пабегае ў людных месцах, пакрычыць — каб турысты заўважылі, але злавіць не паспелі».

Захады Тулеева па развіцці турбізнесу выклікалі вялікую цікавасць на форумах. Пры гэтым шмат хто лічыць, што мясцовым чыноўнікам, якім загадалі «арганізаваць» з'яўленне снежнага чалавека, яшчэ пашанцавала. Губернатар-самадур мог прыдумаць тэму пра Лах-Нэскую пачвару, якая водзіцца ў тутэйшых азёрах, і прымусіць падначалёных ныраць і плаваць.

**Паводле расійскай прэсы**



Фота www.dw.com

# Назваць дыктатара дыктатарам

Алег НОВІКАЎ

**Еўрапейскі палітыкум нечакана адмовіўся ад звыклага лексікону, які звычайна выкарыстоўваецца ў дыялогу з аўтакратамі. Замест фармулёвак а-ля «выказваем глыбокую заклапочанасць» турэцкага прэзідэнта адкрыта ў лоб назвалі «дыктатарам».**

Аматары жартаў называюць гэтую гісторыю «сафагейт» або «вайна вакол крэсла». Гаворка пра крэсла, якое Рэджэп Таіп Эрдаган не паставіў для кіраўніцы Еўракамісіі Урсулы фон дэр Ляен. Яна ў тандэме з Шарлем Мішэлем, старшынёй Еўрасавета, наведала офіс турэцкага прэзідэнта. Паколькі крэсла для яе не было, Урсуле давялося прысесці ўбаку на сафе, пакуль Эрдаган са старшынёй Еўрапейскага савета ўладкоўваліся ў сваіх крэслах. На відэа інцыдэнту добра чуваць, як, будучы ў шоку, тая намагаецца неяк трымаць фасон і адкашліваецца.

Пазней Мішэль патлумачыў рассаджванне вузкай інтэрпрэтацыяй правілаў пратаколу турэцкім бокам, але падкрэсліў, што ён таксама лічыць сітуацыю вартай шкадавання. Аднак грамадскасць гэтыя апраўданні не задаволілі. Напрыклад, Der Tagesspiegel лічыць праявай слабасці тое, што Шарль Мішэль прыняў гэтую сітуацыю. «Ён павінен быў запярэчыць Эрдагану і сесці побач з фон дэр Ляен!» — лічыць выданне.

Дасталася і Ляен, якой бракавала смеласці сказаць мужчынам у той сітуацыі «не». «Калі нават Ляен (жанчына, якая мае самы высокі статус у Еўрасаюзе) ніяк не рэагуе на загад мужчыны-начальніка, чаго чакаць ад маленькай дзяўчынкі дзе-небудзь у Еўропе? Чаго мы можам чакаць ад жанчыны, якая прымае кансерватыўныя патрыярхальныя погляды, бо яна, на прыкладзе Урсулы, бачыць, што ў яе няма моцы змяніць іх? Чаго мы можам чакаць ад супрацоўніцы, якая цярпліва пераносіць няроўнасць на працоўным месцы?» — абураецца нейкая феміністка на сайце выдання Nea.

Некаторыя СМІ, ацэньваючы візіт еўрапейскіх лідараў да Султана (мянушка Рэджэпа Таіпа Эрдагана), нават выкарыстоўваюць такое слова, як «appeasement» («супакаенне») — так называлася палітычная лінія Лондана і Берліна на пошук кампрамісу з Гітлерам напярэдадні Другой сусветнай вайны).

Акцэнтуецца ўвага на тым, што еўрапейскія дыпламаты не толькі пагадзіліся са зневажальнай схемай рассаджвання, але таксама і не апратэставалі нядаўні выхад Турцыі з Хартыі правоў жанчын, спробы Эрдагана забараніць левую апазіцыйную курдскую Народную партыю. Не знайшлося ў Ляен і Мішэля часу даць ацэнку арышту групы адміралаў, якія раскрытыкавалі па тэхнічных і экалагічных аспектах праект Эрдагана па будаўніцтве канала паміж Чорным і Мармуровым морамі.

І тут нечакана рэнамэ Еўропы выратаваў італьянскі прэм'ер Марыё Драгі, які ўзяў і назваў Эрдагана «дыктатарам». Такога ад Драгі не чакалі. У тым ліку таму, што калісьці ён узначальваў Еўрапейскі цэнтральны банк у Франкфурце. Гэтая пасада навучыла яго ўзважваць кожнае слова.

У любым выпадку, слова было сказанае — і выклікала ў Анкары чаканую рэакцыю. Міністр замежных спраў Турцыі асудзіў «пазмерныя заявы» Марыё Драгі. Амбасадару Італіі выказаны пратэст. Турцыя таксама заявіла пра разрыў кантракту наконт купілі партыі італьянскіх верталётаў.

Значна цікавейшая, прынамсі, для беларускай аўдыторыі, рэакцыя ў Еўропе, дзе прапануюць адмовіцца ад палітыкі флірту з аўтакратамі. «Але кім яшчэ з'яўляецца Эрдаган, як не дыктатарам, які затыкае рот прэсе, пераследуе апазіцыю і робіць інтэрвенцыі ў замежныя краіны? Драгі заслугоўвае пахвалы за тое, што сказаў гэта выразна і ясна», — піша нямецкая Tageszeitung.

Дастаткова нечаканая заява італьянскага лідара знайшла падтрымку ў іншых лідараў Старога свету. Падтрымаў, аднак асцярожна, абіраючы словы, Эмануэль Макрон. Пазіцыю Драгі ўхваліў кіраўнік Еўрапейскай народнай партыі (ЕНП) — найбуйнейшай партыі ў Еўрапарламенце, Манфрэд Вэбер. «Прэм'ер-міністр Драгі мае рацыю, пад кіраўніцтвам прэзідэнта Эрдагана Турцыя за апошнія дзесяцігоддзе адышла ад вяршэнства закона, дэмакратыі і асноўных свабодаў», — сказаў Манфрэд Вэбер у заяве, накіраванай італьянскім СМІ. Па яго ж словах, «калі Еўропа хоча пабудаваць трывалае партнёрства з такімі краінамі, як Турцыя, — а гэта ў нашых стратэгічных інтарэсах, — мы павінны выразна і шчыра казаць пра рэальныя факты».

Трэба аддаць належнае рашучасці еўрапалітыкаў, якія ў некаторым сэнсе з'яўляюцца закладнікамі Анкары. На тэрыторыі Турцыі па дамоўленасці з ЕС размешчаныя лагеры для ўцекачоў з Блізкага Усходу. Калі Эрдаган вырашыць адкрыць межы, Еўропа атрымае грандыёзны міграцыйны крызіс.

У гэтым плане некаторыя СМІ сапраўды допускаюць, што вынікам «сафагейту» стане гістарычны выбар Еўропы на карысць таго, каб адмовіцца ад прынцыпу «ўзаемазалікаў» у дачыненні да аўтарытарных рэжымаў. Хаця ў некаторых ёсць сумневы наконт адданасці палітыкаў дэмакратычным каштоўнасцям. «Не бясконцыя пагрозы вайны і тэрытарыяльныя парушэнні з боку Турцыі ў дачыненні да іншых краін-чальцоў Еўрапейскага саюза выклікалі пратэст сярод нашых лідараў, а грэблівае стаўленне азіяцкага мужчыны да еўрапейскай жанчыны», — іранізуе адзін з французскіх інтэрнэт-каментатараў.

# Не дапусціць дыктатуры на Марсе

Алег НОВІКАЎ

**Наступная круглая (70-я) гадавіна палёту чалавека ў космас, магчыма, будзе адзначацца сінхронна паўстанню першай калоніі людзей на Марсе. Адной з рызыкаў для праекту, на думку некаторых навукоўцаў, з'яўляецца пагроза дыктатуры.**


Фота www.hi-news.ru

У галаве не ўкладаецца той факт, што роўна праз тры гады, увесну 2024-га, у напрамку Марса пачнуць стартаваць караблі з грузамі і робатамі. Яны павінны стварыць матэрыяльна-тэхнічную базу для прыёму будучых каланістаў, экіпажы якіх пачнуць адпраўляць на Чырвоную планету з 2026-га. Да 2030-га фарпост чалавецтва ў космасе павінен запрацаваць напоўніцу. Так выглядае амбіцыйны план Space X, які курыруюць Ілан Маск і NASA.

Пры гэтым трэба не забывацца, што гістарычна феномен каланізацыі ўтрымлівае значны палітычны складнік. Вельмі часта людзі адпраўляліся на іншы канец свету, каб стварыць альтэрнатыўнае, больш справядлівае грамадства. Калі ўзгадаць, што каля вытокаў ЗША стаялі радыкальныя пратэстанты-каланісты, можна казаць, што падобныя спробы часам не зусім утапічныя.

Пабудаваць новую мадэль грамадства плануюць і арганізатары будучай экспедыцыі на Марс. Прынамсі, Ілан Маск мяркуе, што палітычная сістэма марсіян будзе працаваць па прынцыпах прамой дэмакратыі: «Хутчэй за ўсё, форма кіравання на Марсе будзе прамой дэмакратыяй, а не прадстаўнічай. Я думаю, што гэта, напэўна, лепш, таму што патэнцыял карупцыі значна памяншаецца, калі ўсе людзі аўтаномна прымаюць рашэнне».

Тэма паўстання на Марсе нейкай новай палітычнай мадэлі ўжо цяпер выклікала цікавую дыскусію. Няма сумневу, што ізаляваная калонія ў далёкім космасе распрацуе свае прынцыпы кіравання, не падобныя да зямных. Аднак можна пачуць і трывожныя прагнозы. Прапануецца тэзіс, што дэфіцыт такіх важных рэсурсаў, як вада і паветра, ды разуменне, што калоніі пагражае іх вычарпанне з часам, прымусяць любы ўрад на Марсе дзейнічаць як ваенная дыктатура. Апошняя будзе легітымаваць гвалт за кошт кантролю над генератарамі кіслароду.

Чыннікамі паўстання дыктатур могуць быць таксама псіхалагічныя праблемы каланістаў. Нягледзячы на значны навуковы прагрэс, медыкі дасюль не ведаюць, як будзе паводзіць сябе чалавек падчас доўгатэрміновай місіі ўдалечыні ад Зямлі, ды яшчэ ў замкнёнай прасторы.

Пры гэтым вядомыя нам прыклады зямных дыктатур у параўнанні з марсіянскай могуць выглядаць мяккім і пухнатым лібералізмам. Не толькі таму, што марсіянскі дыктатар будзе чхаць на думку грамадскасці Зямлі, якая знаходзіцца ад Марса на адлегласці 225 мільёнаў кіламетраў. Пратэст патэнцыйна можа разбурыць знешні каркас паселішча і разгерметызаваць памяшканні, што знішчыць усіх. Гэтая акалічнасць дае марсіянскаму тырану алібі на самы жорсткі пераслед незадаволеных — прычым без усялякіх прававых працэдур.

Дарэчы, сцэнар трансфармацыі калоній у звычайныя дыктатуры — папулярны сюжэт у навуковай фантастыцы. Напрыклад, у рамане Роберта Хайнлайна «Месяц — суровы гаспадар» апісваецца калонія на Месяцы, якая з'яўляецца звычайнай турмой з прызначаным Зямлёй дэспатычным турэмным наглядчыкам.

**«Хутчэй за ўсё, форма кіравання на Марсе будзе прамой дэмакратыяй, а не прадстаўнічай. Я думаю, што гэта, напэўна, лепш, калі людзі аўтаномна прымаюць рашэнне»**

Перспектыва атрымаць дыктатуру ў космасе ўжо цяпер хвалюе некаторых навукоўцаў. Безумоўна, паўстанне такой тыраніі на доўгі час дыскрэдытуе, калі ўвогуле не пахавае, праекты экспансіі чалавечай расы ў космас. Такі сцэнар выглядае фатальным, паколькі будучыя касмічныя калоніі могуць стаць «рэзервовай копіяй чалавецтва», што павялічвае верагоднасць выжывання віду Homo Sapiens у выпадку глабальнай планетарнай катастрофы.

Як выратаваць Марс ад дыктатуры? Рэцэптаў хапае. Напрыклад, былы астранаўт NASA Рон Гаран прапануе адмовіцца ад марсіянскага праекту на карысць базы на Месяцы. Па яго словах, дастаткова недалёкая дыстанцыя ад Месяца да Зямлі дазволіць аператыўна дапамагаць каланістам, праводзіць сталы маніторынг сітуацыі ў калоніі, што ў комплексе забяспечыць поспех праекту.

А вось чальцы брытанскай арганізацыі British Interplanetary Society прапануюць ісці іншым шляхам. Яны ўжо правялі канферэнцыю наконт магчымай дыктатуры на Марсе і як ёй супрацьстаяць. Удзельнікі мерапрыемства прыйшлі да высновы, што для выжывання марсіянскай дэмакратыі патрэбныя адпаведныя прававыя хартыі, напісаныя на базе амерыканскіх Канстытуцыі і Біля аб правах. Тыя, хто паляціць на Марс, павінны разумець, што свабоднае выказванне думкі і дэмакратычныя прынцыпы з'яўляюцца найлепшым інструментам кіравання і забеспячэння міру ў калоніі.

Прадухіліць узнікненне дыктатуры прапануецца праз павышэнне ролі арганізаваных груп працоўных (нешта накшталт прафсаюзаў) альбо кантролю марсіянскіх СМІ журналістамі. Каб не дапусціць канцэнтрацыі ўлады, таксама прапануюць забараніць дзейнасць на Марсе буйных прыватных карпарацый. Яшчэ адным антыдотам супраць пагрозы марсіянскай дыктатуры можа быць спецыфічная структура паселішчаў. Кварталы, у якіх будуць жыць каланісты, павінны быць максімальна аўтаномнымі ад цэнтру ў сферы забеспячэння паветрам, вадой і энергіяй.

Як бачым, дэбаты наконт таго, як стварыць і забяспечыць на Марсе дэмакратычны лад жыцця, ідуць сур'ёзныя. Прычым настолькі, што некаторыя навукоўцы дапускаюць: марсіянская мадэль у выпадку паспяховага функцыянавання выкліча ў жыхароў Зямлі зайздрасць і нават думку імпартаваць яе на нашу планету. То-бок, можна спадзявацца, што ў космасе дыктатура дакладна не пройдзе!

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Аналена Баербок



Сустаршыня нямецкай Партыі Зялёныя, што мае шанец выйграць восеньскія выбары ў Бундэстаг, імаверна, узначаліць партыйны спіс. Са спасылкамі на свае крыніцы ўнутры Зялёных, нямецкая прэса піша, што партыйнае кіраўніцтва прыняло рашэнне — на наступныя выбары эколагаў павядзе менавіта Баербок. Гэта значыць, што ў выпадку, калі Зялёныя набяруць большасць галасоў, 40-гадовая Баербок узначаліць нямецкі ўрад.

Такога выключаць нельга з улікам таго, што кансерватары — галоўныя канкурэнты Зялёных, — праз карупцыйны скандал губляюць падтрымку. Зрэшты, у Баербок хапае слабых бакоў, якія могуць адмоўна паўплываць на рэйтынгі эколагаў. Галоўная хіба — адсутнасць вопыту адміністрацыйнай працы. Да таго, як стаць дэпутатам, Аналена вывучала паліталогію, працавала піяр-менеджарам, займалася выхаваннем двух дзяцей. Ці паўплывае гэты момант на кампанію, прадэманструюць сацыялагічныя апытанні.

У любым выпадку, думаецца, будзе цікава пазнаёміцца са знешнепалітычнымі поглядамі магчымай канцлеркі. Баербок заклікае да «больш моцнай агульнай еўрапейскай прыхільнасці ў абароннай палітыцы» і ўзмацнення «міратворчай ролі» ЕС у свеце. Яна таксама заклікае да вываду ўсёй ядзернай зброі ЗША з Еўропы і крытыкуе нямецкіх палітыкаў, якія падтрымліваюць далейшае будаўніцтва газаправода Nord Stream-2.

### Антон Фургал



Старэйшы сын былога губернатара Хабараўскага краю Сяргея Фургала плануе ўдзельнічаць у вераснёўскіх выбарах у Дзярждуму.

Нагадаем, Сяргей Фургал быў затрыманы 9 ліпеня 2020 года па падазрэнні ў арганізацыі заказных забойстваў і замаху на забойства. Арышт справакаваў у краі масавыя пратэсныя акцыі ў падтрымку арыштаванага губернатара, якія працягваліся да канца года. Аднак сам брэнд «Фургал» да гэтага часу захаваў прывабнасць, чым вырашыў скарыстацца Антон.

Антон Фургал пойдзе на выбары не ад Ліберал-дэмакратычнай партыі, чальцом якой з'яўляецца яго арыштаваны бацька. Відавочна, разлік робіцца на тое, што за сына экс-губернатара можа прагаласаваць пратэсны выбаршчык. Акрамя таго, сын экс-губернатара можа разлічваць на падтрымку выбаршчыкаў ЛДПР, якія «засталіся верныя Фургалу».

Праўда, ёсць адна праблема. Незразумела, ці зможа Антон зарэгістравацца ў якасці кандыдата ў дэпутаты. У рэгіёне дзейнічаюць невялікія партыі, якія могуць вылучаць кандыдатаў. Напэўна, гэтыя структуры не супраць зрабіць піяр на Фургале, аднак эксперты лічаць, што ўлады будуць рабіць усё, каб заблакаваць яго вылучэнне. Многія лічаць, што выхад Фургала-малодшага ў палітыку можа прывесці да актывізацыі вулічных пратэстаў.

### Мун Чжэ Ян



Прэзідэнт Паўднёвай Карэі даслаў у Міжнародны алімпійскі камітэт (МАК) заяўку на правядзенне ў 2032 годзе летняй Алімпіяды. Яна адметная тым, што ў ёй фігуруюць адразу два горада — не толькі паўднёвакарэйская сталіца Сеул, але і паўночнакарэйскі Пхеньян. Па сцвярджэнні ўрада Паўднёвай Карэі, супрацоўніцтва дзвюх краін у рамках падрыхтоўкі Гульняў можа стаць «пераломным момантам» у іх адносінах і прывесці да ўсталявання міру на Карэйскім паўвостраве.

Раней краіны ўжо аб'ядноўваліся дзеля спартыўных падзей. У 2018 годзе на зімовай Алімпіядзе ў Пхёнчхане КНДР і Паўднёвая Карэя выставілі аб'яднаную каманду ў жаночым хакейным турніры. Тады ж дзве дэлегацыі прайшлі пад агульным сцягам на цырымоніях адкрыцця і закрыцця.

Самае цікавае, што спартыўная ініцыятыва Сеула і Пхеньяна агучаная на фоне новага абвастрэння вакол Паўночнай Карэі, якая зноў пачала выпрабаванні свайго ракетнага арсеналу. Застаецца дадаць, што шанцаў у барацьбе за права прыняць Гульні ў Паўднёвай і Паўночнай Карэі, на жаль, не так шмат. Справа ў тым, што ў канцы лютага МАК прызнаў «прыярытэтным» кандыдатам аўстралійскі Брысбен — гэта значыць, фактычна ўжо назваў лідара ў гонцы за права прыняць Алімпіяду.

# Хто зладзіў у Гомелі крывавы

Юрый ГЛУШАКОЎ

**У 1920-х гадах у Гомелі быў сквер імя 25 сакавіка. Але названы ён быў не гонар БНР, а ў памяць аб ахвярах стракапытаўскага мецяжу ў сакавіку 1919 года. Пра тое, хто стаяў за яго арганізацыяй, гісторыкі спрачаюцца дагэтуль. Паспрабуем зазірнуць у гэтую цёмную старонку нашага мінулага.**



## Таемная змова ці бязлітасны бунт?

У «нулявых» вырашыць загадку бунту паспрабаваў дырэктар Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобласці Анатоль Карасёў. Ім была сабраная вялікая колькасць дакументаў і матэрыялаў у розных архівах Беларусі і Расіі. Анатоль Карасёў казаў, што ў яго ёсць версіі, якія проста ўзарвуць усе ранейшыя ўяўленні пра ўзнікненне мецяжу. Але здарылася трагедыя. Дырэктар архіва падпрацоўваў яшчэ і вартаўніком у сваёй жа ўстанове. Увесну 2004-га ў час дзяжурства ён аказаўся ў бальніцы з цяжкай траўмай галавы, а яшчэ праз некалькі дзён памёр. Што адбылося ў тую ноч — невядома. Але расследаванне, якое Анатоль Карасёў вёў амаль як дэтэктыў, было перапыненае.

Па сваім сімвалічным значэнні трагічныя падзеі мецяжу займалі ў савецкім пантэоне Гомеля другое месца — пасля Вялікай Айчыннай вайны. Імёнамі забітых стракапытаўцаў Мікалая Білецкага, Івана Ланге, Зоі Песінай, Сяргея Бочкіна і Барыса Аўэрбаха ў Гомелі былі названыя вуліцы, у самым цэнтры горада камунарам быў усталяваны помнік. Але, па зразумелых прычынах, на персаналіі кіраўнікоў паўстання савецкая гістарыяграфія звяртала мала ўвагі: дастаткова было яго адназначнай ацэнкі як «контррэвалюцыйнага». Напрыклад, склад таямнічага «Палескага паўстанцкага камітэта» мяцежнікаў невядомы дагэтуль.

Дык што гэта было на самай справе? Старанна спланаваная змова контррэвалюцыйнага падполля? Бессэнсоўны бунт дэзерціраў, які суправаджаўся габрэйскімі пагромамі і рабаваннямі? Або паўстанне чыстых «белых герояў» супраць бальшавіцкай тыраніі? Уяўляецца, што і першае, і другое, і трэцяе. Праўда, з «героямі» ў гэтай справе зусім нягуста — як пачалі стракапытаўцы з уцёкаў з поля бою, так далей і працягвалі. А вось з пагромам і змовай — паспрабуем разабрацца.

Агульны ход падзей мы ўжо апісвалі. Пра гэта пісаў «Новы Час» у красавіку 2019 года. Цяпер дамо слова аднаму з паўстанцаў — ротмістру дэ Маньяну. Яго біяграфія — тыповая для таго часу.

## Вясёлыя карнеты

Шлях гэтага нашчадка французскіх арыстакратаў у Гомель быў няблізкі. Сяргей дэ Маньян скончыў ліцэй цэсарэвіча Мікалая і ўніверсітэцкі курс пры ім. Але затым рэзка змяніў планы і вырашыў стаць вайскоўцам. Скончыў курсы пры Цвярскім кавалерыйскім вучылішчы і ў 1910 годзе паступіў у Першы Сумскі гусарскі полк. Годам раней за яго ў полк прыбыў карнет князь Абаленскі, які ў песні «Паручнік Галіцын» «налівае віно». Сумскія гусары стаялі ў Маскве і былі элітным падраздзяленнем расійскай імператарскай арміі.

Што тычыцца віна і іншага спіртнога, то яно сапраўды лілося ракой. Уладзімір Літаўэр, які паступіў у полк у 1913 годзе, у сваіх мемуарах апісвае, што працоўны дзень афіцэраў пачынаўся са сняданку з віном. У абед у афіцэрскім сходзе пілі ўжо і гарэлку, і каньяк. Як пры гэтым спадары афіцэры прымудраліся несці службу, ды яшчэ ў конным страі — дзіва дзівоснае. Увечары ж гусарскія афіцэры «адрываліся» яшчэ больш, іншым разам — цалкам у духу анекдотаў пра паручніка Ржэўскага. Нават у афіцыйнай гісторыі Сумскага гусарскага палка, выдадзенай у Аргенціне ў 1954 годзе, захаваныя ўспаміны пра гулянкі афіцэраў з цыганкамі, «вясёлай Дзінь-Дзінь» або «шчадралюбнай Надзяй». Падчас вечарынак, проста на афіцэрскіх кватэрах, маглі страляць з рэвальвераў або «паспытаць з вінтоўкі новую кулю».

Пасля падаўлення рэвалюцыі 1905 года, калі функцыі тагачаснага «АМАПу» выконвала пераважна кавалерыя і іншыя войскі, афіцэры часцяком сталі прадметам асуджэння грамадства. У адказ бравыя вайскоўцы без роздуму пускалі ў ход зброю супраць «цывільных штафірак», хто пагарджаў імі. Карнет запасу Сумскага палка ў рэстаране «Мядзведзь» застрэліў цывільнага чалавека, які не ўстаў пад «Божа, цара захоўвай», іншы карнет у рэстаране «Перамога» збіў стэкам чыноўніка...

Служыць у кавалерыі і весці адпаведны лад жыцця мог толькі выхадзец з заможнай сям'і, які меў даход ад маёнтка. Страта даходаў азначала аўтаматычнае пакіданне палка. Многія афіцэры вымушаны былі так паступіць, напрыклад, пасля жаніцьбы.

Па нейкіх прычынах дэ Маньян таксама неўзабаве пакінуў ваенную службу. Ва ўсялякім разе, у 1914 годзе ён быў прызваны ў 4-ы запасны кавалерыйскі полк ужо з адстаўкі. У 1915 годзе штаб-ротмістр дэ Маньян у складзе маршавага эскадрону 17 Наваміргарадскага ўланскага палка паехаў на Паўднёва-Заходні фронт. Ваяваў у Галіцыі і Карпатах, відавочна — адважна, пасля ранення вярнуўся ў шэрагі.

## Падпольныя гусары

Пасля рэвалюцыі, з распадам старой арміі дэ Маньян зноў апынуўся ў Маскве. Тут ужо былі і многія яго калегі па Сумскім гусарскім палку. Паводле ўспамінаў ротмістра, савецкая ўлада, заціснутая паміж белымі войскамі, інтэрвентамі і сялянскімі паўстаннямі ў тыле, вісела на валаску. І гэта надавала яе супернікам немалыя надзеі. У Маскве як грыбы раслі падпольныя афіцэрскія арганізацыі.

У іх уступілі амаль усе афіцэры-сумцы. Адны афіцэры пайшлі ў манархічнае падполле генерала Доўгерта (Доўгірда), арыентаванае на Германію («патрыётаў» не бянтэжыла, што немцы працягвалі вайну і акупацыю). Іншыя — у «Саюз абароны радзімы і свабоды» (СЗРиС) Барыса Савінкава, звязаны з саюзнікамі царскай Расіі, што працягвалі вайну з Германіяй.

У гісторыі палка напісана, што амаль усе сумцы належалі да манархічнай арганізацыі Доўгерта. Але гэта не так. Проста кансерватыўныя эмігранты не хацелі прызнаваць сваё супрацоўніцтва з Барысам Савінкавым — былым кіраўніком баявой арганізацыі партыі эсэраў, якія палявалі раней на царскіх міністраў і самога Мікалая II. На самай справе, «кавалерыйскім цэнтрам» у савінкаўскай арганізацыі кіраваў прапаршчык Сумскага палка Віленкін. І нават лётчыкамі ў «Саюзе абароны радзімы і свабоды» загадваў сумскі гусар падпалкоўнік Говараў. Па сумяшчальніцтве Говараў камандаваў і 8-м конным палком Чырвонай Арміі, у які і быў прызначаны камандзірам эскадрону дэ Маньян.

Арганізацыі Доўгерта і Савінкава варагавалі паміж сабой. Але гусарам-сумцам з абедзвюх структур гэта не перашкаджала разам весела бавіць час. «Сустракаліся мы ледзь не штодня і ў Лапухіна, і ў Говарава, і ў Віленкіна, або па шашлычных, як толькі пранюхвалі, дзе ёсць гарэлка», — успамінаў штаб-ротмістр Сакалоў, які камандаваў у пранямецкіх манархістаў баявой групоўкай. Натуральна, пры такім ладзе жыцця і пагардзе да канспірацыі многія афіцэры-змоўшчыкі сталі лёгкай здабычай ВЧК. І летам 1918 года белагвардзейскае падполле давялося згортваць, а яго ўдзельнікам — прабірацца да Калчака, Дзянікіна і Юдзеніча.

Дэ Маньян заставаўся ў чырвонай конніцы, але таксама марыў як хутчэй уцячы ад бальшавікоў. І неўзабаве такі выпадак прадставіўся. У Гомелі.

## Спадары камандзіры

У студзені 1919 года эскадрон дэ Маньяна быў уключаны ў склад 21-га коннага дывізіёна 2-й брыгады 8-й пяхотнай дывізіі і перакінуты ў Гомель. Яшчэ гэтая брыгада называлася «Тульскай», бо фарміравалася з ураджэнцаў адпаведнай губерні. Гомель уразіў згаладалых расіян сваім багаццем. «У гомельскіх кавярнях падавалі шакалад, а ў кандытарскіх прапаноўвалі цукеркі і пірожныя: з'ява, якая зусім не мела месца ў сталіцах», — успамінае дэ Маньян. Даведаўшыся пра гомельскія пірожныя, частка чырвоных коннікаў, якія дэзерціравалі перад адпраўкай з Масквы, нават добраахвотна з'явілася ў строй!

Эскадрон быў размешчаны на прыватных кватэрах і заняў амаль квартал. Пераважна гэта былі габрэйскія дамы, гаспадары якіх амаль беспярэчна выконвалі ўсе патрабаванні чырвоных кавалерыстаў.

І ў Маскве, і ў Гомелі дэ Маньян сабатаваў свае камандзірскія абавязкі. Ён успамінаў: «Ніякіх заняткаў у эскадронах, вядома, не вялося. Нарады былі зведзены да мінімуму, людзі ў эскадронах бавілі вольны час у залежнасці ад густаў і звычак. Аматары жанчын танцавалі ў грамадскім сходзе, прыхільнікі мастацтва наведвалі кінематографы, больш жыццёвыя і практычныя элементы пусціліся ў спекуляцыю, а какаіністы і алкаголікі аддаваліся сваім звычкам у хатняй абстаноўцы». Адным словам, воінскія падраздзяленні хутка і няўхільна раскладаліся.

З неахвотай у дывізіёне ўспрынялі вестку пра адпраўку на фронт. Але выехаць на пазіцыі дэ Маньяну і яго падначаленым так і не давялося. 23 сакавіка, калі яны рушылі на вакзал, убачылі, што той заняты часткамі 2-й брыгады, якія самавольна кінулі пазіцыі. «Ваенная ўлада перайшла ў нечыя іншыя рукі», — успамінае дэ Маньян. «У горадзе з гадзіны на гадзіну рос трывожны настрой. Габрэйскія крамы спешна зачыніліся, рух на вуліцы спыняўся. Да вечара на вуліцах з'явіліся патрулі габрэйскай самаабароны. Горад літаральна вымер, цішыня навокал была поўная».

Як высветлілася, у раёне Оўручу часткі Тульскай брыгады трапілі пад абстрэл пятлюраўскай артылерыі і адмовіліся працягваць наступ. Замітынгавалі, крычалі, што не хочуць «ваяваць за жыдоў». У Калінкавічах паспрабавалі зладзіць пагром, але адна з ротаў, якая ўсё яшчэ захоўвала воінскі парадак, спыніла яго. Вырашана было вяртацца дадому. Камісар брыгады Фёдар Сундукоў быў забіты.

Гомель замер ад трывогі. І ў гэты раз падзеі не прымусілі сябе чакаць.

«Спадар камандзір! Спадар камандзір! Уставайце, па ўсім горадзе жыдоў грамяць, у нашу кватэру і тое ламіліся...» — дэ Маньян пражываў у кватэры лесапрамыслоўца Л. (магчыма, Лаўнава? — Ю.Г.) «Данілаў, — паклікаў я веставога. — Хто ж граміць?» «Ды пачала пяхота, спадар камандзір, а цяпер і нашы склаўшы рукі не сядзяць». Зрэшты, тут жа камандзір дывізіёна паведаміў, што гэта — паўстанне, і прапанаваў да яго далучыцца. На мітынгу дывізіёна, які адбыўся тут жа, былыя чырвонаармейцы звярнуліся да былых, а цяпер ужо дзеючых афіцэраў з просьбай пра кіраўніцтва выступам. «Маскі былі знятыя: яшчэ дзень таму ўсе мы, безумоўна, мала давяралі адзін аднаму, цяпер зусім нармальна абмяркоўвалі цяперашнее становішча і магчымасць сумеснай барацьбы з агульным ворагам», — піша дэ Маньян.

У Гомелі была абвешчана «Руская Народная Рэспубліка». На чале яе стаў ананімны «Палескі паўстанцкі камітэт», які ці то раней рыхтаваў паўстанне ў Гомелі, ці то быў абраны падчас яго. Камітэт прызначыў камандуючым «1-й арміяй РНР» штабс-капітана Уладзіміра Стракапытава з купецкай Тульскай сям'і, індэнданта палка, раней — чальца меншавіцкай партыі РСДРП. Дзе павінны былі з'явіцца 2-я, 3-я і іншыя арміі РНР — гісторыя замоўчвае. Але штаб мяцежнікаў вырашыў рухаць войскі ў напрамку на Бранск — Маскву. Камендантам Гомеля стаў камандзір эскадрону падпалкоўнік Стэпін.

Так стыхійна распачаты выступ чырвонаармейцаў, якія не жадалі ваяваць, з дапамогай былых афіцэраў і аскепкаў іх падпольных арганізацый быў пераўтвораны ў паўнавартаснае контррэвалюцыйнае паўстанне.

## Артабстрэл у імя міру

Астатнія савецкія сілы спрабавалі ўтрымаць цэнтр горада, стварыўшы апорныя вузлы абароны ў гасцініцы «Савой», тэлефонна-тэлеграфнай станцыі і ў ЧК. Ужо ў ноч на 25 сакавіка

# «стракапытаўскі мяцеж»?

па «Савоі» пачалі біць гарматы мяцежнікаў з раёна Палескага вакзала. Днём пачаўся штурм. Пасля новага артабстрэлу абаронцы «Савоя» вымушаныя былі здацца пад "сумленнае слова", што будуць адпушчаныя па дамах. Замест гэтага амаль усе кітайцы з інтэрнацыянальнага атрада ЧК былі перабітыя на месцы, а астатніх павялі ў турму па Румянцаўскай, збіваючы па шляху кулакамі і прыкладамі.

Частка паўстанцаў штурмавала «Савой» і ЧК, а іншыя — габрэйскія дамы і крамы. Да іх далучыліся выпушчаныя з турмы крымінальнікі і старыя чарнасоценцы. Дэ Маньян піша: "У ноч на 25-га пагром не прымаў яшчэ шырокіх памераў... але да раніцы 25-га, калі высветлілася, што бальшавіцкія сілы амаль ліквідаваныя, што змагацца амаль няма з кім, салдаты, што вызваліліся ад бою, адправіліся наведваць габрэйскія кватэры, спачатку пад выглядамператрусаў, а затым ужо адкрыта, караючы за спачуванне бальшавікам". Маньян паведамляе, што забойстваў пры гэтым было мала, затое амаль кожны стракапытавец прыклаў руку да рабаванняў. Тыя ж, хто не ўдзельнічаў у пагроме, проста патрабавалі ад сваіх гаспадароў "плату за ахову".

Толькі калі ў горад хлынулі і сяляне з навакольных вёсак з вазамі для нарабавання, штаб паўстанцаў стаў прымаць меры па ліквідацыі беспарадкаў. У цэлым жа ротмістр абвінавачвае кіраўнікоў паўстання ў пасіўнасці і інертнасці. Былі створаныя шматлікія камісіі і камітэты, якія выпусцілі каля 15 заклікаў да гамельчукоў. Быў кінуты лозунг: "Уся ўлада — Устаноўчаму сходу!" Выпушчаныя з турмы матросы патрабавалі «Саветаў без камуністаў». Палескі паўстанцкі камітэт падлашчваўся да рабочых, абяцаючы ім «жалезныя законы аховы працы», і называючы «таварышамі» (сярод саміх афіцэраў гэты зварот быў, хутчэй, здзеклівым). Адначасова была аднаўленая свабода гандлю. Некаторыя ж заявы былі адкрытай хлуснёй. Напрыклад, Стракапытаў у звароце да сялян сцвярджаў, што Расія ўжо абвешчаная Народнай Рэспублікай, «Мінск акружаны», «мы скончылі вайну і заключылі мір», і гэтак далей.

Як піша дэ Маньян, у пэўных пытаннях паўстанцы ішлі насустрач насельніцтву вельмі далёка. Адзін гамяльчук з'явіўся ў штаб з просьбай дазволіць яму пахавальнае шэсце з нагоды смерці сваяка. Штабны пісар выдаў дазвол на пахаванне, сапраўднае на працягу года — і для ўсіх сваякоў просьбіта.

Частка гомельскіх чыноўнікаў і жыхароў гарадскіх ускраін спачувала мяцежнікам. Безумоўна, дзейнасць ЧК, перабоі з прадуктамі, падзенне заробкаў і выкліканая вайной разруха раздражнялі вельмі многіх. Адбіваліся і антысеміцкія настроі. Але ўступаць у войска Стракапытава ніхто з гамельчукоў не стаў. Толькі ў Рэчыцы спартыўнае таварыства «Сокал» прыняло ўдзел у перавароце і захопе ўлады.

Толькі 27 сакавіка штаб паўстанцаў скончыў з заклікамі і знайшоў час выслаць разведку ў бок праціўніка. Першыя нешматлікія савецкія часткі, кінутыя да Гомеля, былі без праблем адбітыя паўстанцамі, што надало ім упэўненасці ва ўласных сілах. Але паступова з поўдня да Гомеля сталі падыходзіць буйныя сілы Чырвонай Арміі і сялянскія добраахвотніцкія атрады. А 28 сакавіка адбыўся эпізод, які фактычна змяніў ход падзей.

Адна з падышоўшых батарэй, спачуваючы паўстанцам, не стала абстрэльваць Палескі вакзал. І тады станцыю, дзе сядзеў штаб мяцежнікаў, атакаваў невялікі атрад чырвоных курсантаў. Гэта быў узвод магілёўскіх пяхотных курсаў, якія высунуліся на разведку праз вёску Прудок. 18 байцоў прынялі бой з 200 стракапытаўцамі і, страціўшы двух чалавек, чые знявечаныя целы былі знойдзеныя на наступны дзень, адышлі. Але, абстраляўшы з вінтовак штаб мяцежнікаў, магілёўскія курсанты, самі не таго ведаючы, вырашылі лёс Гомеля. «Цяжка сабе ўявіць, — піша Сяргей дэ Маньян, — якая пачалася паніка. Усе дзеячы штаба, палкавыя пісары, каптэнармусы, фуражыры, ob altera літаральна растварыліся ў паветры. Людзі страцілі чалавечае аблічча і імкнуліся толькі схавацца магчыма далей ад няшчаснай станцыі».

Пасля гэтага ўсе камандзіры былі выкліканыя ў штаб, дзе па «неспакойнай постаці» камандуючага «1-й арміяй РНР» Стракапытава і «перакошаным твары» начальніка штаба ротмістр зразумеў — Гомель будзе пакінуты.

У ноч на 29 сакавіка мяцежнікі, пакідаючы Гомель, забілі загадзя прывезеную на станцыю групу з чатырнаццаці савецкіх дзеячаў. Жыхары, якія жылі побач, чулі нечалавечыя крыкі, расправа была страшнай: выкалатыя штыкамі вочы, раскроеныя чэрапы. Па сведчанні відавочцаў, сцэны хлява на станцыі «Гомель-гаспадарчы» былі запырсканыя крывёю і мазгамі. Мозг Аўэрбаха ляжаў на падлозе, з Песі Каганскай нажыва знялі скальп, наматаўшы яе доўгія валасы на палена.

Многія з пакараных былі прадстаўнікамі гомельскай інтэлігенцыі, якія пайшлі на савецкую службу пасля рэвалюцыі. Каганская лічылася адной з першых прыгажунь Гомеля. Старшыня Гомельскага Саюза журналістаў Мікалай Білецкі належаў да старадаўняга беларускага шляхецкага роду Язерскіх.

### Уцёкі

Двое сутак паўстанцкія эшалоны прабіваліся ад Гомеля да Калінкавічаў. Перыядычна пры гуках стральбы і крыках «кітайцы ідуць!» салдаты ў паніцы пакідалі вагоны. На падыходзе да Прыпяці Чырвоная Армія блакавала мяцежнікаў з двух бакоў.

31 сакавіка пад Калінкавічамі адбылася нарада афіцэраў. Па сведчанні дэ Маньяна, нягледзячы на асобныя пярэчанні, Стракапытаў вырашыў адмовіцца ад штурму Калінкавічаў, кінуць эшалоны з артылерыяй і захопленай у Гомелі маёмасцю, і пешшу прабівацца на злучэнне з часткамі Украінскай Народнай Рэспублікі. 1 красавіка паўстанцы на лодках фарсіравалі Прыпяць ля Барбарава і выйшлі на тэрыторыю, занятую арміяй УНР.

«Пакідаючы Гомель, пакідалі Расію», — наракаў дэ Маньян.

Штаб Стракапытава размясціўся ў Роўна, а яго пяхоту ўключылі ва ўкраінскае войска, папярэдне раскідаўшы па розных злучэннях. Відавочна, украінцы не давяралі «1-й арміі РНР». І нездарма: неўзабаве камандуючы Паўночнай групай войскаў атаман Аскілка, пры падтрымцы былых царскіх афіцэраў і кансерватыўных партый, узняў мяцеж супраць галаўнога атамана УНР, сацыял-дэмакрата Сымона Пятлюры. Верныя атаману курані задушылі мяцежнікаў, быў раззброены таксама і адзін стракапытаўскі полк. Пайшлі чуткі пра рэпрэсіі. У гэты ж перыяд стракапытаўцы самі расстрэльвалі матросаў-анархістаў, якія далучыліся да іх, бо абвінавацілі тых іх у рабаваннях і наркаманіі. Затым камандаванне «Руска-Тульскага атрада» ўсталявала кантакты з французскай выведкай, якая раіла ім «прыглядзецца» да палякаў.

Неўзабаве супраць УНР пачалі наступ польскія войскі. І стракапытаўцы дзейнічалі паводле ўжо апрабіраванага сцэнара: пакінулі сваіх украінскіх саюзнікаў і перайшлі на бок палякаў. Праўда, з імі тут абышліся без асаблівай ласкі: прафесійных мяцежнікаў адправілі ў канцлагеры ў Брэст-Літоўску і Стшалкава. Па іроніі гісторыі, у Стшалкава побач з імі сядзелі палонныя гамяльчане, у тым ліку ўдзельнік абароны «Савоя» і Усебеларускага з'езда ў снежні 1917 года ў Мінску, былы левы эсэр Васіль Селіванаў. Праўда, у адрозненне ад «бальшавікоў», стракапытаўцаў не збілі.

Улетку 1919 года з польскага палону былых паўстанцаў вызваліў князь Лівен, які разлічваў папоўніць імі свой атрад. Але неўзабаве адмовіўся ад гэтай ідэі. «Руска-тульскім» кавалерыстам, якія прыбылі ў Мітаву, прызначылі новае начальства замест падпалкоўніка Сцёпіна.











У адказ былыя паўстанцы, што спазналі дух вольніцы, адмовіліся падпарадкавацца. У сваю чаргу, князь Лівен адмовіўся ад стракапытаўцаў, баючыся, што яны раскладуць лівенцаў.

«Руска-Тульскі» атрад аказаўся ў адчайным становішчы. Стракапытаўцы ўжо фактычна ператварыліся ў наймітаў, якія ваююць за забеспячэнне. А пасля польскага інтэрнавання некаторыя з іх, нягледзячы на ліпеньскую спякоту, хадзілі ў наглуха зашпіленых шынялях — нават штаны давялося памяняць на хлеб. І тут зноў з'явіліся вярбоўшчыкі — цяпер немцы запрасілі ўступіць безгаспадарную частку ў атрад Бермандта-Авалава, які прытрымліваўся пранямецкай арыентацыі.

Стракапытаўцы пераадзеліся ў нямецкія мундзіры колеру фельдграў, на якіх так дзіўна глядзяцца залатыя пагоны і крыжы.

Такія рэаліі грамадзянскай вайны: людзі ішлі забіваць і паміраць усяго толькі за боты і хлебны паёк. Але дэ Маньян быў у сумневах: «Урэшце, было цяжка разабрацца, якой справе мы збіраліся служыць... Ці былі мы белай арміяй у сапраўдным значэнні гэтага слова?» У гэты час камандуючы Паўночна-Заходняй арміяй генерал Юдзеніч пры падтрымцы англічан пачаў наступ на Петраград. Але армія Бермандта замест бальшавікоў нанесла ўдар па сталіцы саюзнай Латвіі Рызе. Бермандтаўцы не прызналі незалежнасці Латвіі і называлі яе часткай Расіі. Але былі разбітыя і выкінутыя ў Германію, дзе праз некаторы час Бермандт-Авалаў стварыў «Расійскі нацыянал-сацыялістычны рух». У выніку гэта прывяло да паразы белых у Прыбалтыцы.

Англічане морам вывезлі стракапытаўцаў да Юдзеніча. Яны яшчэ паваявалі пад яго сцягамі, пакуль не былі ў чарговы раз інтэрнаваныя ў Эстоніі. Пасля вызвалення яны разам з былым камандуючым адправіліся на лесанарыхтоўкі. Сяргей дэ Маньян даслужыўся да падпалкоўніка ў 3-й рускай арміі, якая ваявала на баку Пілсудскага. Свае досыць праўдзівыя ўспаміны аб паўстанні ў Гомелі ён апублікаваў у газеце Барыса Савінкава «За свабоду» ў 1924 годзе.

Стракапытаўскі мяцеж быў тыповай авантурай часоў Грамадзянскай вайны. Але сёння з новай сілай успыхнулі спрэчкі, хто меў рацыю або вінаваты ў тых падзеях стогадовай даўніны. Нехта ўжо спрабуе ставіць пытанне аб рэабілітацыі «герояў» «Рускай народнай рэспублікі». Аднак агульнай высновай для ўсіх можа быць адно: для Беларусі і беларускага народа, для жыхароў Гомеля гэтая чарговая ўспышка грамадзянскай вайны не прынесла нічога, акрамя гора, пакут і смерці.

*P.S. На месцы гасцініцы «Савой» у Гомелі — будынак «Старога ўнівермагу». На месцы тэлефонна-тэлеграфнай станцыі — грамадска-культурны цэнтр. А на месцы былога будынку ЧК цяпер — музей гісторыі горада.*

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Магчыма, хтосьці з нашых чытачоў захоча павіншаваць палітвязня паштоўкай ці тэлеграмай або аправіць яму грашовы перавод да свята. Магчыма, хтосьці вырашыць даслаць у рэдакцыю віншаванне, каб мы яго надрукавалі. У гэтым нумары працягваем расказваць пра вязняў, дні народзінаў якіх прыпадаюць на красавік.**

## 17 красавіка

Старшыні Партыі БНФ **Рыгору Андрэевічу Кастусёву** споўніцца 64 гады. Рыгора Кастусёва затрымалі ў Шклове



супрацоўнікі КДБ, пазней стала вядома, што ён падазраваны па артыкуле 342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо ўдзел у іх).

Адрас для лістоў: Галоўпаштамт, а\с 8, Мінск 220050.

Свой 24-ты дзень народзінаў сустрэне за кратамі **Павел Уладзіміравіч Ларчык.** Хлопца затрымалі 1 сакавіка 2021 года ў Гомелі па арт. 364 КК РБ (гвалт у дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі). Пацярпелы — амапавец, якога нібыта штурхнулі падчас пратэснага маршу 20 верасня 2020 года. Першапачаткова гвалт на яго адрас інкрымінавалі гамельчуку Аляксею Губічу, але з прад'яўленых відэа стала відавочна, што хлопец не мае да гэтага дачынення.

Адрас для лістоў: СІЗА-3, Гомель, вул. Кніжная, 1А, 246003.

## 19 красавіка

Актывіст і праваабаронца з Магілёва **Уладзімір (Валадар) Іванавіч Цурпанаў** сустрэне сваё 59-годдзе. У верасні 2020 года Цурпанаў дазволіў сабе неадназначнае выказванне на адрас суддзі суда Ленінскага раёна Вікторыі Паляковай, а 14 кастрычніка ў падобных умовах — на адрас суддзі Кастрычніцкага раёна Вольгі Краўчанка. За гэта ў дачыненні да актывіста завялі дзве крымінальныя справы па артыкуле 391 Крымінальнага кодэксу (абраза суддзі). Валадара Цурпанава пакаралі 3 гадамі абмежавання волі з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу («хімія»).

Напачатку лютага актывіста накіравалі адбываць «хімію» ў папраўчую ўстанову №46 у Круглым. Аднак 16 сакавіка стала вядома, што Валадара Цурпанава змясцілі ў СІЗА турмы №4. Яму ставяць у віну арт. 415 КК — «Ухіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі». Сам ён на сваёй



старонцы ў Facebook сцвярджаў, што справа заведзеная ў дачыненні да яго за тое, што ён зграджаўся працаваць толькі пры выкананні яго працоўных правоў пры адбыцці «хіміі» — патрабаваў заробак, які адпавядае мінімальнаму памеру, гарантаванаму дзяржавай. Па гэтым артыкуле актывісту пагражае да 3 гадоў пазбаўлення волі.

Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

## 20 красавіка

Мінчуку **Аляксею Юр'евічу Драбу** споўніцца 35 гадоў. Мужчына асуджаны на пяць гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму паводле арт. 364 Крымінальнага кодэксу



(гвалт у дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі). 11 кастрычніка 2020 года падчас разгону «Маршу гонару» каля станцыі метро «Пушкінская» ён і яшчэ трое абвінавачаных, як вынікае з матэрыялаў следства, перашкодзілі амапаўцам затрымаць чалавека, уступілі з імі ў бойку, нанеслі некалькі ўдараў па галовах і разбілі шкло ў службовым аўтамабілі. Аляксей Драб сваю віну прызнаў часткова. Быў затрымалі 20 кастрычніка. Яму пагражалі, прымушалі даць паказанні на відэа. У СІЗА пасля допытаў паступіў з гіпсам.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 21 красавіка

21-шы дзень народзінаў сустрэне ў жодзінскай турме **Глеб Дзмітрыевіч Гатоўка.** Хлопца асудзілі 31 снежня да чатырох гадоў калоніі за падзеі 14 ліпеня адразу па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса: паводле ч. 1 арт. 342 (арганіза-



цыя групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак), арт. 364 (гвалт альбо пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў), ч. 2 арт. 363 (супраціў супрацоўніку АМАПу), арт. 435 (ухіленне ад мерапрыемстваў па прызыву на вайсковую службу). Глеба абвінавацілі ў тым, што ён удзельнічаў у стыхійнай акцыі пасля рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты, дзе штурхнуў нагой у бок супрацоўніка мінскага АМАПа Аляксея Місючэнку і аказаў непадпарадкаванне старшаму лейтэнанту АМАПа Дзмітрыю Чэрніку, а таксама ў тым, што з-за боязі захварэць на COVID-19 у казарме ўхіліўся ад мерапрыемстваў па прызыву на вайсковую службу.

Адрас для лістоў: Следчая турма №8. 222163, Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

## 24 красавіка

Сябра прэзідыума Каардынацыйнай рады, кіраўніца штаба Віктара Бабарыкі **Марыя Аляксандраўна Калеснікава** сустрэне свой 39-ты дзень народзінаў.



Марыя была выкрадзеная 7 верасня ў Мінску і разам з яшчэ двума сябрамі Каардынацыйнай рады — Антонам Радняньковым і Іванам Краўцовым — гвалтоўна прывезеная на беларуска-украінскую мяжу для выдварэння з краіны. Аднак, парваўшы свой пашпарт на памежным пераходзе і выскачыўшы з аўтамабіля, Марыя Калеснікава перашкодзіла рэалізацыі спецаперацыі сілавікоў. 9 верасня стала вядома, што яна падазраваная ў крымінальным злачынстве па ч. 3 арт. 361 Крымінальнага кодэкса (заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь). 21 снежня Следчы камітэт распачаў крымінальную справу аб змове з мэтай захопу ўлады неканстытуцыйным шляхам (частка 1 артыкула 357 КК) супраць чальцоў Каардынацыйнай рады. Таксама Марыя Калеснікава стала фігуранткай крымінальнай справы аб стварэнні экстрэмісцкага фарміравання (артыкул 361-1 КК).

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 25 красавіка

Дзень народзінаў за кратамі сустрэне **Ірына Злобіна.** Яна скончыла факультэт філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Апошнія гады займалася сваім невялікім бізнесам — кветкамі і вырабам сувеніраў.



Ірына была затрыманая 12 студзеня супрацоўнікамі МУС. Разам з ёй затрыманы яе хлопец, медыяменеджар Андрэй Аляксандраў, з якім яна разам жыве.

15 студзеня ў афіцыйным паведамленні намеснік міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Генадзь Казакевіч заявіў, што Аляксандраў і Злобіна былі затрыманыя «па падазрэнні ў фінансаванні пратэснай дзейнасці». Па яго словах, Аляксандраў і Злобіна са жніўня 2020 года займаліся фінансаваннем асобаў, якія прымалі ўдзел у пратэстах у Мінску, у тым ліку шляхам аплаты штрафаў і вяртаннем сродкаў на ўтрыманне ў ЦІП і ІЧУ.

Паводле паведамлення МУС, Аляксандраў з 22 жніўня да 9 лістапада аплаціў 250 штрафаў.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2.

*25 красавіка — дні народзінаў яшчэ ў некалькіх палітвязняў, пра якіх мы напішам у наступным нумары.*

*Зычым усім палітвязням-імяніннікам здароўя, волі і сустрэчы ў новай Беларусі.*



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №504

Падпісана да друку 15.04.2021. 8.00. Наклад 6600 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.